Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 4 (580)
КРАСАВІК
1987 г.

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.

---



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: у Троіцкім прадмесці.

Фота Віталя БАРАНОЎСКАГА.

---

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.02.87.
Падпісана да друку 16.03.87.
АТ 07577.
Фармат 70×108 1/8.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 15 419 экз.
Зак. 79.
Адрас рэдакцыі:
220005, Мінск,
вуліца Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.
220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна
Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.











**Як не хапала нам некалі менавіта такога табуна сталёвых коней! Як марыў Ільіч аб тым, каб хутчэй прыйшлі яны на падмогу сялянам! Цяпер гэтулькі машын выпускае штогод адзін толькі трактарны завод у Мінску. Будаўніцтва прадпрыемства пачалося на ўскраіне беларускай сталіцы ў 1946 годзе. Жыццё ўваходзіла ў мірную каляіну, упэўнена набірала тэмпы чацвёртая пяцігодка. Яшчэ не завершана было ўзвядзенне заводскіх карпусоў, а з канвеера пачалі сыходзіць першыя гусенічныя трактары КД-35, за імі ў хуткім часе пайшлі знакамітыя МТЗ-2. Адна з гэтых машын сёння стаіць на пастаменце ля прахадной прадпрыемства. «Беларусы» добра зарэкамендавалі сябе на палетках 83 краін свету. Ахвотна купляюць іх у нас аўстралійскія і амерыканскія фермеры, каапяратары на Мадагаскары і ў Алжыры. Трактары васьмі мадыфікацый выпускае вытворчае аб'яднанне «Мінскі трактарны завод» імя У. І. Леніна. А на стале ў канструктараў чарцяжы яшчэ больш дасканалых машын — тых, што мы ўбачым заўтра на зборачным канвееры...**





На здымках: (злева) галоўны зборачны канвеер Мінскага трактарнага сёння, а так ён выглядаў у 1953 годзе.
На гэтай старонцы (зверху — уніз): у сталеліцейным цэху ідзе чарговая плаўка. Больш як тры дзесяцігоддзі працуе на трактарным заводзе слесар-інструментальшчык Герой Сацыялістычнай Працы Яўген Іванавіч Клімчанка. А працоўная біяграфія слесара механазборачных работ камсамолкі Людмілы Браніславаўны Вірпш толькі пачынаецца — у мінулым годзе яна скончыла СПТВ-94 металістаў.

Дзмітрый ЛУПАЧ.

Фота аўтара.

НАШЫ ЗЕМЛЯКІ

НА ДАЛЁКІХ ШЫРОТАХ

## ПАСЯРЭДЗІНЕ ТАЙГІ

Тут, у Цюменскай вобласці, аб'ёмы работ нафтавікоў растуць імкліва. Вось параўнайце дзве лічбы: 20 тысяч метраў праходкі свідравін — заданне 1980 года. План 1987 года — 70.000!

Аўтары гэтага фотарэпартажу былі ў «краі чорнага золата» і шэсць гадоў таму, і — зусім нядаўна. Усё тыя ж 8 гадзін на ТУ-134, тыя ж самыя аэрапорты ў Цюмені, у Сургуце. Але! Ужо рэгулярна ходзяць паязды ў Наябрск, які









будавалі і будуюць юнакі і дзяўчаты з Мінска, Магілёва, Гродна, Брэста, Гомеля і Віцебска, ужо ля «самага беражка льдоў», на самай поўначы вобласці бурацца свідравіны. І ўжо не абстрактныя «рабочыя рукі рамантыкаў» патрэбны тут: толькі высокакваліфікаваныя рабочыя цікавяць сённяшніх нафтавікоў, будаўнікоў, транспартнікаў.

Не будзе памылкай сказаць, што прыкладна трэць здабытчыкаў багаццяў цюменскіх нетраў — нашы землякі. Беларуская мова — у вагонах паяздоў, у салонах самалётаў, на вуліцах Сургута, Ніжнявартаўска, Наябрска... Прыгадваюцца словы рэдактара газеты «Тюменский комсомолец» Віктара Пінігіна:

— Вядуць разведку, здабываюць нафту і газ, будуюць дарогі і пасёлкі, у асноўным — маладыя людзі. І гэта — зразумела. Паглядзіце падшыўку нашай газеты — часта герой рэпартажу, нарыса або кароткай нататкі гаворыць, што прыехаў сюды з Беларусі. А вось «героямі» крытычных карэспандэнцый, фельетонаў вашы землякі аказваюцца надзвычай рэдка...

**На здымках: нафтавы «маяк», а вакол — тайга; базавы пасёлак беларускіх геолагаў Пантынг; без спазнення на снеданне прыходзіць мядзведзіца Машка; сапраўднымі сібіракамі сталі ў пасёлку Пантынг браты Дзіма і Ваня Фешчанкі.**

Цюменская вобласць.

ХАДА Хада Хада ХАДА Хада

ЭКСПЕРЫМЕНТ

## ПАДАРЫ САБЕ КВАТЭРУ!

Людзей, якія не чулі аб ідэі стварэння маладзёжных жылых комплексаў, сёння гэтак жа мала, як і саміх гэтых комплексаў.

**Вось чаму звяртае на сябе ўвагу рашэнне Бабруйскага гарвыканкома аб будаўніцтве «мікрараёна маладых» на базе ВА «Бабруйскшына».**

Эксперымент прадугледжвае, што аднachасова з кватэрамі будуць узводзіцца магазіны, спортзбудаванні і іншыя аб'екты сацыяльна-бытавога прызначэння.

**Каля дзвюх тысяч сем'яў не будуць чакаць падарунка ад будаўнікоў, а самі — з першага квартала будучага года — пачнуць набліжаць дзень наваселля.**

КРОК У ПРАФЕСІЮ

## ХЛАПЧУКІ І ЧЫГУНКА

Мінскае вучылішча чыгуначнікаў існуе больш як 60 гадоў. **Нядаўна тут набыў прафесію 25-тысячны выпускнік. У СПТВ вучацца будучыя машыністы цеплавозаў і электравозаў, іх памочнікі, праваднікі, касіры, механікі, электраманцёры...** Для паспяховай вучобы створаны выдатныя ўмовы. Кабінеты і майстэрні аснашчаны сучасным абсталяваннем, ёсць добрая бібліятэка, працуюць гурткі мастацкай самадзейнасці, шматлікія спартыўныя секцыі.

**На здымку: выкладчык У. М. Гарашчэня сярод навучэнцаў.**



ПАДЗЕЙ
**падзей**
падзей
ПАДЗЕЙ
Хада падзей

Дарэчы, удзельнікам МЖК можа быць работнік аб'яднання ва ўзросце да 30 гадоў. Аднак — не любы. Адбор кандыдатаў праводзіцца па выніках сацыялістычнага спаборніцтва: галоўныя крытэрыі ў вызначэнні лепшых — паказчыкі вытворчай дзейнасці і грамадска-палітычная актыўнасць. Кантроль за ходам спаборніцтва і яго вынікамі будзе ажыццяўляцца адміністрацыяй, грамадскімі арганізацыямі і аргкамітэтам МЖК.

Пераможцы спаборніцтва атрымаюць права будаваць першы дом. Яны будуць адкамандзіраваны ў будтрэст № 13 для атрымання будаўнічай прафесіі і далейшай работы на будоўлі. Пры гэтым рабочае месца ў аб'яднанні за гэтымі людзьмі захаваецца. Толькі вось зарплату яны будуць атрымліваць у трэсце.

Хочацца спадзявацца, што энтузіясты на будпляцоўках МЖК не будуць ведаць ні аўралаў, ні прастояў, ні перабояў з забеспячэннем матэрыяламі.

г. Бабруйск.

**НАВУКА**

## ЯК ЗАЗІРНУЦЬ У «СЭРЦА» МАШЫНЫ?

**Выкладчыкі і студэнты Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута прымаюць актыўны ўдзел у выкананні гаспадарча-дагаворных работ. Тут створаны тры навукова-вытворчыя аб'яднанні. Многія распрацоўкі знайшлі шырокае прымяненне на прадпрыемствах машынабудавання, на хімічных вытворчасцях, у энергетыцы і сельскай гаспадарцы.**

Напрыклад, **па просьбе беларускіх энергетыкаў спецыялісты кафедры фізічных метадаў кантролю стварылі арыгінальнае прыстасаванне для абследавання цяжкадаступных участкаў машын: выкарыстоўваюцца ўласцівасці святлаводаў. Новае прыстасаванне робіць нескладаным і надзейным агляд абсталявання. Прымяненне яго дазваляе значна скараціць тэрмін рамонтных работ на электрастанцыях.**



**На здымку: старшы навуковы супрацоўнік Валянцін Аляксеевіч Шкаленка.**

г. Магілёў.

**ФОТАФАКТ**

## ДЛЯ ЦЯБЕ, ГАСПАДЫНЬКА!

У нашай рэспубліцы, у рэспубліках Сярэдняй Азіі, Грузіі, РСФСР карыстаецца попытам прадукцыя Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Гэта — хлебніцы, наборы для спецый, сувенірныя бачуркі, сальніцы... **З пачатку пяцігодкі на фабрыцы выраблена прадукцыі больш чым на 4 мільёны рублёў.**

**На здымку: мастакі роспісу па дрэве Т. Яфанава, Я. Ярафеева, Я. Яканчук, Я. Дзяшко, С. Буткевіч, М. Корчык, Т. Кравец.**

г. Пінск.



**ПРЭМ'ЕРЫ**

## НЯЛЁГКІ «ЛЁГКІ» ЖАНР

**Жанчына, каханне, лёс... Вечная тэма! Менавіта яе вылучылі ў складанай, вострахарактарнай сацыяльнай п'есе Бернарда Шоў «Мільянерка» стваральнікі аднайменнай музычнай камедыі — беларускі кампазітар Яўген Глебаў і лібрэтыст Вольга Іванова.**

Як вядома, народны артыст СССР Я. Глебаў плённа працуе ў розных жанрах, даўно супрацоўнічае і з музычным тэатрам — ім напісана шэсць балетаў, ажыццёўлены іх пастаноўкі. А да музычнай камедыі кампазітар звярнуўся ўпершыню. Не даводзілася працаваць у «лёгкім» жанры і В. Івановай: рэжысёр Маскоўскага акадэмічнага музычнага тэатра імя К. С. Станіслаўскага і У. І. Неміровіча-Данчанкі, яна спецыялізавалася на оперных пастаноўках. Праца над «Мільянеркай» — яе дэбют як аўтара лібрэта і вершаў. Яна ж ажыццявіла рэжысуру спектакля на сцэне Маскоўскага дзяржаўнага тэатра аперэты (дырыжор У. Гарэлік, мастак С. Бархін).

Такім чынам, музычная камедыя «Мільянерка», створаная на аснове п'есы Б. Шоў, упершыню ўбачыла святло рампы ў Маскве. Прэм'ера з удзелам зорак маскоўскай аперэты Зоі Івановай і Герарда Васільева адбылася ўлетку мінулага года і мела шырокі поспех. А зусім нядаўна «Мільянерка» Я. Глебава з'явілася ў рэпертуары Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР.

**СПАБОРНІЦТВА**

## КУХНЯ ДЛЯ ЦЯЛЯТ

Жывёлаводы калгаса «Маяк камуны» — лідэры сацыялістычнага спаборніцтва работнікаў сельскай гаспадаркі Аршанскага раёна. Рэкордныя паказчыкі дасягнуты тут калектывам комплексу па адкорму буйной рагатай жывёлы: **штосутачнае прыбаўленне ў вазе цялят сёння перавышае планавае на сто пяцьдзесят грамаў і складае больш за 900 грамаў.** Сто восемдзесят галоў маладняку даглядае адзін аператар. І робіць гэта без асаблівага напружання. Таму што тут праведзена аўтаматызацыя ўсіх тэхналагічных працэсаў.

**На здымку: начальнік цэха Клаўдзія Іванаўна Лукашынская.**

Аршанскі раён.






# З імем Леніна, дарогай рэвалюцыі!

# КРАІНА НА ВЯЛІКАЙ БУДОЎЛІ

У развіцці эканомікі Савецкай Беларусі ёсць паваротныя перыяды. Адзін такі паварот азначыў чацвёрты пяцігадовы план, прыняты ў 1946 годзе і названы планам аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі Беларускай ССР. Зразумела, што цэнтральнай у ім была задача аднаўлення ўсёй разбуранай вайной гаспадаркі. Але, разам з гэтым, у ім былі закладзены напрамкі структурных перамен на два наступныя дзесяцігоддзі.

Агульная тэарэтычная канцэпцыя чацвёртага пяцігадовага плана — павышэнне дабрабыту народа — захоўвала поўную пераемнасць стратэгіі камуністычнай партыі, што была прынята ў гады першых пяцігодак. Яна прадугледжвала таксама завяршэнне індустрыялізацыі, калектывізацыі, культурнай рэвалюцыі. Такім чынам, чацвёрты пяцігадовы план акумуліраваў шэраг з'яў і працэсаў, якія мелі месца ці толькі пачыналі фарміравацца ў жыцці сацыялістычнай Беларусі.

Аднаўленне народнай гаспадаркі перш за ўсё трэба было пачынаць з адраджэння поўнасцю знішчаных 209 гарадоў і 9200 сёл і вёсак, прадпрыемстваў, што знаходзіліся ў іх, устаноў навукі, культуры, аховы здароўя, асветы. Агульны матэрыяльны ўрон, які прычыніла вайна, вылічаўся 7,5 мільярдамі рублёў і быў у 42 разы большы, чым сума ўсіх даходаў дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР у 1945 г. У 1985 г. даходы дзяржаўнага бюджэту рэспублікі склалі 8,1 млрд. рублёў. Як бачна, каб дасягнуць сумы страт ад вайны, суаднесены ў грашовай ацэнцы з памерам даходаў, спатрэбілася 40 гадоў настойлівай працы нашага народа.

Аб'ём прамысловай прадукцыі ў 1945 годзе склаў толькі 20 працэнтаў узроўню, які быў дасягнуты ў 1940 годзе, у сельскай гаспадарцы, ва ўсіх катэгорыях гаспадарак, узровень вытворчасці мяса ў забойнай вазе склаў 32,5 працэнта, малака — 44,7 працэнта, яек — 30,9 працэнта. Доля калгасаў у вытворчасці гэтых прадуктаў знізілася адпаведна да 7,3, 3,4 і 1,3 працэнта. Ураджайнасць азімага жыта раўнялася 6,5 ц з гектара, азімай пшаніцы — 7,7 ц. На пяць калгасаў прыпадаў адзін аўтамабіль і на 2,5 калгаса — адзін трактар. Вастрэйшай для гарадской і сельскай мясцовасці была жыллёвая праблема — без прытулку засталося каля 3 млн. чалавек.

Цяжкія вынікі спусташальнай вайны трэба было ліквідаваць у сціслыя тэрміны, і гэта стала мэтай плана аднаўлення народнай гаспадаркі. Пяць гадоў гераічнай працы беларускага народа, разам з усімі народамі СССР,— гэта рост аб'ёму валавой прадукцыі амаль у 6 разоў, вытворчых фондаў — больш чым у 4 разы. Капітальныя ўкладанні, у супараўнальных цэнах, склалі 1491 млн. рублёў і перавысілі на 314 млн. рублёў капітальныя укладанні за першую, другую і тры з паловай гады трэцяй пяцігодкі. За 1944—1955 гг. было пабудавана і аднаўлена жылых дамоў з агульнай (карыснай) плошчай 21 497 тыс. кв. м, у той час як за 1929—1941 гг. іх было пабудавана 4799 тыс. кв. м. Колькасць рабочых і служачых у 1950 годзе дасягнула 1038 тыс. чалавек, з іх у прамысловасці было занята 346 тысяч.

Да канца пяцігодкі па тэмпах росту валавой прадукцыі прамысловасць Беларусі перавысіла сярэднесаюзны ўзровень. Далейшы ход структурнай перабудовы і рост вытворчасці, узяты ў чацвёртай пяцігодцы, вырашыў тэмп руху галін прамысловасці на многія наступныя гады. Аднак не ўсе прадпрыемствы працавалі рытмічна. Вытворчасць металарэзных станкоў у 1950 годзе была меншай на 20 працэнтаў, чым у 1940 г., паперы — на 22 працэнты, бялізнавага і верхняга трыкатажу, панчошна-шкарпэтачных вырабаў — больш чым на 60 працэнтаў. Аб'ём валавой прадукцыі прамысловасці Віцебскай вобласці на 40 працэнтаў быў ніжэй передваеннага ўзроўню.

У цэлым галоўныя мэты аднаўлення народнай гаспадаркі, намечаныя чацвёртым пяцігадовым планам, былі дасягнуты. У выніку яна павінна была выйсці на новыя якасныя рубяжы.

Асноўным звяном развіцця ўсёй народнай гаспадаркі заставалася энергетыка. Магутнасць электрычных станцый меркавалася павялічыць на 243 тысячы кілават і давесці выпрацоўку электраэнергіі ў 1950 г. да 650 мільёнаў кілават-гадзін. Ставілася задача стварыць на тэрыторыі рэспублікі тры энергасістэмы (мінская, паўднёвая, паўночная). Вырысоўваліся таксама контуры чацвёртай энергасістэмы (заходнія вобласці). У перадваенныя гады ядро структуры машынабудавання абумоўлівалі заводы станкабудавання і сельскагаспадарчага машынабудавання. Цяпер жа, апрача будаўніцтва новых чатырох станкабудаўнічых заводаў, пачыналася будаўніцтва аўтамабільнага, трактарнага і веласіпеднага заводаў. Аўтамабільная, трактарная, радыётэхнічная прамысловасці ў наступныя пяцігодкі сталі вядучымі ў машынабудаўнічым комплексе Беларускай ССР.

Былі структурныя зрухі і ў лёгкай прамысловасці. Тэхналагічнае, арганізацыйнае і эканамічнае развіццё гэтых галін вяло да вылучэння новых вырабаў, да стварэння шырокай сістэмы ўнутрыгаліновай і міжгаліновай спецыялізацыі і кааперацыі як унутры рэспублікі, так і з многімі прадпрыемствамі краіны.

Мянялася і эканамічнае раяніраванне рэспублікі. Калі ў першым пяцігадовым плане тэрытарыяльныя зрухі вытворчасці завяршыліся ўтварэннем двух індустрыяльных раёнаў — Віцебскага і Гомельскага, дык у чацвёртым пяцігадовым плане праектаваліся тры ўжо ўтвораныя і адзін, што яшчэ фарміраваўся. Паўночная частка рэспублікі разглядалася як асноўны раён тэкстыльнай прамысловасці, цэнтральная — металаапрацоўчай і машынабудавання, поўдзень (Палеская і Пінская вобласці) — дрэваапрацоўчай. Чацвёрты раён — заходняя частка рэспублікі. У плане зазначалася, што гэты раён патрабуе асаблівай пільнай увагі. Гэтым вызначаўся курс на індустрыялізацыю заходніх абласцей рэспублікі. Цікава адзначыць, што ў праграцоўках чацвёртага пяцігадовага плана быў беларускі пераробны металургічны завод, сыравінай для якога намячаўся, у асноўным, лом металу, што застаўся пасля вайны. Аднак наяўная база сыравіны для такога завода стала дастатковай толькі праз шмат дзесяцігоддзяў.

Чацвёрты пяцігадовы план Беларускай ССР быў часткай плана аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі краіны, і выкананне яго абумовіла далейшыя поспехі ў эканоміцы.

Чацвёрты пяцігадовы план быў паспяхова выкананы дзякуючы энтузіязму і гераічнай працы людзей, дзякуючы дружбе і ўзаемадапамозе брацкіх народаў, моцнаму саюзу савецкіх сацыялістычных рэспублік.

Так, у лістападзе 1948 года Савет Міністраў СССР прыняў пастанову «Аб мерах дапамогі сельскай гаспадарцы Беларускай ССР у 1949 г.», адпаведна якой БССР выдзелена 3 тысячы трактароў, 1,2 тысячы сеялак, 2,8 тысячы сарціровак і трыераў, 600 малацілак і іншых сельскагаспадарчых машын, павялічаны пастаўкі мінеральных угнаенняў.

Краіна слала беларускаму народу вугаль Данбаса, бавоўну Узбекістана, машыны і станкі з Урала і Сібіры, кнігі і падручнікі, прамысловыя, харчовыя і будаўнічыя тавары.

У рэспубліцы ішла вялікая будоўля.

**Леангард ЧАРНЫШ,**
**доктар эканамічных навук.**

...Мая дарагая Радзіма,
Шчаслівыя мы з табой!

Мы ў працы будуем,
Узводзім
Палацы,
каналы,
масты...
Мая дарагая Радзіма,
Уся ў рыштаваннях ты!

Усюды —
Далёка і блізка —
Жаданая ява ўстае...
Як гляну на плошчы
Мінска,
Аж сэрца маё пяе.

Што ў казцы,
Падпёршы неба,
Між ліп стаяць карпусы.
Калісьці на ўсёй Беларусі
Не зналі такой красы.

Трактары мінскае маркі
Ідуць у палі
Чарадой,
Людзі са ўсёй Беларусі
Сілы не зналі такой.

**Пятрусь БРОЎКА.**

*ЛЕТАПІС ПЯЦІГОДКІ*

## 1946

**ВЕРАСЕНЬ.** VIII сесія Вярхоўнага Савета БССР 1-га склікання прыняла Закон аб 5-гадовым плане аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі БССР на 1946—1950 гады.
**СНЕЖАНЬ.** Пастанова Савета Міністраў СССР і ЦК ВКП (б) «Аб мерах дапамогі ў аднаўленні раёнаў Беларускай ССР, якія асабліва пацярпелі ад акупацыі».

## 1947

**ЛІПЕНЬ.** Увод у дзеянне 1-й чаргі Мінскага тонкасуконнага камбіната.
**КАСТРЫЧНІК.** Выпуск першага беларускага аўтамабіля-самазвала МАЗ-205 на Мінскім аўтазаводзе.
**ЛІСТАПАД.** Здача ў эксплуатацыю 1-й чаргі дыванова-плюшавага камбіната ў Віцебску.
**14 СНЕЖНЯ.** Пастанова Савета Міністраў СССР і ЦК ВКП (б) аб правядзенні грашовай рэформы і адмене картачнай сістэмы.

## 1948

**16 САКАВІКА.** Адкрыццё аднаўленага Дома I з'езда РСДРП у Мінску (22 снежня адкрыты музей).
**КРАСАВІК.** Увод у дзеянне Мінскага гіпсавага завода.
**МАЙ.** Пуск адбудаванай 1-й чаргі фабрыкі штучнага шоўку імя Куйбышава ў Магілёве.
**5 ЧЭРВЕНЯ.** Прысваенне Г. П. Глебаву звання народнага артыста СССР.
**1 КАСТРЫЧНІКА.** Адкрыццё Мінскага педагагічнага інстытута замежных моў.
**8 ЛІСТАПАДА.** Пастанова Савета Міністраў СССР «Аб мерах дапамогі сельскай гаспадарцы Беларускай ССР у 1949 г.».
**30 СНЕЖНЯ.** Прысваенне Б. В. Платонаву, П. С. Малчанаву звання народных артыстаў СССР.

## 1949

**25 СТУДЗЕНЯ — 3 ЛЮТАГА.** Дэкада беларускай літаратуры ў Маскве.
**15—18 ЛЮТАГА.** XIX з'езд КП/б/Б.
**20—24 ЧЭРВЕНЯ.** II з'езд пісьменнікаў БССР.

## 1950

**17 ВЕРАСНЯ — 15 КАСТРЫЧНІКА.** Рэспубліканская прамысловая выстаўка ў Мінску.
**14 КАСТРЫЧНІКА.** Адкрыццё Брэсцкага педагагічнага інстытута.
**ЛІСТАПАД.** Выпуск 1-га трактара (гусенічнага КД-35) на Мінскім трактарным заводзе.



# ПАЗНАЙЦЕ СЯБЕ МАЛАДЫХ...

**Так, вы былі тады маладыя. Памятаеце! Маладосць заўсёды непаўторная. А гэтыя гады былі незвычайныя. Скончыліся цяжкія, пакутлівыя гады вайны. Краіна залечвала раны, адбудоўвала свае гарады і пасёлкі, узводзіла заводы. Колькі было неадкладнай работы! Разгарнулася сацыялістычнае спаборніцтва за выкананне пяцігадовага плана адбудовы краіны. На будаўніцтва і ў прамысловасць рэспублікі ў 1946 годзе прыйшло 30 тысяч юнакоў і дзяўчат.**

**Кім і калі зроблены вось гэтыя здымкі — невядома. Яны сведчаць аб адным — гэтыя маладыя людзі працуюць на будоўлях рэспублікі, падымаюць яе з руін. І гэты юнак, у форме ФЗН, у Брэсце (бачыце вакзальны гадзіннік!), і гэтая прыгажуня-дзяўчына, што ўжо валодае кельмай, і другая — якая, мусіць, яшчэ толькі прыглядаецца да работы майстра, падсабляе яму, і тыя, якія на тачках падвозяць цэглу, замешваюць раствор, відаць, на вялікай будоўлі.**

**Імён іх мы не ведаем, але так хочацца, каб людзі пазналі сябе, убачылі на гэтых здымках сябе маладых, успомнілі тыя цяжкія і радасныя дні адбудовы краіны, калі прыйшоў на нашу зямлю жаданы мір. Успомніце сябе маладых, пазнайце і напішыце нам.**

**Ніна ВАСІЛЬЕВА.**







# Дзякуй роднай Савецкай уладзе!

Я — удава. Мой муж загінуў на фронце. У першы год вайны, пакінуўшы на мяне пяцёра дзяцей. Самай старэйшай дзяўчынцы цяпер 15 гадоў. Усе гаварылі мне: «Не бядуй, Фядора, не такі цяпер свет, каб забыцца на ўдаву, чый гаспадар загінуў за шчасце ўсіх, за Савецкую ўладу». Сталася так, як людзі казалі,— не пакінулі мяне ў бядзе. Неяк страчае мяне старшыня сельсавета таварыш Кулікаў. «Прыемная для вас, Фядора Іванаўна, навіна,— гаворыць.— Адпускае вам дзяржава грошай на дом. Пляц трэба выбіраць». У мяне сэрца так і застукала. Ад вялікай радасці нічога яму і адказаць не змагла...

Цяпер ў людзей хаты стаяць і ў мяне ўжо гатовы зруб. Мужчыны дошак напілавалі, асадку зрабілі. Праз тыдні тры я буду жыць у новай хаце. Падрастуць мае самыя меншыя, запытаюць: «Хто зрабіў нашу хату?» Адкажу: «Улада наша Савецкая, дзякуй ёй, не забыла пра ўдаву — дапамагла ў цяжкую хвіліну. А вы памятайце гэта і служыце Савецкай уладзе чэсна. У гэтым ваша шчасце»...

**Фядора ШЫКАРЭЎСКАЯ, калгасніца сельгасарцелі «Запаветы Ільіча» Ліхачоўскага сельсавета.**

Горацкі раён, Магілёўскай вобласці.

**Гэта пісьмо сялянкі надрукавала газета «Звязда» ў 1947 годзе. Яно кранае, кранае непасрэднасцю і чуласцю, а яшчэ — светлым пачуццём удзячнасці Радзіме, нашай Савецкай уладзе. І хочацца ведаць болей... Хочацца ведаць, ці збераглі дзеці запавет маці, ці знайшлі сваё шчасце, тое шчасце, якое яна ім наканавала. Ці памятаюць гэта тыя, каму Савецкая ўлада дапамагала ў цяжкую гадзіну. Не так проста было знайсці ёй грошы на дамы, школы, бальніцы, аднаўляць гарады і вёскі. Толькі ў Горацкім раёне, адкуль пісала Фядора Шыкарэўская, фашысты зруйнавалі 90 вёсак, спалілі 5179 дамоў калгаснікаў, 1725 грамадскіх пабудоў. А такіх раёнаў было шмат. І трэба было дапамагаць удовам, ратаваць сірот. Ці памятаюць яны пра гэта!**

## ПА СТАРОНКАХ ТАГАЧАСНЫХ ГАЗЕТ

● БАРАНАВІЧЫ. Днямі тут адбылася першая абласная канферэнцыя жанчын. Каля 300 жанчын-актывістак, членаў участковых і акруговых выбарчых камісій, давераных асоб, агітатараў, з'ехалася на гэтую канферэнцыю.

● Беларускаму паэту Петрусю Броўку за новыя паэмы «Хлеб», «Думы пра Маскву» і вершы «Брат і сястра», «Народнае дзякуй», «Каб мне стаць», «Спатканне» прысуджана Сталінская прэмія.

● Грузчыкі Рэчыцкага леспрамгаса паспяхова выконваюць узятае абавязацельства аб датэрміновым выкананні гадавога плана адгрузкі Данбасу будаўнічага лесу і крапяжу. У маі адпраўлена ў адрас усесаюзнай качагаркі звыш плана 38 вагонаў з лесам.

**«Звязда», 1947 г.**

● У цэнтры жылога гарадка Мінскага трактарнага завода паскоранымі тэмпамі будуецца школа-дзесяцігодка. Памяшканне яе будзе трохпавярховае, плошчай болей чым 2.000 квадратных метраў.

● Каля 40 калгасаў атрымаюць святло ад Лукомльскай гідраэлектрастанцыі, якая будуецца на рацэ Лукомль у Чашніцкім раёне Віцебскай вобласці. Будаўніцтва гэтай вялікай міжкалгаснай станцыі было запраектавана яшчэ да вайны. Тады пачаліся і першыя работы, але ўсё, што ўдалося пабудаваць, парушана нямецкімі акупантамі. Праект станцыі захаваўся, і пасля скančэння вайны зноў пачаліся работы.

● Індывідуальным абучэннем непісьменных сялян займаецца інтэлігенцыя Скідальскага раёна Гродзенскай вобласці. Настаўнікі Абухаўскай сямігадовай школы навучаюць 45 непісьменных.

**«Советская Белоруссия», 1948 г.**

● 2 лютага ў Бюро нацыянальных камісій Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР былі абмеркаваны новыя творы беларускіх празаікаў — «Глыбокая плынь» І. Шамякіна, «Вяснянка» Т. Хадкевіча і зборнік апавяданняў І. Мележа «Гарачы жнівень».

**«Літаратура і мастацтва», 1949 г.**

● ГОМЕЛЬ. Аўтатранспартная кантора атрымала 4 машыны маркі «Победа» для выкарыстання іх у якасці таксі. Машыны пачалі курсіраваць па вуліцах абласнога цэнтра.

● 23 чэрвеня ў цэнтральным скверы горада Мінска адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка выдатнаму дзеячу савецкай літаратуры, народнаму паэту БССР Янку Купалу.

● ГРОДНА. Зараз на курортах Крыма, Каўказа і ў санаторыях Рыжскага ўзмор'я адпачываюць звыш 100 працоўных вобласці. Сярод іх — слесар-стаханавец Гродзенскага паравознага дэпо Гаеўскі, лепшы машыніст Лідскага паравознага дэпо Чвалаў.

У санаторыі Крыма і Каўказа выехалі 70 настаўнікаў.

● ВІЦЕБСК. 31 студзеня. Сёння намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР таварыш Р. Н. Мачульскі па даручэнню Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР уручыў ордэны і медалі СССР вялікай групе работнікаў прамысловасці, сельскай гаспадаркі і былых партызан, узнагароджаных у сувязі з 30-годдзем БССР.

Ордэны Леніна ўручаны прафесару І. І. Багдановічу, народнаму артысту БССР, лаўрэату Сталінскай прэміі А. К. Ільінскаму, фрэзероўшчыку завода імя Камінтэрна Л. У. Казлову, Герою Савецкага Саюза М. П. Шмырову, настаўніку П. А. Васільеву і другім.

**«Звязда», 1949 г.**

● Вучні старэйшых класаў Крэўскай сярэдняй школы Смаргонскага раёна Маладзечанскай вобласці з'яўляюцца актыўнымі арганізатарамі падпіскі на газеты і часопісы сярод сялян. Толькі ў сакавіку яны распаўсюдзілі 90 розных газет на працяглы тэрмін.

● У сувязі са спаўняючымся ў верасні 20-годдзем з дня смерці вядомага беларускага паэта П. Труса, прэзідыум праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР рашыў апублікаваць у друку артыкулы аб жыцці і творчасці паэта. У Мінску будзе праведзены літаратурны вечар, прысвечаны памяці П. Труса. Камітэт па радыёфікацыі пры Савеце Міністраў БССР арганізуе спецыяльныя перадачы аб паэце.

● У сяле Зяльвяны Мастоўскага раёна адкрыўся кніжны магазін. Тут ёсць вялікі выбар палітычнай, сельскагаспадарчай, мастацкай і дзіцячай літаратуры.

**«Савецкі селянін», 1949 г.**

*Падлічана, што Уладзіміра Ільіча Леніна здымалі для кіно трыццаць чатыры разы. На вялікі жаль, частка адзнятага матэрыялу аказалася непрыгоднай для паказу на экране. Захавалася ўсяго дваццаць два ролікі — 800 метраў плёнкі. Прымітыўная тагачасная апаратура не дазваляла здымаць у памяшканні, а ў непагадзь — і пад адкрытым небам. Кінаапаратарам даводзілася праяўляць вынаходлівасць і ўсё сваё ўмельства.*

Першым здымаў Леніна для кіно Аляксандр Лемберг. Вясной 1917 года маскоўская прыватная кантора Ламашкіна, у якой Лемберг служыў, накіравала яго ў Петраград раздабыць кінаплёнку. Апаратару пашчасціла купіць яе, і ён ужо збіраўся ад'язджаць, калі пачуў, што Ленін вярнуўся з эміграцыі і будзе выступаць перад рабочымі, салдатамі і матросамі з балкона асабняка Кшасінскай, дзе ў той час знаходзіўся Цэнтральны Камітэт РКП (б).

Лемберг прыгадваў: «Я ўладкаваўся з кінаапаратам у першых радах, амаль насупраць балкона, і зняў на некалькіх метрах плёнкі выступленне таварыша Леніна...»

На вуліцы каля асабняка стала так цесна, што не было дзе яблыку ўпасці, а людзі ўсё ішлі і ішлі. Тады ў Цэнтральным Камітэце вырашылі перанесці мітынг на Марсава поле. Кінаапаратар хацеў прадоўжыць здымкі там, але не мог прыдумаць, як яму дабрацца да месца. «Таварыш Ленін падняўся ў грузавую машыну,— гаварыў Лемберг,— балтыйскія матросы, якія яго суправаджалі, прапанавалі мне сесці з імі ў той жа грузавік».

На Марсавым полі Лемберг некалькі разоў уключаў свой апарат. Ён не пашкадаваў ста дваццаці метраў самай якаснай плёнкі, набытай у замежных маракоў па дарагой цане.

«Аднак мой гаспадар Ламашкін,— успамінаў Лемберг,— чакаў плёнку, патрэбную яму для пацешных кінакамедый і слязлівых кінадрам. А калі прагледзеў зняты матэрыял і ўбачыў на экране бальшавіцкі мітынг, раз'юшана закрычаў: «Хто дазволіў?.. Навошта Вы здымалі Леніна?»

Апаратара прымусілі ўнесці ў касу канторы грошы за «сапсаваную» плёнку, а ў хуткім часе яго наогул пазбавілі работы. Гаспадар не быў бы гаспадаром, калі б не знайшоў спосабу яшчэ раз кампенсаваць свае «страты». За вялікія грошы ён прадаў за мяжу фільм «Два выступленні галоўнага бальшавіка Ульянава-Леніна ў Петраградзе».

Кіно данесла да нас святочную атмасферу першамайскага мітынгу 1918 года, на якім двойчы выступаў У. І. Ленін. Паўторана выступленне было дзеля таго, каб як мага больш людзей пачула яго (не тое, што ўзмацняльнікаў — нават звычайных рупараў тады яшчэ не было). Красная плошча запаўнялася калонамі, калі ў небе з'явіўся самалёт. Тысячы вачэй сачылі за яго палётам. Застракаталі кінакамеры — апаратары спяшаліся зняць эфектныя імгненні.

«Мы, хранікёры, баяліся толькі аднаго: каб гэты адрамантаваны да свят самалёт не рухнуў альбо не сеў на плошчы,— прыгадваў у гутарцы з аўтарам гэтых радкоў знакаміты савецкі кінаапаратар Эдуард Цісэ, які быў знаёмы з Леніным і неаднаразова здымаў яго.— Але ўсё абышлося, і самалёт вельмі ўпрыгожыў першамайскае свята 1918 года ў Маскве».

...30 жніўня 1918 года пасля выступлення перад рабочымі завода Міхельсона Уладзімір Ільіч быў цяжка паранены ворагамі рэвалюцыі. Уся краіна сачыла за станам здароўя правадыра. Мінула два тыдні. У. Д. Бонч-Бруевіч успамінаў: «Калі Ільіч стаў ачуньваць пасля свайго ранення і калі дактары дазволілі яму хадзіць, мне здалося неабходным зрабіць здымку Уладзіміра Ільіча і паказаць фільм на шматлікіх рабочых сходах. Я сказаў яму, што рыхтуецца здымка ў час прагулкі яго ў Крамлі. Спачатку ён не вельмі хацеў гэта рабіць, бо быў заклапочаны неадкладнай справай.

— Ну, навошта вам гэтая самая здымка, мяне і так бясконца здымалі.

— Але вас не бачылі рабочыя пасля таго, як вы падняліся з ложка. Хаця ў газетах пра вас пішуць многа, усё роўна рабочыя жадаюць вас бачыць сваімі вачамі...

Уладзімір Ільіч ішоў хуткай хадой, я хацеў сцішыць яе, бо ведаў, што яму так ісці па лесвіцы шкодна. Але ён не слухаўся, і мы вельмі хутка выйшлі ў пад'езд кіраўніцтва справамі.

Па дарозе мы сустракалі прахожых, якія са здзіўленнем паглядалі на Уладзіміра Ільіча. Яны аглядаліся, не верачы, што Ільіч зноў на нагах, весела смяецца, энергічна ходзіць. Ленін, захоплены размовай, не звяртаў увагі на здымачны апарат. Калі здымка закончылася, Ільіч пацікавіўся жыццём і працай кінематаграфістаў (здымаў А. Вінклер, дапамагаў яму В. Бяляеў.— **А. С.**), а затым папрасіў іх да выпуску фільма на экран прадэманстраваць яму ўсе знятыя ў той дзень кінакадры».

Праз некалькі дзён Леніну паказалі стужку. Дзякуючы шчодраму сонечнаму святлу кадры атрымаліся светлыя і выразныя. Ленін убачыў сябе на экране. Вось ён стаіць у касцюме і кепцы каля пад'езда палаца, крочыць па Сенацкай плошчы. Затым Ленін зняты з блізкай і аддаленай дыстанцыі і ў розных ракурсах. Зняты з выключным майстэрствам, нягледзячы на недасканалую тэхніку. Вось ён на фоне Цар-пушкі, будынка арсенала, на тратуары, вымашчаным старажытнымі плітамі.

Фільм неўзабаве выйшаў на экран пад назвай «Прагулка Уладзіміра Ільіча ў Крамлі». Гэтыя кадры добра захаваліся да нашых дзён, іх штодзень паказваюць наведвальнікам музея У. І. Леніна ў Маскве.

Запамінаецца момант: Уладзімір Ільіч размаўляе з Бонч-Бруевічам непадалёку ад славутай Цар-пушкі. Трымаецца абодва проста і натуральна, не звяртаючы ўвагі на здымку. Нават вопытным кінематаграфістам на прагляздзе здаецца, што здымкі вяліся з выкарыстаннем сучаснага прыёму — скрытай камерай.

Звяртаеш увагу і на кадр, у якім Уладзімір Ільіч двойчы ўзнімае ўгору яшчэ не зусім загоеную руку. Эдуард Цісэ расказваў мне, што Ленін рабіў гэта па просьбе апаратара, які хацеў падкрэсліць на экране, што Уладзімір Ільіч ужо валодаў сваёй левай рукой пасля цяжкага ранення.

Пра свае сустрэчы з У. І. Леніным Э. Цісэ гаварыў:

«У летні дзень 1919 года я здымаў рабочых на Краснай плошчы. Яны прыйшлі туды з розных фабрык і заводаў, у руках трымалі рэчавыя мяшкі і вінтоўкі, апяразвалі іх кулямётныя стужкі і патранташы. Мне сказалі, што адразу з плошчы яны пойдуць на фронт. Праводзілі рабочых жонкі, дзеці. Неспадзявана я адчуў штуршкі і рух натоўпу. Дзеці і дарослыя, углядаючыся ў адну кропку, паўтаралі: «Ленін, Ленін! Вось ён ідзе». Уладзімір Ільіч ішоў павольнай спакойнай паходкай, у яго быў задумлівы і засяроджаны выгляд. Калі ён углядаўся ў людзей, твар яго асвятляла прывабная ветлівая ўсмешка. Ільіч быў у сваім нязменным чорным дэмісезонным паліто і ў шэранькай кепцы. Не дайшоўшы да грузавіка, ён спыніўся, выняў маленькі блакнот, аловак, нешта запісаў і, не спяшаючыся, зноў паклаў у кішэню. Ільіч падышоў да аўтамабіля і, убачыўшы мяне з апаратам, сказаў: «Як найменей, таварыш, здымайце мяне і як найболей тых, хто будзе мяне слухаць — таварышаў, што адыходзяць на фронт».

Рабочыя падсадзілі Уладзіміра Ільіча ў кузаў аўтамабіля. У гэты момант упершыню ў сваім жыцці я здымаў Леніна. Ільіч стаяў спіною да апарата. Я прыйшоў у адчай, сціснуты з усіх бакоў натоўпам. Але Уладзімір Ільіч сам памог мне. Павярнуўшыся на секунду і ўбачыўшы мой пакутлівы твар, ён спачувальна ўсміхнуўся і стаў так, каб я мог бачыць яго і здымаць.

Зноў здымаў я Леніна ў час другога кангрэса Камінтэрна ў Петраградзе ў 1920 годзе. Вялікая зала была перапоўнена. Сабраліся дэлегаты розных краін і кантынентаў. Многія былі ў сваім нацыянальным адзенні. У палац я прыйшоў загадзя, азнаёміўся з размяшчэннем пакояў і залаў, з умовамі электраасвятлення, вызначыў месца

# БЫЎ СВЕТЛЫ СОНЕЧ









здымак і выйшаў у сад. Па сцежцы між дрэў хутка набліжаўся Уладзімір Ільіч. Дэлегаты сустрэлі яго каля пад'езда. Завязалася ажыўленая размова. Калі паднеслі ружы, Уладзімір Ільіч сарамліва ўсміхнуўся і паціснуў усім рукі. Ён заўважыў мяне з апаратам і, здагадаўшыся, што мне трэба, прыпыніўся каля пад'езда, каб я мог зрабіць здымку.

З'яўленне Леніна ў прэзідыуме выклікала авацыю. Усе спявалі «Інтэрнацыянал». Спяваў і Уладзімір Ільіч. Быць сведкам усяго гэтага і захаваць кінахранікёрскі спакой проста немагчыма. Хацелася і здымаць, і слухаць, і спяваць, і пляскаць у далоні...»

А саблівую каштоўнасць мае стужка, знятая на трэцім кангрэсе Камінтэрна ў 1921 годзе. У ёй — кадры, дзе Ленін, седзячы на прыступках трыбуны, занатоўвае нешта ў блакноце. Захоплены працаю, ён не заўважае апаратара Г. Гібера, які здымае яго з блізкай адлегласці. Пра гэта «Праўда» ў свой час пісала: «Мы ўжо звыкліся з кадрам, знятым на трэцім кангрэсе Камінтэрна — Ленін сядзіць на прыступках трыбуны і штосьці запісвае. Падумайце, да чаго ж гэты кадр незвычайны! Увявіце сабе любога вашага знаёмага, які займае больш-менш адказнае месца. Няхай гэта будзе проста дырэктар нейкага інстытута альбо ўстановы. Ці дазволіць ён сабе на афіцыйным шматлюдным пасяджэнні сесці на прыступкі, сагнуцца і ў такім становішчы рыхтавацца да выступлення? А Ленін дазваляў сабе такое! Ён не клапаціўся пра сваю веліч — пра гэта паклапацілася гісторыя».

На трэцім і чацвёртым кангрэсах Камінтэрна здымаў Леніна таксама М. Казлоўскі — чалавек з вельмі цікавай біяграфіяй. Былы фатограф, ён самастойна авалодаў прафесіяй кінаапаратара і ў 1908 годзе сумесна з А. Дранковым зняў першы рускі мастацкі фільм «Панізовая вольніца». Да 1917 года Мікалай Фёдаравіч Казлоўскі прыняў удзел у стварэнні 60 карцін. З 1927 года яго творчы лёс быў звязаны з Белдзяржкіно. Менавіта ён стаў апаратарам гісторыка-рэвалюцыйнага фільма «Яго яснавяльможнасць», першай беларускай кінамедыі «Джэнтльмен і певень», мастацка-прыгодніцкага фільма «Хвоі гамоняць» (паводле аповесці пісьменніка Анатоля Вольнага «Два»), першых навукова-папулярных і мультыплікацыйных стужак. Многія беларускія кінематографісты лічаць Мікалая Казлоўскага сваім настаўнікам.



# ...НЫ ДЗЕНЬ...

## ТАК ПАЧЫНАЛАСЯ ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ КІНАЛЕНІНІЯНА

● У. І. Ленін выступае з прамовай на Краснай плошчы ў час свята ўсенавуча. (Здымак з кінакадра, знятага 25 мая 1919 года апаратарам А. Лявіцкім.)

● Захоплены працаю, Уладзімір Ільіч не заўважае апаратара Г. Гібера, які здымае яго з блізкай адлегласці.



Варта адзначыць, што Уладзіміра Ільіча Леніна здымалі таксама замежныя кінаапаратары. Адзін з іх — француз Луі Фарэсье — да Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў на маскоўскай кінафабрыцы Ханжонкава. Ён зняў фільмы «Яўгеній Анегін», «Ярмак», «Браты разбойнікі» і шэраг іншых. Пасля рэвалюцыі яму пашчасціла здымаць У. І. Леніна. У сваіх запісках апаратар расказвае:

«У 1920 годзе я працягваў працаваць апаратарам кінааддзела Массавета. Вясною таго года ў маім апаратарскім жыцці адбылася хвалюючая і незабыўная падзея. Нашу кантору наведаў прадстаўнік Массавета і ўручыў мне пропуск на плошчу Свярдлова, дзе перад добраахвотнікамі, гатовымі ісці на фронт, павінен быў выступаць Уладзімір Ільіч Ленін.

Быў вельмі светлы сонечны дзень, і, як толькі Уладзімір Ільіч пачаў гаварыць, я прыступіў да здымкі. Здымаў я некалькімі кавалкамі, з інтэрваламі. Мне чамусьці здалося, што шум майго апарата замінае Уладзіміру Ільічу. Гэтае адчуванне яшчэ болей павялічылася, калі я заўважыў, што Уладзімір Ільіч некалькі разоў зірнуў у мой бок, як мне здалося, з незадаволеным выглядам. Адысці я не мог, бо кадры атрымаліся б бляклыя. Падумаўшы момант, я вырашыў прадоўжыць здымку, не сыходзячы з месца. Я ж выконваў свой пачэсны абавязак. Дарэчы, неўзабаве мая адзіная касета скончылася, і я, спыніўшы працу, стаў слухаць прамову Уладзіміра Ільіча.

Але вось ён скончыў сваё выступленне, сышоў з трыбуны і накіраваўся да мяне. Я падумаў: «Вось зараз мне і перападзе за дакучлівасць». Але нічога падобнага не здарылася. Уладзімір Ільіч спыніўся, пагледзеў на мяне і на здымачны апарат, усміхнуўся і намерыўся ісці далей. Я набраўся адвагі і папрасіў прабачэння, што перашкаджаў яму трэскам свайго апарата. Уладзімір Ільіч вельмі ласкава адказаў: «Нічога, нічога. Кожны павінен рабіць сваю справу». Развітаўся і пайшоў у напрамку Вялікага тэатра...

Я глядзеў яму ўслед і раптам убачыў, як крокаў за дваццаць ад мяне Уладзімір Ільіч спыніўся і стаў пяшчотна гладзіць па галоўцы маленькую дзяўчынку, якая прайшла скрозь ачапленне. У мяне не было нават метра плёнкі, і я не мог гэта зняць.

З вельмі кепскім настроем накіраваўся я ў лабараторыю і заспакоіўся толькі тады, калі высветлілася, што негатыў выдатны».

Апіраючыся на вопыт увасаблення ленінскай тэмы, выдатны савецкі кінематографіст Дзіга Вертаў стварае ў 1933 годзе поўнаметражны мастацка-публіцыстычны дакументальны фільм «Тры песні пра Леніна», які дагэтуль лічыцца адной з вяршынь кіналенініяны. Гэта — цудоўная лірыка-эпічная кінапаэма, створаная на дакументальным і фальклорна-песенным матэрыяле. Кожны кадр тут прасякнуты хвалюючай паэзіяй. Складаная сюжэтная пабудова, вынаходлівасць, цікавыя кінематаграфічныя знаходкі, нечаканыя мантажныя злучэнні — сведчанне сапраўднай таленавітасці аўтара стужкі.

«Тры песні пра Леніна» пачыналіся з надпісу: «У розных кутках зямлі, у краінах Еўропы, Амерыкі і Афрыкі, за Палярным кругам спяваюць песні пра Леніна, пра друга і вызваліцеля прыгнечанага чалавека.

Ніхто не ведае безыменных аўтараў гэтых песень, але яны, гэтыя песні, перадаюцца з вуснаў у вусны, з юрты ў юрту, з кішлака ў кішлак, з аула ў аул, з сяла ў сяло.

Матэрыялам для нашага фільма сталі песні Савецкага Саюза. Гэта песні пра жанчыну, якая скінула чадру, пра лямпачку, што прыходзіць у аул, пра ваду, што наступае на пустыню, пра непісьменных, якія сталі пісьменнымі, пра тое, што гэта і ёсць Ільіч — Ленін... Гэта песні пра барацьбу за новае шчаслівае жыццё, пра тое, што гэта і ёсць Ільіч — Ленін...

Ільіч — Ленін».

Аляксей СЛЕСАРЭНКА,
заслужаны дзеяч культуры БССР.

# СТАЛАСЦЬ



Бхішам Сахні.

## ЗАМЕСТ УСТУПУ

Гэтыя нататкі скла́ліся ў выніку маёй работы ў якасці эксперта па савецкай літаратуры Цэнтра рускіх даследаванняў універсітэта імя Джавахарлала Нэру ў Дэлі. У 1984 годзе гэты вядучы універсітэт Індыі быў узнагароджаны высокааўтарытэтнай прэміяй Фонду імя Д. Нэру менавіта за стварэнне буйнейшага ў краіне Цэнтра рускіх даследаванняў, дзе выкладаюцца руская мова і літаратура, гісторыя СССР, рыхтуюць навуковыя кадры. Прэмія ўручаецца за ўклад у развіццё і ўмацаванне савецка-індыйскай дружбы.

Мае нататкі звязаны з работай арганізаванага мною пры актыўнай падтрымцы індыйскіх выкладчыкаў дыскусійнага клуба аматараў рускай і савецкай літаратуры, які зрабіў першыя крокі.

Я пастараўся пазнаёміць таленавітага паэта, прызнанага прапагандыста савецкай літаратуры, прафесара Цэнтра рускіх даследаванняў В. Сінгха з культурай нашай рэспублікі. Ён прыняў жывы ўдзел у пасяджэннях дыскусійнага клуба.

Дапамаглі В. Сінгху разабрацца ў свеце сучаснай беларускай мастацкай думкі работы вядомых вучоных А. Адамовіча, С. Александровіча, Дз. Бугаёва, М. Грынчыка, В. Каваленкі, М. Лазарука, А. Мальдзіса, А. Лойкі, І. Навуменкі, А. Семяновіча, П. Ткачова, Ф. Янкоўскага.

В. Сінгх прачытаў па-руску і па-англійску творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, з сучасных паэтаў — Г. Бураўкіна, Н. Гілевіча, распытаў мяне пра іх. Я расказаў яму пра вядомых прадстаўнікоў сучаснай беларускай паэзіі. У В. Сінгха ўзнікла жаданне стварыць першую беларускую лірычную кнігу на хіндзі. І вось яна ўзнікла. Кніга з маёй прадмовай. Яна прыгожа выдадзена. Яе аб'ём 152 старонкі. Аўтарскія падборкі вершаў размешчаны перакладчыкам па прынятаму ў Індыі ўзроставаму прынцыпу.

Ведаючы энергічны характар В. Сінгха, яго сапраўдны густ да наватарства ў літаратуры, я радуюся яго інтарэсу да беларускай культуры, літаратуры, які ўзрастае.

У дыялогах, якія я прапаную чытачам, я імкнуўся захаваць манеру развагі сваіх субяседнікаў. Я кіраваўся думкай аб салідарнасці народаў у іх культурным тварэнні. Непазбежна закранаў адны і тыя ж тэмы, выказванні вядомых і аўтарытэтных людзей Індыі, якія не могуць не зацікавіць савецкіх людзей, хоць некаторыя, магчыма, выклічуць і пярэчанні. Што ж, няхай чытач паспрачаецца з пісьменнікам...

Валерый НЯФЕДАЎ.

Бхішам Сахні — выдатны пісьменнік, проза якога саткана з найтанчэйшых назіранняў і прасякнута вялікай цікавасцю і спагадай да людзей.

Пісьменнік надзелены вострым палітычным мысленнем. Ён з'яўляецца генеральным сакратаром Асацыяцыі пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі.

Цудоўны мастак, Б. Сахні актыўна змагаецца супраць сіл рэакцыі за прагрэс незалежнай Індыі. Як пісьменнік-дэмакрат Б. Сахні садзейнічае абуджэнню класавай самасвядомасці народа.

— Вы займаеце адказную пасаду кіраўніка пісьменніцкай арганізацыі, спалучаеце творчасць з грамадскай работай. Магчыма, вам шкада часу, затрачанага не на творчую працу?

— Мая работа ў якасці генеральнага сакратара дапаўняе маю творчасць. Як сакратар я ўступаю ў кантакты з мноствам пісьменнікаў. Такім чынам, я знаёмлюся з імі не толькі па іх кнігах. Я сустракаюся з імі твар у твар: што яны думаюць, што пішуць і чаму — я даведваюся аб гэтым. Перада мной пісьменнікі з розных частак краіны, з неаднароднай культурнай сферы. Яны сфарміраваліся на розным гістарычным фоне. Такі вопыт дапамагае мне зразумець маральныя і мастацкія традыцыі, да якіх гэтыя пісьменнікі датычацца, чалавечае асяроддзе, што парадзіла іх.

*— Барацьба за мір патрабуе ад чалавека мужнасці, вялікіх сіл. Дазвольце паставіць пытанне прама: чым можа дапамагчы пісьменнік Бхішам Сахні справе міру? Помню вашу даўнюю і характэрную для вас навелу «Медалі»...*

*У «Медалях» сказана пра чалавека, знявечанага вайной, які стаў псіхічна хворым. Красавацца медалям проста няма на кім. Чытач можа з нянавісцю падумаць пра жорсткую бяссэнсіцу вайны, пра злачыннасць тых, хто яе распачаў. Аднак ён можа падумаць проста пра смутную жыццёвую гісторыю, якую расказаў яму чалавек, які думае, бо гэты чалавек — расказчык па сваёй прыродзе, таленту, менавіта таму ён і фіксуе на сабе ўвагу.*

*Дык вось, ці не лепш прамая прапаведзь, накіраваная супраць вайны,— як у палкіх маналогах Маякоўскага?*

— «Медалі» — гэта пра аднаго салдата першай сусветнай вайны. Тады англічане заганялі індыйцаў у армію. Расказваючы сумную гісторыю салдата, я адначасова расказваю, як каланіяльная Англія эксплуатавала індыйцаў.

Незалежнай Індыі даводзілася ўступаць у ваенныя канфлікты з Пакістанам, Кітаем. Я меў магчымасць адчуць, што калі гэтыя войны прыносяць людзям столькі гора, дык якой жа згубнай будзе глабальная вайна. Я пабачыў свет. Былі выпадкі, калі я назіраў, як жудасна людзі рыхтуюцца да вайны.

На Дыега-Гарсія — амерыканская ядзерная база. Амерыканскія базы ў Пакістане, у Паўднёва-Усходняй Азіі. У Персідскім заліве — амерыканскі ваенны флот. Чым больш індыец думае пра гэта, тым больш жах наводзіць на яго думка аб тым, што могуць амерыканцы зрабіць са светам. Калі я думаю пра ўсё гэта, то адчуваю, што самае меншае, што я магу зрабіць, гэта: я магу змагацца за мір! Перспектыва ядзернай вайны робіць жыццё безнадзейным, цёмным.

Вы прыгадалі Маякоўскага. У нас ён вельмі папулярны сярод моладзі.

*— Як вы ўспрымаеце такую форму духоўнага быцця, як іронія? Аб ёй шмат спрачаюцца. Іронія бывае выратавальнай і ў сталасці: іранічны пагляд на тыя ролі, якія ты сам для сябе прыдумаў. Ідуць гады, а сэрца застаецца маладым, думка не дрэмле, і вось пісьменнік з трывожнай іроніяй пазірае на сябе як бы збоку: хто ж ён на самай справе?*

— Іронія для пісьменніка — вельмі важны рэсурс творчасці. Так, у пэўнай сітуацыі мы назіраем супярэчнасці. Іронія — лепшы сродак іх выявіць.

Каб паказаць чытачу, што было, і тое, што павінна было б быць, патрэбна іронія. Тое, што пісьменнік хоча паказаць, ён можа паказаць больш эфектыўна з дапамогай іроніі.

Калі пісьменнік пачынае рабіць апавяданне з жыццёвага матэрыялу, ён выступае ў ролі аднаго з гледачоў, што назіраюць камедыю жыцця. Па меры таго, як развіваецца сюжэт, увага пісьменніка засяроджваецца на супярэчнасцях замест апавядання, а не на іх асабістых супярэчнасцях. Іронія — асаблівасць пісьменніцкага характару — становішча неад'емнай часткай творчага працэсу.

*— Што вы думаеце аб спалучэнні традыцый з рэчаіснасцю, аб сучаснасці на фоне вялікіх помнікаў?*

— Наша краіна вялікая і па аб'ёму і па сваёй гісторыі. Нам дастаўся багаты капітал, самае каштоўнае ў ім — гуманізм. Традыцыя вучыць нас любіць прыроду як сілу, якая вылечвае чалавека, адчуваць прагу да жыцця. Я высока стаўлю такія нормы, як пачуцці брацтва паміж людзьмі, справядлівасць.

У нашай старажытнай філасофіі ёсць шмат карыснага. Напрыклад, тое, што ты павінен паважаць сваю справу, калі яна — на карысць людзей, не клапаціцца пра асабістыя выгоды. Але, з другога боку, мы атрымалі ў спадчыну і шмат дрэннага. Гэта наносіць нам шкоду. Ёсць каставыя перажыткі, рэлігійныя догмы. Гэта тое, што раз'ядноўвае людзей.

Вядома, вялікія помнікі культуры перш за ўсё натхняюць. Разам з тым мы пастаянна думаем аб тым, што грамадства людзей, якое адышло, не можа ўваскрэснуць. Пакінутая архітэктура як сапраўднае мастацтва робіць на нас высакародны ўплыў, абуджае дапытлівыя адносіны да саміх сябе. Але калі яе помнікі нясуць у сабе адмоўныя традыцыі, то мы не можам успрымаць іх абагульнена — толькі як увасабленне велічы чалавечай творчасці. Быў час, калі мы слепа ўсхвалялі старажытную спадчыну, а вось цяпер такога недыферэнцыраванага погляду не існуе.

*— Вы — вядомы прыхільнік рускай класікі XIX стагоддзя. Што прываблівае ў ёй прагрэсіўных індыйскіх літаратараў?*

— З пісьменнікаў XIX стагоддзя, напэўна, Леў Талстой больш за ўсіх зрабіў на нас уплыў сваімі маральнымі пошукамі, зрабіў уплыў у тых адносінах, як ён паказвае характары персанажаў, канфлікты. Тургенеў захапляе нас паказам прыроды. Здзіўляе гуманізм Гогаля, Караленкі. Чэхаў стаў папулярным дзякуючы яго крытычнаму розуму, які пранікае ў сутнасць душ і з'яў. Ён агаляе ў вельмі тонкай форме сацыяльныя супярэчнасці. Так, гэта мой настаўнік, мой блізкі сябар.

*— Што вы думаеце аб пазіцыі савецкіх пісьменнікаў 80-х гадоў?*

— Я рэгулярна чытаю часопіс «Советская литература», навінкі вашай літаратуры, якія трапляюць мне ў рукі. Калі пісаў Мікалай Астроўскі, новы лад яшчэ ствараўся, прытым з вялікім энтузіязмам. Сёння ў вас іншае становішча, вялікія дасягненні і складаныя, супярэчлівыя факты рэальнасці. Пісьменнік-сучаснік, які ахоплівае рэальнасць, спецыфічна, не так, як яго выдатныя папярэднікі, адлюстроўвае ўнутраныя канфлікты людзей. Магу сказаць, што работа навейшых савецкіх пісьменнікаў характарызуецца імкненнем унікнуць глыбей у духоўны лад чалавека. Яны яўна пазбаўляюцца ад схільнасці бегла перагортваць старонкі кнігі быцця.

Разам з рускімі пісьменнікамі мяне вабяць пісьменнікі іншых нацыянальнасцей, напрыклад, Чынгіз Айтматаў. Здзіўляе тое, што з такой нядаўняй глухмені выйшаў пісьменнік агульначалавечага ўзроўню. Гэта фігура характарызуе духоўны прагрэс сацыялістычнага грамадства.

*— Вы каля сямі гадоў жылі ў СССР. Вашы ўражанні ад адносін паміж савецкімі народамі, ад рускіх людзей?*

— Спачатку быў моўны бар'ер. Я шмат займаўся асабістай літаратурнай работай, не меў магчымасці падарожнічаць. Потым шмат ездзіў. Мяне захапляе прагрэс нацыянальных рэспублік. Яны — як адна вялікая сям'я. Што датычыць рыс рускіх людзей, то гэта — працавітасць, дружалюбнасць, чыстасардэчнасць.

*— Што вы скажаце пра савецка-індыйскае культурнае супрацоўніцтва?*

— За апошнія дзесяцігоддзі прыкметныя яго вялікія поспехі. Тысячы індыйцаў жылі ў СССР, атрымалі там адукацыю. Тысячы вашых людзей жылі і працавалі ў Індыі. Такім чынам, мацнее пачуццё збліжэння паміж нашымі народамі.

Няма іншага народа, які быў бы такі блізкі да нас, як савецкі народ. У вас ёсць шчырае жаданне ведаць усё больш і больш пра індыйскую культуру. Сотні кніг нашых пісьменнікаў увайшлі ў ваш духоўны лад. З іншага боку, у Індыі яшчэ мала зроблена для папулярызацыі савецкай літаратуры. Але жаданне лепш ведаць савецкую літаратуру ў нас расце.

# ПАЭЗІЯ

Алесь РАЗАНАЎ



## Студня

Прагну вады.
Але каля студні сядзіць вартаўнік і не дае мне напіцца.

Ён зазірае ў студню і кажа: «Дзівіся!..» Студня глыбокая-глыбачэзная, і светлая ў ёй вада, і яна — мне здаецца — уздрыгвае, быццам сэрца, і падымаецца да паверхні.

— У ёй відаць твая смага,— кажа мне вартаўнік.— Як толькі яна ў табе дойдзе да самага краю, усё пераменіцца ўвачавідкі: вада перальецца праз верх, і ты тады зможаш напіцца ўволю, але дагэтуль — не...

Я веру вартаўніку,
я веру студні,
я веру свайму нераспазнанаму прызначэнню —
і гатовы трываць, колькі трэба трываць,
і гатовы гарэць на нябачным вогнішчы смагі, колькі трэба гарэць, каб споўніць, што мушу і што магу...

Над студняй стаю, і сам я падобны да дзіўнай студні, што ўсёю сваёю істотаю прагне вады, а глыбінёю апошняю — смагі.

## Расколіна

Дарога, якая мяне вяла, павярнулася папярок і стала расколінай.

Калі не бяру яе пад увагу — яе нібыта нідзе няма,
калі намерваюся перабрацца на той, на другі, на адрынуты бок жыцця — яна пашыраецца на ўсё наваколле.

Я пераходжу трыдзевяць зямель,
адольваю рэкі, пустыні, горы,
ды сутнасць у тым безумоўным, у тым канчатковым, у тым адным кроку, які мне дазволіць пераступіць...

— Скокні,— мне раіць адзін мой сябрук,— і ты пераскочыш, мажліва, на той бок расколіны.
— Спыніся,— стрымлівае другі,— і, мажліва, яна сама ад цябе адступіць.

Настае ноч — сябрукі засынаюць.
Сціхае вецер.
Сутоняцца хаты, дрэвы, платы.

А пад зямлёю, унізе, вясёлая музыка грае,
а ўверсе, па-над зямлёю, зораць вогненныя масты.

## Шэрань

Я чую шмат слоў.
Бачу мноства людзей.
Усе яны кажуць, што трэба адрозніваць няшчырасць ад шчырасці, уяўнасць ад праўды, намер ад здзяйснення, клопат пра аднаго сябе ад клопату пра ўсіх іншых...

Але цяпер зіма.
І словы, і людзі, і ўсё наваколле захутаны ў шэрань.
І сухадрэвіны не адрозніваюцца ад дрэў.

## Другое сонца

Запальваецца ў небе другое сонца.

Я хаваюся ад яго за старую кашлатую дзічку, але сонца прасвечвае яе наскрозь;
хаваюся за сцяну хлява, але цень ад яе празрысты, як дзень;
хаваюся за валун, што ляжыць каля студні, але ён як сіта;
хаваюся ў хату, а ў хаце звыклы спакой, а ў хаце ні цёмна, ні светла...

У хаце сядзяць, бы на свяце нейкім, бацькі,
у хаце сядзяць сваякі,
і так мне шкада, што я не з імі...

А маці — наўздзіў маладая — гладзіць мяне рукою па галаве, дзьмухае мне на твар...
— Вось і ўсё добра,— кажа яна.— Я пагасіла другое сонца.

## Танец з вужакамі

Змаганне захоплівае мяне: яно разнявольвае ўсе мае здольнасці, яно абуджае ўсе мае сілы, яно становіцца танцам, яно становіцца святкаваннем, яно тчэ з маіх рухаў свой непаўторны ўзор.

Я ашчаджаюся ад яго. І чакаю яго.

А з мора ўжо вынырнулі дзве вужакі — дзве неспатольныя помсты.
Яны апантана накідваюцца на мяне, абкручваюць слізкімі шчыльнымі звівамі, пстрыкаюць джаламі ў самы твар...

Я аддзіраю іх ад сябе, я душу іх рукамі, тапчу нагамі, кручуся, уюся, крычу...

Навокал, з усіх бакоў, збіраюцца гараджане.
Нібыта прыцягнутыя магнітам, яны глядзяць на мой адчайны міжбой, на мае пагібельныя вымогі...

— Якое відовішча!..— у захапленні, я чую, гамоняць яны.—
Мы першы раз назіраем такі напружаны рытм,
мы першы раз бачым такі выкшталцоны танец.

## Падарунак хроснай маці

Хросная маці аддае мне свой падарунак. Гэта люстэрка. Я спрабую ўгледзець у ім сябе, але дарэмна. Яго паверхня зморшчаная і цьмяная, быццам чыясьці далонь.
— У ім жыве бог,— кажа хросная маці.— Некалі, мабыць, ты здолееш яго ўбачыць...
Здараецца, люстэрка яснее, зморшчыны разгладжваюцца — і тады мне відаць то птушка, якая ляціць, то паставы людзей, то абрысы незразумелых рэчаў...
Я губляюся ў меркаваннях: можа, я бачу ўжо бога, ды толькі не ведаю, што гэта ён.

## Завея

У завеі — зямля, у завеі — дрэвы,
і людзі, якія жылі і якія яшчэ не жылі,— у завеі,
і я таксама ў завеі...

Дзе яно, мінулае?!.
Дзе яна, будучыня?!.
Дзе яно, сёння?!.
Болей няма на каго наракаць,
болей няма каму дзякаваць — за ўсё, што давалася і адымалася, радавала і засмучала,
і болей няма каму ведаць, які я: добры альбо благі, брыдкі альбо прыгожы, стары альбо малады...

Адступіў ад мяне белы свет, абступіла мяне белае беспрасвецце.

## Дубовы плот

Я рухаюся ўздоўж плота — і плот рухаецца ўздоўж мяне,
спыняюся перад плотам — і плот спыняецца перада мной...
Ён побач, але калі я спрабую ступіць да яго бліжэй — ён адступае.

З таго боку плота ў доўгай зрэбнай кашулі ходзіць мой дзед. Ён па-змоўніцку мне махае рукою: хадзі сюды — я адкрыю табе таямніцу жыцця...

Але паміж намі дубовы плот.

На кожнай штыкеціне плота — бязмоўная дзедава галава.

## Маланка

Тады, калі я ўвайшоў у бажніцу і, зачыніўшы дзверы, стаў гутарыць з небам, з неба раптоўна ўпала маланка і раскалола бажніцу надвое.

Людзі, якія прыйшлі на світанні, адбудавалі з адной яе палавіны бажніцу світання, а людзі, якія прыйшлі на змярканні, адбудавалі з другой палавіны бажніцу змяркання.

— Хадзі да нас,— заклікаюць мяне адны,— гэта ж твая бажніца: ты зноўку тут зможаш казаць свае словы да неба...
— Хадзі да нас,— пераймаюць мяне другія,— гэта твая бажніца: ты зноўку тут зможаш слухаць, што кажа неба...

А я ўсё стаю на тым самым месцы,
здранцвелы,
уражаны,
праяснёны,
не маючы мовы, каб гаварыць,
з маланкаю ў сэрцы.

## Трансмутацыя

Рукамі абмацваю твар: аднымі часткамі цела адчуваю другія часткі.

— На каго ты падобны?!. —кажа сястра.

Не ведаю, на каго:
хто кажа — на камень,
хто кажа — на птушку,
хто кажа — на дрэва,
хто — на самога сябе...

Блізка вялікдзень.
У паветры разліты салодкі і горкі водар.
Падсыхаюць груды.
Цвітуць катахі вербалозу.
Прадвесціцца шчасце.
Сонца запальваецца ў грудзях.
З песняй і плачам кудысьці ідуць натоўпы.

Шмат клопатаў сёння ў хлебаробаў, на палях рэспублікі ідзе пасяўная. Час, калі закладваецца аснова будучага ўраджаю.

З чаго ж складваецца ўраджай?

— З вельмі многіх фактараў,— гаворыць старшыня вядомага на Міншчыне калгаса «Рассвет» Любанскага раёна Віктар Аляксандравіч Арціменя.— Адразу ж адзначу: з пункту гледжання сённяшняга хлебароба нават вядомая прымаўка «вясновы дзень год корміць» патрабуе ўдакладненняў. Для кожнай культуры, кожнага гатунку нават аднаго і таго ж віду раслін, ёсць найлепшыя, аптымальныя тэрміны сяўбы. І вось менавіта іх важна не прапусціць — унесці ў глебу зерне ні раней, ні пазней як у свой час. А гэта не толькі навука, гэта яшчэ і выпрабаванне стану тэхнікі, маральных якасцей людзей.

Каб правесці сяўбу ў лепшыя тэрміны, «рассветаўцы» зрабілі ўсё неабходнае. Задоўга да вясны была адрамантавана, праверана тэхніка, прычапны інвентар. Даведзена да высокіх кандыцый насенне высокаўраджайных гатункаў. У глебу ўнесена дастатковая колькасць угнаенняў. Праведзена вучоба з механізатарамі, паляводамі. Таму сёння кожны ў калгасе на сваім месцы, сваімі ведамі і вопытам імкнецца ўнесці як мага большы ўклад у бітву за будучы ўраджай.

Усяму раёну вядома, што працуюць у «Рассвеце» майстры высокіх ураджаяў. Па выніках мінулага года, напрыклад, калгас узнагароджан пераходным Чырвоным сцягам райкома партыі, райвыканкома і райкома камсамола за ўраджай збожжа. Неаднаразова выходзілі «рассветаўцы» пераможцамі рэспубліканскага і ўсесаюзнага сацыялістычнага спаборніцтва. Сёлета тут вырашылі сабраць ураджай зерневых па 38 і бульбы па 320 цэнтнераў з гектара. Цяпер, у час пасяўной, тут усё робіцца для таго, каб слова сваё стрымаць з гонарам.

**Дзмітрый ЛУПАЧ,**
**спецыяльны карэспандэнт**
**«Беларусі».**

**● Ох і смачная вада са студні ў гарачы час пасяўной!**

**● Старанна праводзяць культывацыю глебы механізатары Анатоль Мікалаевіч Маскальчук і Браніслаў Барысавіч Мядоўскі.**

**● Цудоўны апетыт, калі добра папрацуеш. Дарэчы, усе занятыя на пасяўной забяспечаны бясплатным гарачым харчаваннем. У полі снедаюць механізатары Генадзь Міхайлавіч Трухан, Станіслаў Гаўрылавіч Аўдзейчык і Міхаіл Іванавіч Калевіч (злева направа).**

**Фота аўтара.**

# ПАЭЗІЯ

**Мікола МЯТЛІЦКІ**



✦

Гэта памяць мая
Разгушкала званы,—
Грымна ў свеце трывожным,
Не моўкне набат.
Сочыць з розных эпох
Чорны прывід вайны,
Упіваецца ў грудзі мне
Стрэламі дат.
Колькі год на зямлі,
На вятрах чатырох,
Мной пражыта? —
О, памяць мая, адкажы!
Спудна ў часах зямных
Трубіць памяці рог,
На забытых магілах
Варушыць крыжы.
Б'е сыпучай жарствой,
Прарастае травой —
Прагна к сонцу імкне
З-пад зямное кары,
На памінках вякоў
Танец ладзячы свой,
Абзываецца ў сэрцы маім на зары
Час,
    развеяны пылам, магільным пяском,
Час,
    адпеты палётам стралы і кап'я.
І над веснай зямлёй абзываецца гром,
І гаворыць з планетаю
                    памяць мая.

## *Паэтам*

Хто мы? — паэты! Мы з тых дзівакоў,
Зачараваных юнай красой.
Звоняць павевы нашых радкоў,
Быццам на ранку трава пад касой.

Свет першаісны красой наталіў
Зачараваныя вочы спаўна.
Грае пад небам светлы матыў
Памяці нашай дзіцячай струна.

Волка, як травы, пахнуць радкі.
Роснае сонца наша ўстае.
Хто вы, паэты? Вы, дзівакі?
Чуйна, ўлагоджана сэрца пяе?

Што яму, сэрцу, у свеце відно? —
Смерч крывавжэрны, ядзерны жах!
Песняй якой узарвецца яно
Тут, на Зямлі, у эпохі ў грудзях?!

✦

Век помніце: часовыя, не вечныя
Мы на зямлі —
Імгненнае жыццё.
У космасе, як сэрца чалавечае,
Планета спыніць чуйнае біццё.

Шчэ Млечны Шлях яе вятрамі
                    выстудзіць.
І нам — прад гэтай
                    яснасцю дабрэць.
Нам — пад цяжарам
                    смертаносным выстаяць,
Зямлю сваім дыханнем
                    адагрэць.

✦

Над былою балацінай
Б'ецца кнігаўка ў адчаі.
Сад вішнёвы за хацінай,
Паплавец у малачаі.

Я пагрукаю з пуціны,
Рыпнуць весніцы старыя.
Адзінока ля хаціны
Вецер спуджаны завые.

Пахне спелай канюшынай
Недакошанае лета.
За матулінай хацінай
Прытаілася паўсвету.

✦

Між думных мудрых хвой
Твой спеў узнік,
Душы маёй
Палескі мацярык.

Схадзіў я шмат шляхоў,
Лятаў і плыў,
І вось — цябе наноў
Душой адкрыў.

Бязмежны, знаю, ты.
Мне дораць слых
Твае ў палях жыты —
Іх вейны ўскалых.

Бяздонны, веру, ты.
Калі і падаў ніц —
Да пекнаты
Тваіх жывых крыніц.

Пагасне небасхіл,
Калі падкосіць зло —
Тваіх святых магіл
Падыме зноў святло.

І ажыву.
Праз часу пустату,
Як праз жарству
Былінна прарасту.

✦

Святло зямных дарог,
Вандроўнае жытло.
У час прагрэс упрог
І кола, і крыло.

Павыбіўшыся з сіл
У гулкай мітусні,
Ідзём за небасхіл,
Шукаем карані.

Напоіць спорны дождж
У стоеным ляску.
Мы ходзім басанож
Па лужах і пяску.

Мы дыхаем...
Ды ўсё ж —
Бяжым у гарады.
Ступае спорны дождж
На нашыя сляды.

✦

Глянь з высокага берага:
Не мялее рака.
Басанога там бегае
Памяць пра Каўпака.

Узыходзіць над стромаю
Туманец барады.
Ехаў Сідар Арцёмавіч
На сустрэчу сюды.

Вочы ззялі пагожыя
І туманіўся плёс,
Той, што баржы варожыя
Пахаваў, не данёс.

Двое: Сідар Арцёмавіч
І малое хлапчо.
Села неба над стромаю
На крутое плячо.

Не, вірамі не выстудзіць
Гэту памяць рака.
Туманец па-над выспаю?..
Барада Каўпака.

✦

Зумкая памяць, як пчала,
З далечы год прыляціць на поплаў.
Мама бялізну мыць ішла,
Бралася сажалка раскай цёплай.
Вербы згіналіся над вадой,
Маміны плечы лашчылі гнутка.
Мама убачыцца маладой,—
Памяці вечнай жыве мінута.
Сціснаны плёс бялізну аблок
Слаў-калыхаў, вёў свае парадкі.
Страх працінаў: вось-вось незнарок
Мама кульнецца ў бяздонне з кладкі.
...Гасне над сажалкай морак густы,
Памяці даўняй джала ўпілося.
Мама на кладцы...
Прадчутае, ты
Не адышлося — горка збылося.

## *Пятлянка*

Яна не высахла.
                    Не просіць
Заступніцкіх слязлівых од.
Яшчэ глыбокая, як просінь,
Цячэ, нітуе з годам год.
Жвірынкай кожнаю іскрыцца,
Уся з праменнага святла.
І ёй яшчэ — ў вяках бруіцца,
Ці ж не з вякоў яна прыйшла?
Вірамі пенішся на іле,
Званчэй з табой лясны куток.
Вітанне шлю бруістай сіле,
Яна — душы маёй выток.
Рака, маленства калыханка,
Бруісты цуд!
Не верыць госць,
Што ты, рака, мая Пятлянка,
Пад небам бацькаўшчыны ёсць.

✦

Не дайце на згубу сябе і жыццё,
Якое, адзінае, светам кіруе.
Пагрозна, драпежна глядзіць небыццё.
Душа чалавечая чым ахвяруе?
У памяці свету — шырокі бальшак,
Пасланы касцьмі і крывёю паліты.
Куды ні паглянеш:
Усё гэта так —
Паўсюд па зямлі надмагільныя пліты.
Пратораны шлях той вялікай цаной,
Збягае далёка — ў зару небасхілу.
Ён дыхае грозна мінулай вайной,
Гатовы мяне саштурхнуць у магілу.
Знявечаны дзідаю воін ляжыць,
З ім разам стагоддзе
                    прымоўкла самотна.
Ды там, пад нагамі,
                    зямля не дрыжыць,
І доўжыцца шлях той пакутна,
                    маркотна.
Узыдзе за дзідай гарачы свінец,
Пасеецца густа на жытнішчах свету.
Ды ў гэтым зямля не прадчуе канец,
Франты адваюць у смерці планету.

# КУДЫ ЗАВЯЛА ЧАРГА

Ніна МАЕЎСКАЯ

Калі гаварыць шчыра, дык гэта заданне рэдакцыі я ўспрыняла як пакаранне. Чарга... Супрацоўнікі рэдакцыі, і творчыя і тэхнічныя, наперабой даводзілі, што гэта вельмі важная тэма. Шмат хто з іх быў за мяжой і таму даводзіў, што чарга — гэта толькі наша з'ява, што ні ў адной краіне свету няма такога ні ў магазінах, ні ва ўстановах. (Тут хацелася запярэчыць: а па талерку дармавога супу, а на біржах працы? Але таварышы ўдакладнілі — у сацыялістычных краінах...) І ў нашага мастака, сімпатычнага маладога чалавека, засвяціліся вочы: ён сярод сваіх фантазій умомант знайшоў, як мы называем, афармленне. А я са страхам думала: хоць бы гэта выпала не мне,— хаваючы вочы, як вучань, які не хоча, каб яго выклікалі да дошкі.

Чарга... Гэта нешта агіднае, якое, калі задумаешся, абражае, прыніжае чалавечую годнасць. Не раз сустракала людзей, якія прызнаваліся, што стаяць у чарзе ім брыдка, калі і стаяць, то неяк хаваючыся, каб хоць знаёмага не сустрэць, ці з работы каго. Я ж адкрыта пазбягаю чаргі. Вялікая раскоша выстойваць у чэргах. Таму і сям'я мая — першыя фрукты і гародніну пачынае есці, калі схлынуць чэргі, а свежую рыбу па восені — калі наядуцца ўсе. І — ніякіх нараканняў: усё зразумела — пакуль што чарга.

Аднак чарга — гэты атрыбут парадку і дысцыпліны — некім узаконена. Праўда, невядома кім, але ўзаконена. Хіба не бачылі вы шыльдачак у магазінах: «адпускаецца ў парадку чаргі», «без чаргі абслугоўваюцца толькі інваліды». Усе астатнія — стойце. І бачыце, як пашанцавала: ніводнага чалавека ў малочным аддзеле, падышлі да прылаўка і слоічак свой паставілі на вагі, маўляў, зараз прадаўшчыца нальле смятаны. І стаіце хвілін пяць... дзесяць... Колькі ў вас хопіць вытрымкі. Прадавец да вас не спяшаецца. Чаго ён будзе спяшацца: чаргі ж няма. Вось калі за вамі стане чалавек дзесяць... Яна не ўяўляе, як можна абслугоўваць, калі няма чаргі. Скажаце — гэта магазін. Чалавеку есці трэба кожны дзень. Добра. А ці кожны дзень мы шыем сукенкі, касцюмы, паліто. Не кожны... Паспрабуйце пашыць. «Пяць заказаў у першую змену ў парадку жывой чаргі». Здаецца, ну якая там чарга пяць чалавек. Але не будзем наіўнымі — прыйдуць усе дваццаць. Вось тут і падумаеш: «А ці не ўстаць гадзін у пяць. Будзеш першая — гэта ўжо надзейна». Але не думайце, што ваша рашэнне арыгінальнае і адзіна вам магло прыйсці ў галаву. Гэта думка тых, хто звыкся з чаргой, стала стэрэатыпнай. Хіба не заўважылі, што ў хімчыстцы, у рамонтных майстэрнях найбольшыя чэргі ў дажджлівыя дні, кожны думае, што ў такое надвор'е наўрад ці будуць ахвотнікі ісці па справах. Хачу дадаць, што народ у нас у большасці дысцыплінаваны, чарга — значыць чарга, трэба стаяць.

**І ўсё-такі чарга — гэта агідна. Асабліва для таго, хто ашчаджае час. Хочацца прывесці словы Д. Граніна «Самае дарагое — гэта час, таму што жыццё складаецца з гадзін і мінут». Ой, як сумна, калі жыццё праходзіць у чэргах. Нічога, што яно як быццам замаруджвае бег, гэта падманліва. Яно бяжыць, спяшаецца,— гэта стаіце вы. А ўпушчанае — не вернеш.**

**Вось за гэта і за многае, многае іншае я не прымаю душою чаргі. Ды і лічу, што чэргаў мы пазбудземся не хутка. Таму што ў нас яшчэ недастаткова магазінаў, пунктаў бытавога абслугоўвання, сталовак, паліклінік. Ды і па колькасці гандлёвай плошчы, якая прыходзіцца на душу насельніцтва, мы яшчэ адстаём ад многіх краін.**

І ўсё ж... І ўсё ж, справа не толькі ў гэтым. На вуліцы Я. Коласа, дзе я жыву,— адкрыўся нарэшце хлебны магазін, і я з радасцю ў першы ж дзень накіравалася туды. Прыемна—два пакупнікі, два прадаўцы. Здаецца, так і павінна быць. Ідэальны варыянт, хлеб куплены за пару мінут. Але чаму так прыкра на душы, чаму на другі дзень іду ў магазін на суседняй вуліцы, станаўлюся ў чаргу? Тлумачыцца проста. Папытала: чаму ж у вас такі чэрствы хлеб? На што атрымала вельмі сур'ёзны адказ: «Ад свежага ў вас будзе заварот кішак!» Канечне, вельмі прыемна, калі клапоцяцца пра тваё здароўе, але хай бы гэта рабілі ўрачы ў паліклініках, а не прадаўцы.

**Мне б не хацелася агулам ганіць усіх прадаўцоў. Сярод іх ёсць вельмі прыемныя людзі, якія параяць, браць ці не браць тыя ці іншыя прадукты, якой яны свежасці, якасці. І наогул я ўпэўнена, што ўсюды, у любой канторы, любой установе, у гандлі — усё залежыць ад чалавека, наш настрой, наша задаволенасць купленым таварам.** Ах, як мне падабаецца адна латочніца: і ў дождж, і ў холад, і ў спёку яна на вуліцы. Ранняй вясной гандлюе маладой цыбуляй і гуркамі, а недзе пад зіму заканчвае ці не марожанымі яблыкамі. Невялічкая, рухавая, твар абветраны, бы ў сялянкі, якая дзень у дзень у полі, і рукі — такія ж, ні ў холад ні ў золь не бачыла яе ў пальчатках. І чарга ў яе ідзе хуценька, весела, бо кожнаму яна: «А міленькая мая, а родненькая мая, я лепшанькае табе, ну чым жа гэтыя памідоркі благія». А вось другі прыклад. Пытаюся ў латочніцы каля ЦУМа, балазе не трэба стаяць у чарзе: «Колькі каштуе гэтая белая спадніца?» Яна ж стаіць, складае, загортвае яе, нібы робіць такую важную справу, ну ў крайнім выпадку складаную аперацыю, не дай божа адцягнуць яе ўвагу. На маё пытанне яна не рэагуе. Тут жа яшчэ некалькі чалавек стаяць, чакаюць, бо з іх вуснаў, відаць, я сарвала пытанне. А яна маўчыць, і яны зіркаюць на мяне — што ж я? «Не хочаце з намі гаварыць?» — пытаюся паблажліва, нават жартаўліва. «А чаго мне з вамі гаварыць,— адказвае яна, насмешліва, як размаўляюць з несамавітым,— спадніц такіх у продажы няма, гэта апошняя, і якая вам розніца, колькі яна каштуе». І падняла свае — гэта ў Вазнясенскага, ага, у яго — «карыя вішні» (так прыгожа ён сказаў пра вочы). Неяк адразу прыйшло гэта параўнанне, толькі крышку сумна стала: ну, чаму да іх не дадаць чуласці, ветлівасці. Якая б была прыгажуня. Прабачце, я адхілілася ад тэмы. Але гэта таксама вельмі важна ў чарзе. Бо, калі ты губляеш марна час, ды яшчэ слухаеш часам невыносную перапалку, якая вядзецца па абодва бакі прылаўка, то...

**Чарга... Гэта наша зло, яно крадзе ў нас час, нервы, псуе настрой. Нядаўна кандыдат эканамічных навук М. Б. Уцеўскі правёў, як ён называе, «невялікае сацыялагічнае даследаванне». Парашыў дазнацца, колькі часу трацяць людзі на стаянне ў чэргах, разабрацца ў прычынах, якія нараджаюць чэргі, знайсці нейкія рэальныя магчымасці пазбаўлення гэтай з'явы з дапамогаю мер арганізацыйнага характару. Вучоны апытаў каля 600 чалавек і на гэтай падставе зрабіў выснову, што кожны чалавек за год прастойвае ў чэргах амаль што... месяц. А якое ўражанне, калі ў думках, у мроях уявіш гэты месяц на беразе мора, у лесе, ці хаця б у гарадскім скверы... Гэта ж цэлы адпачынак! Згублены, атручаны мітуснёй!**

●

А цяпер наконт таго, аб чым гаварылася на самым пачатку. Аб тым, што чарга — гэта з'ява чыста наша. Ні ў адной краіне такога няма. Тут я ў аўтарытэты прызаву доктара эканамічных навук і кандыдата біялагічных навук загадчыка аддзела сельскай гаспадаркі і харчовых праблем Інстытута ЗША і Канады Акадэміі навук СССР Віктара Фёдаравіча Лішчэнку, які некалькі гадоў быў сельскагаспадарчым аташэ ў пасольстве СССР у Вашынгтоне. У гутарцы з карэспандэнтам ён сказаў: «Магазіны забіты прадуктамі, а трыццаць мільёнаў чалавек не ў стане нічога купіць. Яны атрымліваюць дапамогу, у іх розныя формы недаядання, але ёсць і востры голад. Розныя камісіі штогод пішуць пра гэта ў дакладах прэзідэнту. Гэта мы можам капрызіць. Паглядзіце, што робіцца са сметанковым маслам. За ім тоўпяцца, яго патрабуюць, раздражнёна патра-



буюць, а паспрабуй скажы, што расліннае для здароўя лепш,— ці многія вам паверацьʼ?»

А вось даныя: у розніцу на душу насельніцтва гадавое спажыванне маргарыну ў нашай краіне 5,1 кілаграма, сметанковага масла — 5,7. У ЗША паказчыкі іншыя: суадносна 13 і 2. У Бельгіі кожны чалавек з'ядае ў сярэднім 16 кілаграмаў маргарыну, у ГДР — 11 кілаграмаў. Нават такія традыцыйна «малочныя» краіны, як Галандыя, Швецыя, Данія, пры значна меншым, у параўнанні з намі, спажыванні сметанковага масла — намнога наперадзе па расходу маргарыну: звыш 15 кілаграмаў на душу насельніцтва ў год. Не, я не агітую вас за маргарын.

**Але хачу падкрэсліць, што веданне, захаванне культуры спажывання змагло б ашчадзіць дзесяткі мільёнаў рублёў і шмат прадуктаў. А галоўнае — наша здароўе.**

Вельмі часта чуеш ад пажылых людзей, тых, хто прайшоў пасляваеннае ліхалецце: скажы ты, на бульбе і капусніку жылі — а былі здаровыя. А цяпер урачы ўсё часцей і часцей адзначаюць, што многія нашы хваробы ад залішняга ўжывання каларыйнага харчу. Парушаецца абмен, з'яўляецца атлусценне. А мы нават абураемся, даказваем: ва ўсім свеце, нават у Францыі модна паўната. А што ты зробіш?

Магчыма і яны таксама, як і мы, мала звязваюць харчаванне са зме-



намі ва ўкладзе жыцця. Паляпшаюцца ўмовы працы — яе бяруць на свае плечы механізмы. Усё больш людзей ездзяць на работу і з работы ці на сваіх машынах, ці ў грамадскім транспарце. Дома адпала неабходнасць паліць і калоць дровы, паліць печы — усё гэта робіць за нас цэнтральнае ацяпленне. Вада — у кране водаправода, кватэру ўбірае пыласос, бялізну — у пральню. Затраты энергіі зніжаюцца. А харчаванне? Каларыйнасць яго расце, але мы пра гэта не задумваемся. Папытайце ў дзесяці чалавек, колькі калорый у 100 грамах хлеба, мяса, сыру. Ніхто вам не адкажа. А правільнае, здаровае харчаванне, гэта — цэлая навука. І нездарма ў даўнія часы ў народзе ўсё гэта рэгулявалася пастамі і гавеннямі. Скажаце, што гэта ідзе ад царкоўных забабонаў. Не, проста царква падбірала і прыстасоўвала сабе тое, што выпрацавана народам. І вельмі б слушна было, каб нехта падрабязна расказаў у друку, распісаў да драбніц гэтую народную навуку рацыянальнага харчавацца.

Нездарма старажытнаму грэчаскаму філосафу належыць выказванне «Мы жывём не дзеля таго, каб есці, а ядзім дзеля таго, каб жыць».

Мы ж, бывае, забываемся на гэта. Бо дзе, у якой краіне вы бачылі, каб бралі на сям'ю па дзесяць кіло рыбы, а кілбасу — скруткамі, ці, як кажуць, рулонамі, і ўсяго астатняга — як панесці.

Мы часта ўспамінаем пяцідзесятыя — шасцідзесятыя гады: які асартымент быў каўбасных вырабаў! Але ж скажыце, ці бралі іх рулонамі, як цяпер.

●

Аналізуючы новы пяцігадовы план сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 1986—1990 гады, нельга не звярнуць увагі на адну асаблівасць. Там, дзе размова ідзе аб сярэднім на душу насельніцтва спажыванні прадуктаў харчавання, паказчыкі для большай інфарматыўнасці насельніцтва падаюцца ў простых, сціплых кілаграмах.

Па каларыйнасці харчавання наша краіна выйшла на ўзровень найбольш забяспечаных краін свету, але структура штодзённага рацыёну яшчэ не адпавядае рэкамендацыям айчыннай медыцынскай навукі. Хлеба, мучных вырабаў, бульбы мы спажываем значна болей, чым патрэбна, прадуктаў жывёлагадоўлі, гародніны, зеляніны, ягад і фруктаў — меней.

Мэта нашай Харчовай праграмы якраз і мае на ўвазе — наблізіць структуру харчавання да навукова абгрунтаванай нормы. І што характэрна — ёсць у гэтым нейкія зрухі. Скажам, спажыванне мяса ў разліку на душу насельніцтва састаўляла ў 1965 годзе 41 кілаграм, у 1980— 57,6, а ў 1985 г.—61,4 кілаграма. Спажыванне ж хлеба паменшылася: адпаведна 156—138—133 кілаграмы.

Але, як бачыце, зрухі не надта каб важкія. Калі хочаце, вось наша меню на 1990 год. Адпаведна пяцігадоваму плану: мяса — 70 кг., малака 330 літраў, яек — 265 штук, гародніны — 127 кг, фруктаў і ягад — 68 кг. Калі сям'я з трох, чатырох, пяці чалавек, нескладана памножыць звыходную лічбу і наглядна, наяўна ўбачыць, які будзе наш стол і колькі гэта будзе каштаваць.

**Але разам з тым трэба, на маю думку, весці і вялікую выхаваўчую работу, бо многае будзе залежаць ад культуры спажывання. На жаль, яна пакуль што нізкая. І на практыцы бывае так, як расказала мне адна знаёмая:**

«Не, не скажу нічога благога, нашы куры нясуцца. І Мінская птушкафабрыка забяспечвае горад свежымі яйкамі круглы год. Але нешта такі здарылася, ці куры не несліся, ці забыліся яйкі прывезці ў магазін — дзень, другі, трэці стварылі маленькі дэфіцыт. А гэта ўжо сімптомы чаргі. І яна выстраілася. А ў мяне, як на тое, аналіз на жоўць. Папярэдне трэба выпіць сырое яйка».

Тут хачу дадаць, чаму я яшчэ баюся чэргаў. Ёсць чэргі-пасткі. Іншы раз бы і пастаяў, пачытаў газету, паслухаў, што людзі гавораць, часам і нейкі кулінарны рэцэпт атрымаеш, і навіну, і параду. Некаторыя, асабліва хатнія гаспадыні, пенсіянеры, любяць чэргі, гэта ў іх своеасаблівы сродак зносін з людзьмі.

І гэта чарга за яйкамі аказалася пасткай, якая, і нічога дзіўнага, як так і трэба, зашчоўкнулася перад носам пакупніка.

«Жанчына наперадзе загрэбла апошнія тры дзесяткі і на мае просьбы: пакінуць два яйкі не звяртала ўвагі, маўляў, без двух можна абысціся, а вось без трыццаці...» І мая апавядальніца у таксама хацела мець у запас адно, таму прасіла два. Што як разаб'ецца яечка. Вось і тая жанчына заганяла нейкі запас. Раз не было яек тыдзень, то дзе гарантыя, што гэта не паўторыцца. Калі яна забірае апошнія.

І другая жанчына, суцяшаючы яе, абуралася, расказвала, а яна доўга жыла ў ГДР, што там народ больш дысцыплінаваны ў гэтых адносінах, ды і гандлёвыя работнікі больш сочаць за размеркаваннем прадуктаў. Калі, скажам, перабоі з яйкамі, то ў магазіне ў адны рукі могуць даваць у дзень 1, 2 яйкі, і ніхто не пачне прасіць, дамагацца ўзяць болей.

**А мы часцей усяго сваёю непамяркоўнасцю, адсутнасцю культуры спажывання і ствараем чэргі. Вось чаму чарга — гэта «наша з'ява». Мы можам сабе дазволіць, не задумваючыся, не лічачы грошай, набіць сумку харчам, браць усё, што трапляецца пад руку.**

І што атрымліваецца. Прыблізна дзесяць працэнтаў прадуктаў, якія мы купляем, замест талеркі патрапляюць у смеццеправоды. Падлічана: у пераводзе на грошы краіна толькі ад гэтага губляе 10—12 мільярдаў рублёў. Але іншы бесклапотна скажа: краіна наша багатая — мільярд туды, мільярд сюды. Тады давайце палічым, якая ж гэта атрымліваецца страта на кожную сям'ю. У разліку на аднаго чалавека з сямейнага бюджэту — у выглядзе прадуктаў, што сапсаваліся,— кожны дзень губляецца ад 12 да 35 капеек (праўда, дробязь), а ў год ад 44 да 128 рублёў — у залежнасці ад даходу сям'і.

Нехта скажа: нам прапануюць эканоміць на харчы. Яшчэ што прыдумалі — губіць сваё здароўе. Даволі, што ў вайну ды апасля нагаладаліся (гэта тыя, хто ў маленстве, у сталыя гады ў вайну ды цяжкія пасляваенныя гады спазналі, што такое голад, нястачы...)

...Жанчына, вочы смутныя, даўняя-даўняя сумота ў іх... Мы вяртаемся з лесу: хадзілі ў грыбы. Не столькі тых грыбоў, колькі гаворкі. Гаворана ў нас не перагаворана, радня яна мне. Расказвае: «Дзеці мае загуляюцца на вуліцы, позна ўжо, а яны гуляюць. Думаю, няхай сабе гуляюць, абы ў хату не ішлі, есці ж будуць прасіць, а тут — шаром пакаці. Што можна было купіць на тое настаўніцкае жалаванне ў сорак шостым. Я тады думала: вайна кончылася, неяк жа абжывёмся. І заўсёды, усе грошы буду на харч аддаваць...» Я ведаю — зараз прыйдзем дадому і яна настаўляе на стол місак і спадачкаў, чаго толькі там не будзе: масла, яйкі, малако, вяндліна, боршч і бабка, ці тушаная бульба, гуркі, памідоры, кансервы магазінныя, а яна будзе бедаваць, што і пачаставаць, бачыш, няма чым, а потым пасля абеду — у сад. Уся зямля: на градах, на картапляніку,— усыпана яблыкамі... Гадзіна, другая пройдзе, а яна турбуецца, нудзіцца: што на вячэру? І тут маўчы, бо скажаш: анічога, па шклянцы малака з хлебам — усердзіцца. І зноў будзе повен стол, як кажуць, нібы на калядкі.

Ідзём мы не дарогаю, а напрасткі лесам, полем, вось за кустоўем ужо і дахі вясковыя відаць. І па баках, пад ногі мы болей не глядзім — якія грыбы тут, і навокал — нічога цікавага, звычайныя хмызы. «Паглядзі,— гаворыць яна і паказвае на кучу смецця, якое нехта вывез сюды, за вёску.— Вось гэтым можна было некалі ўсю вёску абуць». Сапраўды. Цэлая гара абутку: чаравікі, боты, гумовікі, галёшы, усё крыху падношанае, проста не дагледжанае... Неахайна ношанае. І зноў успаміны. «Гэта ж як аслабанілі, склікалі нас, настаўнікаў, на канферэнцыю. І пайшла я за дванаццаць кіламетраў у раён босая, ісці добра, лёгка, звыкла, ды і малада ж была: што тыя дванаццаць кіламетраў, дзве гадзіны ходу. Радасць яшчэ сілы надавала: гэта ж зноў звыклае жыццё, канферэнцыя настаўнікаў. Ажно прыйшла — і апаў настрой. На дзвярах паперка: босым у залу не заходзіць. Вось табе і маеш. Прабрацца на заднія рады то можна, але ж трэба праз усю залу прайсці, зарэгістравацца. Прыйшлося ў пазычаных ісці да сцэны, а потым разуцца зноў...»

Даруй мне, паважаны чытач, і зразумей правільна. Я не хачу цябе папракнуць, не хачу вярнуць цябе ў тую галечу, але задумайся... Мы сталі наракаць на тое, што тэатр ператвараецца ў нешта будзённае. Не будзем браць і разглядаць тое, што паказваюць тэатры, гэта зусім другая тэма. Наракаюць на тое, што ў тэатр ідуць прама з работы, ці ў чым. Паважаныя, а можа наадварот — на работу апранаюцца, як у тэатр.

Аўтобус павярнуў на Валгаградскую, спыніўся. Чаму столькі людзей на супынку? Ага, абедзенны час на заводзе. З прахадной ідуць рабочыя, служачыя. Міжволі разглядаю гэтых людзей: некалькі жанчын у накінутых на плечы бліскучых, аж слепіць вочы, шаліках з доўгімі, як шнуркі, махрамі. Можа, яны — у тэатр, з тэатра? Не — выйшлі з заводскай прахадной.

Нездарма ў народзе гавораць: няма дрэннага надвор'я, ёсць — прыдатнае для надвор'я адзенне. Зайдзіце ў любы магазін, туды дзе прымаюць няякасны абутак, абутак, які быццам бы не вытрымаў саракадзённай носкі. Такога абутку (і нашага, і імпартнага) вяртаецца на тысячы рублёў. І прымаюць — абы чэк быў. У многіх абутковых магазінах нават выгарадзілі спецыяльныя аддзелы, пасадзілі спецыяльнага чалавека, так званага бракаўшчыка, альбо разбракоўшчыка, ці як яшчэ яго назваць. Некаторыя, вельмі ашчадныя, клапоцяцца не пра тое, як зберагчы ці непагадзі, сырасці абутак, а — толькі чэк. Яны загадзя ведаюць, што іх саракадзённай носкі ніякі абутак не вытрымае. Ці помніце, былі галёшы, плыткія без абцаса і мадэльныя з паглыбленнем для яго. Першыя на-

дзявалі на мужчынскія чаравікі, каб зберагчы шаўро альбо хром ад сырасці, а другія — на жаночыя лодачкі. Зручна: і туфлі не псуюцца, заўсёды акуратныя, чыстыя, прыйшоў на працу, зняў галёшы — фарсі сабе, і назе суха. Скажаце: глупства гэта, адсталасць. Цяпер на любое надвор'е абутак выпускаюць. Так, на любое. Але скрозь бачыш, як у дажджлівае надвор'е шпараць па лужах у мадэльных з далікатнай скуры чаравічках, якія насіць трэба толькі ў памяшканні альбо па сухім асфальце. Дзе ж яны вытрымаюць? Нічога. Чэк ёсць — праз месяц можна здаць. Ведаю людзей, якія болей месяца і не носяць абутак, зараней прыхаваўшы чэк. Яны быццам бяруць абутак у дзяржавы напракат, задарам. Быццам і вініць іх нельга. Той-сёй можа сказаць: «А які абутак выпускаеце, амаль увесь з дэфектамі». Так, нечага адказаць. Абутак яшчэ часам не адпавядае ні належнай якасці, ні модзе. Ну, а як жа будзе тады, калі абутковыя прадпрыемствы пяройдуць на дзяржаўную прыёмку прадукцыі?

Гэта, відавочна, ніякіх адносін да чаргі не мае, але да слова хочацца сказаць: аднолькава не думаюць пра дзяржаву і тыя, хто вырабляе няякасныя тавары, і тыя, хто абыякава ставіцца да працы рук чалавека, няхай гэта проста чаравікі, якія можна панасіць сорак дзён і вярнуць назад, ці калгасная машына, трактар, якія можна і кінуць без нагляду дзе папала, і зламаць.

Дзяржава, маўляў, у нас багатая.

Але вернемся да галоўнай нашай тэмы — да чаргі.

Мы прывыклі да размаху, няхай сабе нават уяўнага. Будуем мікрараёны, а ў іх, замест магазінаў і магазінчыкаў, гандлёвыя цэнтры. Мусіць, архітэктарам і праектантам так вальней і зручней. Пастаў у сярэдзіне гэты цэнтр, а вакол саджай стандартныя дамы. Што тут выдумляць?

Гандлёвы цэнтр. І гучна, і зручна. Мікрараёны (хоць гэта слова і мае на ўвазе малыя велічыні) усё-такі вялікія. 100—150 тысяч жыхароў. І на ўсіх адзін магазін. Гандлёвы цэнтр, асабліва пасля рабочага дня, кіпіць, як вялікі кацёл і летам і зімою. Народу сыходзіцца многа. У Старажытным Рыме пры такім зборы народу кожны меў бы пры сабе амулет, зашыты ў лапік тканіны зубок часнаку на шыі, каб адпужваць усялякую заразу. Вось і ўспамінаюць карэнныя жыхары Мінска, якія пасяліліся ў мікрараёнах, маленькія магазінчыкі на Нямізе, на Савецкай...

Ідэя гандлёвых цэнтраў здалася заманлівай: цудоўна, ёсць усё, што патрэбна, можна купіць у адзін прыход. Але, прабачце, чалавек не ўючная жывёліна. Добра вунь таму, пад'ехаў на машыне, загружаецца. Нечага набралі: і сам, і жонка, і дзеці — з сумкамі.

А колькі часу губляеш у кружэнні па вялікай зале, у мітусні людской у пошуках неабходнага табе кавалка, напрыклад, сыру. Аказваецца — ён ужо адрэзаны, загорнуты ў плёнку, так што не відно ні колеру, ні гатунку, не чуваць паху, ляжыць перамацаны дзесяткамі рук: таму цана не падышла, таму здаўся цвёрдым, вось нават умяціны ад яго пальцаў.

Сыр у кашолцы — цяпер у касу. Хоць іх працуе дзве, тры, чатыры, а людзей у кожную столькі, што пажадана, каб было меней. Прыглядаешся: на самай справе, усё тут ёсць. У аднаго ў кашолцы чай, мяса, хлеб, у другога — буракі, малако... Ва ўсіх рознае. І толькі ты з кавалкам сыру на снядання. І міжволі думаеш: каб сыр прадавалі асобна, скажам, у маленькім магазінчыку, то ля прылаўка ці касы ты быў бы адзін, ды вось яшчэ той, у акулярах, што стаіць у чарзе таксама з сырам, падазрона яго разглядаючы: дома «распранеш», а ён сухі, даўні, чэрствы. І міжволі марыш: у тым маленькім магазінчыку прадавец паварочвае да цябе сонечна жоўты, духмяны, дзірчасты, як здоба, сыр і пытае: вось так адрэзаць, ці так? І ты чуеш яго гаркаваты пах. А, можа, гэта мара аб мінулым? І трэба браць, што ёсць, што даюць.

...На вуліцы, ля ганка магазіна гароднiны некалькі чалавек у чарзе па памідоры. Звычайна такая кароценькая чарга, калі тавар канчаецца. І сапраўды, на ўсіх не хопіць. І з чаргі просяць рабочага падаць яшчэ скрынку. Яна ж у сваю чаргу раіць: папрасіце рабочага. Ён якраз тут, падбірае пустую тару. І што ж у адказ:

«Вас ніколі не накорміш».

Як выцягнуліся ва ўсіх твары, як балюча разанула такая абраза, нават слоў не знайшлося, каб нешта адказаць. А ён, з гэтакім выглядам гаспадара, згортваў гандаль, прыбіраў пустыя скрынкі... Жанчына, што прасіла вынесці скрынку памідораў, сказала:

«І нікому не паскардзішся. Яны адзін за аднаго гарою...» Ну што ж, памідораў не купілі, пойдзем у гандлёвы цэнтр.

Вось за шкляной перагародкай фасуюць кілбасу — наразаюць, загортваюць, узважваюць, прылепліваюць ярлык з цаною і кідаюць (так, кідаюць!) у нешта падобнае да адкрытай вітрыны. А чарга, не, хутчэй, натоўп, стаіць, чакае. І кожны кавалак падхоплівае некалькі рук. Нехта спрабуе наладзіць чаргу. Але дарэмна. Камусьці малы кінуты кавалак, камусьці — завялікі, а трэцяму — давай любы, толькі б у чарзе не стаяць, не чакаць, кавалкі ідуць па руках, аглядаюць іх, абмацваюць, бывае, зноў вяртаюцца ў скрыню-вітрыну. Сюды ж час ад часу кідае кавалкі ўпакоўшчыца, а можа, прадавец, словам, тая, што за перагародкай. Кідае ўсё адно як і не людзям. Нічога не скажаш, культура абслугоўвання. Зноў, як бачыце, пра яе. І не таму што ніяк не злаўчуся ўхапіць кавалак. Ды ўжо і не цягнуся да яго, пазіраю на твар той, што кідае кавалкі: якая пагарда і нават злараднасць на ім. І зноў пачуліся тыя словы рабочага ля магазіна гароднiны: **«Ніколі вас не накорміш». І нешта адкрылася мне: яна лічыць сябе вышэй усіх, можа, нават за людзей не лічыць тых, хто па гэты бок загародкі. І гэта пагарда, нават знявага, даўняя, нават у куточках губ характэрныя складачкі застылі: «Вас ніколі не накорміш...» Магчыма, у тым ёсць нейкая рацыя. Але ж кормяць нас не тыя, хто стаіць за прылаўкам. А тыя, хто зранку да вечара ў полі, хто ў непагадзь і спёку за рычагамі трактара, за рулём камбайна, хто стаіць за станком, хто ломіць галаву над канструкцыяй новай машыны...** А ім даверана толькі адпусціць, прадаць нарыхтаванае, зробленае. І сорамна за тых, хто паводзіць сябе па-панску, і тым больш, хто з гэтага хоча, а хутчэй за ўсё, і мае карысць, ці, як мы, пакупнікі, кажам — навар, асабліва на прадукцыі сельскай гаспадаркі. Ні для кога не сакрэт, чаму ў тых выпадках, калі стаіць вялікая чарга па клубніцы, памідоры, рыбу, нават гарбузы, на патрабаванні людзей паставіць яшчэ адны вагі і даць у дапамогу прадаўца ніякай рэакцыі няма. Ніякія тут пастановы і ўказанні не дапамагаюць. І яны ж зараней ведаюць, што будзе чарга, таму і арганізоўваюць продаж на вуліцы, у двары за магазінам. І стаіць чарга, а на скаргі — адзін адказ: не можаце стаяць — не стойце, ваша справа. Відаць, за чаргу, за тое, што на холадзе ці ў душным памяшканні людзі стаяць, тоўпяцца (а вы ведаеце, да якіх вынікаў прыводзіць стаянне восенню па дзве гадзіны, каб купіць карп, вінаград, ды што там бы ні было), дык вось за тое, што людзі стаяць у чэргах, трэба караць. Не знойдзеш вінаватых? Трэба знайсці!

Чарга была б бяскрыўднай, каб яна не мела маральных выдаткаў, не прыносіла зло грамадству. Зло пачынаецца тады, калі ў чалавека крадуць час, а такіх зладзеяў многа. Час крадзе і аўтобус, які парушае графік, тэлевізійны майстар або сантэхнік, якіх трэба чакаць дзень, і... вечныя чэргі ў магазінах, хімчыстцы, майстэрнях. Любы непарадак і дэфіцыт маюць у выніку маральную небяспеку, яны спараджаюць нават амаральнасць. Амаральныя і тыя, хто стараецца трапіць у магазін з чорнага ходу, дастаць «злева», і тыя, хто, шкадуючы свой час, купляе ў лаўкача яўна крадзенае — акумулятар, запчасткі, у спекулянта — імпартныя шмоткі, у сантэхніка — імпартны кран, вентыль, і тыя, хто запраўляе свае машыны крадзеным бензінам. І гэта ўсё, здавалася б, па такой праведнай прычыне, як ашчаднасць свайго часу.

Але хто калі падлічваў, колькі ідзе таго часу на ўсялякія даставанні, пошукі абходных шляхоў і пралазаў, наладжванне «выгодных» сувязей, на ўсялякую мітусню, у якой закручваецца чалавек з-за дрымучай недасканаласці сістэмы абслугоўвання. А ці падлічаны тыя маральныя страты ад вечнай атмасферы даставання, у якой растуць дзеці. Пра што яны гавораць між сабою, у якія гульні гуляюць. У класікі! Памятаеце, як самі скакалі на адной назе, пасоўваючы «паліўку», баючыся, каб хаця яна не трапіла ў агонь ці ваду, бо будзе страта. Так і яны гуляюць у класікі, толькі ў іх класіках не бяскрыўдныя агонь і вада, а — дача, машына, АБРСУ і турма...

# КУДЫ ЗАВЯЛА ЧАРГА



Атрымаўшы заданне рэдакцыі, я таксама пачала прыглядацца да чэргаў. Чаму людзі становяцца ў чэргі, што бяруць, ці, як у нас цяпер гавораць,— «хапаюць». Так, хапаюць, я не агаварылася, асабліва ў чарзе, калі тавар ужо канчаецца і ўзрастае жаданне ўзяць болей, не пакінуць пасля сябе нікому.

Не, тут яшчэ нічога не даюць.

Чарга пад сцяною Дома абутку закруцілася, як змяя. Людзі стаяць шчыльна, цярпліва. Пытаюся ў аднаго, у другога: чаго і што? У адказ — маўчанне. Толькі адна не вытрымала, адказала злосна: «А хто ведае? Можа, імпарт будзе? Канец жа месяца...» А-а, гэта чарга на ўсякі выпадак: або будзе, або не. І гэтая чарга не выключэнне, такіх у канцы месяца мноства: чакаюць дэфіцыту. Тут ніхто не думае пра тое, што марна, марна губляе час, сваё неацэннае багацце. Памятаеце выказванне Карла Маркса (хоць ці да месца яно тут?): крытэрыем багацця грамадства з'яўляецца воль-

ны час яго грамадзян. І тут нічога не скажаш, мы багатыя, калі дазваляем сабе бавіць час у чарзе «або будзе, або не». Гэта вялікая раскоша. Ці думае хто пра гэта. Узіраюся ў твары, спрабую загаварыць. Не, пра час ніхто не думае, галоўнае, мэта — купіць імпартныя боты, колькі б яны ні каштавалі. Як бачыце, пра цану таксама не думаюць.

Затое ў трыкатажным аддзеле ЦУМа ніякай чаргі. Пакупнікі мацаюць, разглядаюць кофтачкі, сукенкі. Бачыш, што чалавек ужо гатовы купіць, спадабалася яму спадніца, жакетка, але, зірнуўшы на бірку,— вешае назад. Што ж не задавальняе? Цана... Для многіх цана — гэта вялікая таямніца, не ўсе ж вывучалі палітэканомію. Ім няма ніякай справы да таго, што пры яе ўстанаўленні выкарыстаны асноўны эканамічны закон, закон вартасці. Бо нейкі «ўнутраны эканаміст» пратэстуе, не згаджаецца з цаною. І вымярае, супастаўляе ён не з коштам золата, а з практыкі сваёй, жыццёвага вопыту, назірання, мяркуе пра тое, колькі працы закладзена ў гэты тавар. І ў многіх выпадках цана яму здаецца няправільнай, выраб, на яго думку, таго не варты, што нехта проста са столі ўзяў яе. Таму ён прынцыпова не будзе той ці іншы тавар купляць. У гады, калі так востра паўмі ж ён танны, капейка. Што такое адна капейка — лічы нічога, а вырабляюць запалкі з дзелавой дзеравіны. Дарэчы, практыка, калі цану раіць пакупнік, ужо ёсць. Так працуе над устанаўленнем кошту прадукцыі вытворчае швейнае аб'яднанне «Масква» з маскоўскім магазінам «Мужские сорочки». У нашай рэспубліцы такога вопыту няма.

Але ж радавы пакупнік, той, што не вывучаў эканоміку, а, магчыма, і той, хто яе вывучаў, не задумваецца, што стыхійна ўсё-такі ўздзейнічае на цану. Бо і пры сацыялізме бываюць выпадкі, што свядома выкарыстоўваецца адхіленне цэн ад вартасці тавару. Бывае, што, павялічваючы цану на той ці іншы тавар, дзяржава стымулюе развіццё адпаведных галін вытворчасці. Часам гэта здараецца ад нейчай нядбайнасці, абыякавасці да спажыўца і нашай стыхійнай адсутнасці культуры спажывання, нездаровага ажыятажу.

Памятаеце, некалькі гадоў назад раптам стала дэфіцытам пасцельная бялізна, асабліва бавоўняная. Людзі выстойвалі ў чэргах, бралі, хапалі. Чаму няма ў продажы бавоўняных чахлоў на коўдры, «чалавекам з вуліцы» разумелася паросдэаму. Адны гаварылі, што ў Амерыцы ці Афрыцы бавоўняны бум і мы пастаўляем усё туды, друга на самай справе — яе не было. Цяпер і злачынцы выкрыты, і склады, магазіны завалены пасцельнай бялізнай, і — чаргі ніякай... Невядома толькі — радавацца гэтаму ці не? Скажу, што бываюць выпадкі, калі мы і радуемся чарзе. Не ад аднаго ўжо чула, сказанае з гонарам, што ў нас, у Мінску, адкрыўся магазін «Мода», дзе прадаюць асабліва модныя айчынныя тавары, і стаяць трэба гадзіны дзве, толькі каб патрапіць у яго. Пакуль што гэта людзей радуе, тых, хто не раўнадушны да таго, што адбываецца з нашай эканомікай.

●

**Вось бачыш, куды мяне завяла чарга, а я — цябе, дарагі чытач. І калі табе цікава, калі ты згодзен або не згодзен са мною, а гэта таксама добра, значыць, і цябе гэта хвалюе, то давай зірнём на чаргу яшчэ з аднаго боку.**

●

Як цягнецца час у ёй, здаецца, гадзіннік спыняецца. Мы ўсе спяшаемся, бяжым, ляцім, мы, як зацугляныя коні, не можам стаяць на месцы: нервуемся. Так і чуеш у адрас той, таго, хто за прылаўкам: «Ну што яна, як нежывая», «Дзе вае, то забірае тоўстую лусту, а пакупнік стаіць і адпускае ў яе адрас такое, што не пазайздросціш, адзін, другі... Цяпер (ці заўважылі вы?) у магазінах сыр не наразаюць скрылікамі: бяруць лустамі, галоўкамі. І зусім не таму, што для нарэзкі сыру патрэбны спецыяльныя прыстасаванні, пра якія так многа раней гаварылі, пісалі, але якіх ні ў адным магазіне вы не бачылі. Я — не пра тэхніку, ці так званую малую механізацыю. Я пра чалавека, дзяўчо, якое па той бок прылаўка наразала кволымі рукамі сыр, а ў самое бобам па шчоках сыпаліся слёзы. Трэба сказаць, што і мы, пакупнікі,— не анёлы. І мы гатовы абразіць прадаўца за няспелы памідор. І добра, як тая чарнявая, што стаіць дзень у дзень сярод людзей, можа ўгаворваць і ўлагоджваць: «А міленькія вы мае, а ці ж я іх вырошчвала, ці ж я іх рана так зняла». А гэта дзяўчо колькі яшчэ нацярпіцца, наслухаецца ад паважаных пакупнікоў, пакуль навучыцца ці ладзіць з імі, ці абараняцца. Хіба нам не цікава, што думаюць яны там, за прылаўкам, пра нас, пакупнікоў? Цікава. Дык вось кандыдат педагагічных навук Б. Бушалева папрасіла навучэнцаў гандлёвага прафтэхвучылішча напісаць сачыненне «Пакупнік, які мне падабаецца». Вось такі атрымаўся калектыўны партрэт.

«Пакупнік, які мне падабаецца, ідзе ў магазін, ведаючы, чаго ён хоча. А калі ён хоча проста паглядзець, так сказаць, для агульнага развіцця, дык робіць гэта не ў часы пік. У магазін ён не ўрываецца, як ачмурэлы, а ў дзвярах прапусціць тых, хто выходзіць. Калі магазін зачынен на перапынак, ён не стане стукаць у дзверы і паказваць праз шкло на свой гадзіннік, па якім прыйшоў час адчыняць. Ён не будзе хваляваць чаргу бясконцай падазронасцю, што «той, у брылі» і «гэта, з чамаданікам» тут не стаялі. Дапяўшы да прылаўка, ён не наваліцца на вітрыннае шкло і не будзе, як заведзены, паўтараць: «дзевушка, колькі каштуе касета, дзевушка, я ў вас пытаюся, колькі каштуе касета, дзевушка, колькі разоў можна пытацца, колькі каштуе касета», пакуль я абслугоўваю другога пакупніка. А магчыма, ён наогул не стане пытаць пра цэны, таму што ў нас усё напісана на цэнніках. Выбіраючы слоік марынаваных агуркоў, ён не запатрабуе, каб я паказала ўсе, якія ёсць, слоікі, асабліва з самай верхняй паліцы вітрыны, і не будзе дакараць мяне за дрэнную якасць тавару, быццам бы я асабіста так дрэнна яго зрабіла. Ён таксама не стане падазрона зазіраць за прылавак альбо ў адчыненыя дзверы падсобкі з надзеяй знайсці прыхаваны дэфіцыт і недаверліва хітаць галавою, убачыўшы паказчык стрэлкі вагаў ці пачуўшы названую суму. Пакупнік, які мне падабаецца, не завядзе ў чарзе свецкую размову пра тое, што «туфлі гэтыя нікуды нягодныя, і падэшва благая, а скура штучная, а фасон даўно ўстарэў» ці што «яблыкі толькі здаюцца на пагляд нічога, а ўвогуле жудасная кісляціна і ў сярэдзіне адно гнілле». Калі пакупнік прапанаванае мною не купіць, ён скажа: «Дзякую, але гэта, на жаль, мне не падыходзіць», а калі купіць, таксама падзякуе. І я адкажу яму: «Вам дзякую за пакупку. Прыходзьце да нас».



стала праблема якасці тавараў, многія прадпрыемствы, карыстаючыся дазволам павышаць цану на тавары са знакам якасці, маўляў, гэта не цяп-ляп, а на іх выраб затрачваецца і болей часу, і прымяняецца навейшае (таксама не таннае) абсталяванне, сталі злоўжываць цаною. Тым самым адпужваць пакупніка. І каб устанаўленне цаны перастала быць тайнай, трэба, у некаторых хаця б выпадках, раіцца з пакупніком, правяраць цэны рынкам. Гэты ўнутраны чалавечы эканаміст не памыляецца, ён ведае кошт усяму, нечаму ён, магчыма, дасць больш высокую цану, нешта ацэніць танней. Нядаўна адзін адукаваны чалавек, урач, раіўся са мною, куды б гэта напісаць, каб павысілі кошт карабка запалак. Вельгія меркавалі: нягледзячы на тое, што газеты пішуць пра небывалы ўраджай бавоўны, на ўсю краіну гэтага ўсё-такі мала. І лепшага чакаць не прыходзіцца— трэба запасацца. І запасаліся. Памятаю, і я стала ў чаргу. Абывацелі адзін аднаму хваліліся, хто колькі ўжо ўзяў. Адна бабуля сказала з гонарам, што яна купіла ўжо дваццаць пяць(!) «пададзеяльнікаў»...

Гэты дэфіцыт існаваў доўга, выклікаючы крыватолкі і здагадкі. Адкуль было ведаць недасведчанаму пакупніку, што гэты дэфіцыт стварылі штучна хапугі і прайдзісветы, якія манілі, займаліся прыпіскамі ў дзяржаўным маштабе, маніпулявалі чамаданамі грошай замест гатовай прадукцыі. У справаздачах, рапартах бавоўна была, такую знайшлі...» і г. д. І ўсё гэта ўголас. Гэта, канечне, не паскарае справы, і плынь чаргі нібы застывае. А пастаўце сябе на яе месца, хіба не будзе ўсё валіцца з рук, хіба хуценька палічыш, колькі каштуе кавалак сыру, сала, калі чуеш ва гэтакія заўвагі ў свой адрас. Бо па той бок прылаўка не робат, у большасці сваёй не бяздушны механізм, а чалавек. Гэта потым ён абатрэцца, як кажуць, абаб'ецца і ад яго ўсё будзе адлятаць, як гарох ад сцяны, ён і сам сыпане вострай слоўнай шрапнеллю па тых, хто па другі бок прылаўка, а пакуль што я назірала такую карціну: дзяўчынка, мусіць, практыкантка нарэзвае скрылікамі сыр, няўмела, няроўна (а трэба, каб скрылікі свяціліся), нож, вялікі, тупы, што саслізг-



Уладзімір
ШАХАВЕЦ

# ЮБІЛЕЙ

АПАВЯДАННЕ

*Памяці сваёй маці прысвячаю.*

Яе даўно ўжо ніхто ў вёсцы не называў цёткай. Нават тыя, хто ненамнога быў маладзейшы за яе. Амаль для ўсіх яна была бабуляй. І для праўнукаў і праўнучак таксама, бо не будзеш жа гаварыць: прабабуля — язык можна зламаць. Праўда, часам старшыня калгаса ці хто з настаўнікаў называў яе Настасяй Яфімаўнай, але з імі яна сустракалася рэдка.

Гады не згорбілі бабулю Насту, толькі бязлітасна высушылі яе. Ды і не пашкадавалі маршчын. Маршчыны спачатку з'явіліся на руках, а гадоў дваццаць таму назад густымі баразнамі спаласавалі і твар.

На здароўе бабуля Наста не скардзілася. Не скардзілася людзям і свайму ўнуку з яго жонкай, у якіх яна жыла. Калі што і балела, яна хваробу пераносіла на нагах. За ўсё сваё жыццё была ў дактароў лічаныя разы. А каб падлячыцца ў бальніцы ці трохі адпачыць там — то такога зусім не было.

Яна магла не толькі добра хадзіць, але і многае рабіць па гаспадарцы. Даіла карову, карміла курэй і з асаблівай ахвотай завіхалася ў агародзе — садзіла цыбулю, палола грады, седзячы на ўслончыку, выбірала агуркі.

Спрабавала яна разы са два пажыць у горадзе, у старэйшай дачкі. Але больш тыдня там прабыць не магла. Яе ногі прывыклі ступаць па зямлі, а не па камені ці асфальце (улетку яна заўсёды хадзіла босая). Ёй карцела хутчэй вярнуцца ў свой дом, у свой агарод...

Хапала ёй клопату і на кухні. Уставала яна рана — выспалася за свой век,— і пакуль, прачнуўшыся, апранаўся і мыўся ўнук (ён працаваў у калгасе трактарыстам), пакуль прыходзіла з фермы яго жонка (яна была даяркай), сняданак стаяў ужо на стале.

У кухні была сялянская печ і, з нядаўняга часу, газавая пліта. Абед гатаваўся ў печы (бабуля Наста лічыла, што страва там атрымлівалася смачнейшая), а сняданак — на пліце, дзеля хуткасці.

Была ў кухні і радыёкропка. Гэтая рэч больш за ўсё падабалася бабулі Насце. Устаўшы ранен́ька і прыйшоўшы ў кухню, яна, раней чым уключыць пліту, уключала радыё. У шэсць гадзін раніцы надта з кім не пагаворыш. А тут — калі і не пагаворыш, то паслухаеш. Бабуля Наста любіла слухаць і музыку, і песні, асабліва калі гэта былі народныя песні, з даўняй пары знаёмыя ёй. І ўжо ніколі не прапускала яна навін.

Сюды, у вёску, яе сасваталі з мястэчка. Бацька яе, даволі заможны селянін, сыноў не меў, ды і Наста была ў яго адзінай дачкой, таму ён і наважыў аддаць яе ў царкоўнапрыходскую школу. Так што на той час яна была ледзь не самай адукаванай нявестай.

Зрэшты, гэтая адукацыя не вельмі патрэбна была ў яе нялёгкім сялянскім жыцці. Не было часу ні чытаць, ні пісаць. Толькі пазней, ужо пры калгасе, нібы ўспомніўшы пра свае вучнёўскія гады, яна часам брала ў рукі які-небудзь падручнік сына ці дачкі. А то нават і чытала газеты. Ды і нейкі час пабыла прадаўшчыцай...

Цяпер зрок быў ужо не той, і ад газет прыйшлося адмовіцца. Акуляраў бабуля Наста не любіла. Вось тут і выручала радыё.

Радыё і падказала ёй зрабіць калі не дзіўны, то незвычайны крок.

Бабуля Наста вырашыла адзначыць свой юбілей.

Спачатку такая задумка-выдумка яе толькі развесяліла. А потым, потым яна ніяк не хацела адчапіцца ад бабулі Насты.

«А чым я горшая за іншых,— разважала яна.— Вунь адзначаюць юбілеі, каму шэсцьдзесят ці семдзесят, і гавораць пра іх па радыё ледзь не па гадзіне. Ну, няхай няма ў мяне ўзнагарод ці званняў, але ж мне восемдзесят. Няхай сабе не віншуюць мяне, я сама сябе павіншую».

І наваліліся на бабулю Насту такія думкі, што ажно галава кругам ішла. Па-першае, калі? Па-другое, дзе? Па-трэцяе, каго запрашаць, чым частаваць?

Ніякіх метрык ці якіх іншых дакументаў, якія сведчылі б, калі яна нарадзілася, у бабулі Насты ні цяпер ні да вайны не было. Калі пасля вызвалення выдавалі пашпарты, па нейкіх, ёй адной вядомых, падліках яна сама сабе вызначыла ўзрост. Так, як яна сказала, і запісалі. І вось атрымлівалася, што сёлета ёй восемдзесят... Ці ёй маці гаварыла, ці так ад каго чула ў маладосці, але яна запомніла, што пабачыла свет дзесьці ў пачатку лета, якраз у такую пару, якая была цяпер.

«Вырашана,— сказала бабуля Наста сама сабе.— Юбілей будзе праз тыдзень, у наступную нядзелю».

Дзе спраўляць? Тут бабуля Наста доўга не думала. Навошта ёй клуб ці яшчэ што вялікае, яна ўсё зробіць дома.

Каго запрасіць? І так і гэтак прыкідвала бабуля Наста, і ўсё атрымлівалася нешта не тое. Яна ажно разгубілася.

У іхняй вёсцы яшчэ ніхто не спраўляў юбілею. Збіраліся часам на дзень нараджэння, ці як тут гаварылі, на імяніны, ды і то такая мода была больш у сем'ях маладых інтэлігентаў. Мала хто звяртаў увагу на тое, калі ён нарадзіўся, а некаторыя проста не памяталі гэтай даты.

Хацелася б пабыць у гэты дзень са сваімі кроўнымі, з самымі блізкімі, дарагімі сэрцу. Ды мала каго даклічашся. Малодшы сын загінуў на фронце. Пахаванка на яго ляжыць у куфры, пажаўцелая ад часу. Старэйшы сын памёр сваёй смерцю. Усе тры дачкі жывуць. Старэйшая — у горадзе. Гэта тая, у якой яна не захацела жыць. «Відаць, пакрыўдзілася на мяне. Рэдка калі і піша. Ды і я магу крыўдзіцца на яе. Адзін толькі раз прыязджала сюды адведаць старую. Не, не буду запрашаць. Калі ўспомніць, сама прыедзе». Сярэдняя дачка жыве бог ведае дзе. Калі тут ужо вясна, спяваюць жаўранкі, там, як перадаюць па радыё, яшчэ дзесяць, а то і пятнаццаць градусаў марозу. «Гэтулькі грошай патраціць, пакуль сюды даедзе. Не, не буду яе запрашаць»,— вырашыла бабуля Наста. Трэцяя дачка засталася тут, у вёсцы, з ёй клопату няма. Усе тры дачкі даўно ўжо бабулі. Ёсць у іх і сыны, і дочкі, унукі і ўнучкі. Калі б усіх сабраць, была б поўная хата. Але ж дзе іх збярэш, калі яны параскідаліся па ўсім свеце. «Дык каго ж, каго ж запрасіць? Можа, суседзяў? Не, нешта не тое».

Увесь дзень мучылася бабуля Наста над вырашэннем гэтага пытання.

І толькі пад вечар, быццам нейкі добры чалавек шапнуў ёй на вуха слушную параду, прыйшло збавенне. Парада гэтая была крыху дзіўная і незвычайная, як і яе жаданне адзначыць юбілей. І ўрэшце яна цвёрда вырашыла: у яе за сталом будуць сядзець толькі тыя з аднавяскоўцаў, каму, як і ёй, восемдзесят ці за восемдзесят.

Засталося прыпомніць, хто ж канкрэтна заслужыў права на яе запрашэнне. Зрабіць гэта было няцяжка. Яна амаль увесь свой век пражыла ў гэтай вёсцы і добра ведала, хто старэйшы, а хто маладзейшы за яе.

«Піцерка, Марыля, Ганна, Волька, ну і я,— налічыла яна ажно пяць чалавек.— Не зазнавайся, Каўказ, што ў вас людзі доўга жывуць, мы таксама гэтым можам пахваліцца... Чакай, што ж гэта я пра мужчын забыла, без кавалераў будзе сумна».— Бабуля Наста пачала перабіраць у памяці, хто б з мужчын мог быць за яе сталом. Такіх не знайшлося. «Эх вы, слабакі, дзе вам раўняцца з бабамі,— хацела сказаць яна, ды ўспомніла: — А была ж вайна».

На другі дзень бабуля Наста пачала абход тых, каго яна вырашыла запрасіць на юбілей.

Перш-наперш яна зайшла да Піцеркі. Піцеркай яе звалі таму, што яна нейкі час жыла ў Петраградзе. Сапраўднае імя яе было Аўгіння, а ў маладосці — Жэня. Дык вось, калі яна была яшчэ Жэняй — тады ёй ішоў шаснаццаты год,— бацька яе, вырашыўшы наведаць брата, які працаваў на Пуцілаўскім заводзе, узяў з сабой і дачку. Госці гасцямі, але ў бацькі была і патаемная думка: а можа ўдасца дзе ўладкаваць Жэню, прыслугай да якіх паноў ці вучаніцай на нейкую фабрыку. З ходу нічога зрабіць не ўдалося, бацька паехаў дадому, папрасіўшы брата: «Няхай яна трохі пабудзе ў цябе».

І тут грымнуў Кастрычнік. Не, Жэня не брала Зімняга, яна нават не чула стрэлу «Аўроры». Але яна ў тыя дні жыла ў Петраградзе. І не толькі жыла. Кватэра дзядзькі была своеасаблівым, хай сабе маленькім, штабам. Узброеныя рабочыя збіраліся тут, грэліся, узбуджана размаўлялі. Часам з'яўляліся і раненыя. Тады Жэня перавязвала іх...

Уладкавацца ёй не ўдалося нідзе. Паноў ужо не было, а на фабрыках такія, як яна, пакуль што не былі патрэбны. Прыехаў бацька і забраў яе дадому, у вёску.

Далейшае жыццё яе ішло ранейшай сялянскай хадой. І ўсё ж піцерскія дні пакінулі нейкі след. Трохі падросшы, яна стала вясковай актывісткай. А калі выйшла замуж, то было амаль як у Крапівы: «У хаце сварка, звадка — жонка дэлегатка». Амаль — таму, што асаблівых сварак і зва-

дак не было, а наконт дэлегаткі — дакладна.

Але сялянскае дакалгаснае жыццё не дазволіла ёй разгарнуць крылы. Абляпілі яе дзеці, засмакталі клопаты па гаспадарцы. І ўсё ж прачнулася адзін раз былое, калі яна ўгаварыла, а, можа, прымусіла мужа адным з першых уступіць у калгас. Зарабляла потым сумленна, як і астатнія, працадні, выгадавала дзяцей, вывела іх у людзі. Перажыла вайну, пастарэла. Ды памяць людская — трывалая рэч. І цяпер яшчэ, хто за вочы, а хто і ў вочы, з павагай называлі яе Піцеркай...

— Ну і Наста! Дадумалася ж да такога,— пакруціла галавой Аўгіння, выслухаўшы запрашэнне.— Абавязкова прыйду, хай табе добра будзе...

Да Марылі заходзіць у хату не было патрэбы. Старая палола ў агародзе грады. «Вось і добра,— падумала бабуля Наста.— Лішняе вуха пашкодзіць». Яна наважыла трымаць сваю задумку ў сакрэце.

Марыля была родам з суседняй вёскі. Танцуха-весялуха, яна закружыла галаву не аднаму хлопцу. Было, што яны біліся за яе. Яна ні цяпер, ні раней не сказала б, чаму выйшла замуж менавіта за Міхала і дазволіла перавезці сябе ў вазку цераз рачулку, што падзяляла яе ранейшую вёску з той, у якой ёй давялося век векаваць.

Энергія ў яе, здавалася, біла цераз край. Яна, пайшоўшы ў лікбез, з'агітавала амаль палову вясковых кабет, каб яны ўзялі з яе прыклад. А пры калектывізацыі яна была першай памочніцай у Аўгінні. Нават не памочніцай, а напарніцай.

У калгас уступілі ўсе. У вёсцы не засталося ніводнага аднаасобніка (у суседніх вёсках іх яшчэ хапала), абагуленую маёмасць ні разу не разбіралі (у некаторых вёсках калгас арганізоўвалі па два-тры разы). Відаць, таму іхняму калгасу аднаму з першых у раёне далі трактар. Ён некалькі дзён стаяў на калгасным двары без работы — не было каму на ім ездзіць. Не тое, што ніхто не ўмеў, можна было навучыцца,— пабойваліся кулацкіх абрэзаў. Хоць кулакоў павысылалі, але чуткі пра розных падкулачнікаў і лясных бандытаў палохалі.

Тады Марыля на здзіўленне ўсіх сяльчан, пасварыўшыся з мужам, паехала ў раён на кароткатэрміновыя курсы. Так з'явілася ў іхняй вёсцы свая Паша Ангеліна.

Пабыла яна трактарысткай гады тры. Старшыня калгаса ўгаварыў яе стаць брыгадзірам — многія з маладых хлопцаў падахвочваліся сесці на трактар. Калі была брыгадзірам, ездзіла ў Мінск на сельскагаспадарчую выстаўку, атрымала дыплом.

Узбуйнялі калгасы. І неяк, як быццам само сабой, атрымалася, што яе вызвалілі ад брыгадзірства. Была яна потым звеннявой па льну і, некаторы час, нават па коксагызу. Гады бралі сваё, час ішоў, і яна стала спачатку бабуляй, а потым і прабабуляй...



Ганна была суседкай Марылі. Іх сядзібы падзяляў толькі нізенькі плот. Заўважыўшы праз акно, што суседка размаўляе аб нечым з Настай, Ганна выйшла з хаты, пратупала сцежкай па сваім агародзе, наблізілася да плота.

— Пра што сакрэтнічаеце? — запытала яна ў таварышак.— Зайшлі б да мяне ў хату.

— Дык жа на свежым паветры лепш... Слухай, што я табе скажу, Ганна...

Ганна была, можа, самай ціхай жанчынай у вёсцы. Яна ніводнага разу за ўсё сваё жыццё не выступіла на сходзе, нават тады, калі арганізоўвалі калгас, ніводнага разу не пасварылася з суседкамі.

Ніхто з вяскоўцаў не мог і падумаць, што Ганна — партызанская сувязная. І добра, што ніхто і не падумаў, бо хоць партызаны і расстралялі старасту, сын якога быў паліцэйскім,— мог знайсціся іншы здраднік — у сям'і не без вырадка.



Паклаўшы ў кошык яйкі і кавалак сала, Ганна ішла ў мястэчка, дзе быў нямецкі гарнізон, каб выменяць усё гэта на соль і запалкі. Вядома, гэта было маскіроўкай. Сустрэўшыся з местачковымі сувязнымі, атрымлівала ад іх звесткі, якія цікавілі партызан, і перадавала іх у атрад.

Сярод пажылых вясковых жанчын, якія прыходзілі ў мястэчка з навакольных вёсак, яна нічым не вылучалася і таму асаблівых падазрэнняў не выклікала.

Аднаго разу яна трапіла на вочы паліцэйскаму, сыну старасты, якога забілі ў яе вёсцы. Той затрымаў яе, завёў у хату, дзе кватаравалі паліцэйскія, збіў да паўсмерці гумавым шлангам са свінцовым наканечнікам. Яе не дапытвалі — што можа ведаць гэтая старая баба — білі толькі за тое, што яна з адной вёскі з нябожчыкам-старастам. Выпхнулі з хаты, рассыпаўшы соль, прыгразілі: «Гэта толькі для пачатку...» І дагэтуль сінеюць на Ганнінай спіне рубцы ад таго свінцовага наканечніка.

Пазней, калі партызаны акрэплі і не давалі дыхнуць гарнізоннікам, хадзіць у мястэчка трэба было ноччу і глухімі сцежкамі. Ды што там ноч, дождж ці завіруха, калі трэба.

Зведала Ганна і ціскі блакады, і цеснату падслепаватай зямлянкі, і пасляваенны паўгалодны час. І вось дажыла да свайго старога веку...

— Ну дык прыходзьце,— сказала на развітанне Наста.— Ніколі мы разам не збіраліся.

— Прыйдзем,— паабяцалі Марыля з Ганнай.

Заставалася яшчэ зайсці да Волькі...

Якія толькі ёсць няшчасці на белым свеце, усе яны навальліся на Вольку. Навальліся з самых яе маладых гадоў.

Выйшла яна замуж за свайго вясковага хлопца. Свёкар яе, бедны малазямельны селянін, калі дзялілі панскае поле, атрымаў ладны кавалак зямлі. Цяпер частку яе выдзеліў сыну. Пабудавалі сваю хату і зажылі самастойнымі гаспадарамі. Нарадзіўся сын.

У вёсцы ад маланкі здарыўся пажар. Была сухмень, і згарэла палавіна вёскі. На гэтай палавіне стаяла і хата Волькі. Што такое пагарэльцы, той, хто гарэў, ведае.

Сяк-так агаралі новую хату. Заставалася толькі паслаць падлогу. Мужа Волькі, калі ён паехаў у лес, каб нарыхтаваць бярвенні для гэтай самай падлогі, прыціснула дрэвам. Неўзабаве ён памёр. Калі Волька аўдавела, у яе было ўжо два сыны. Абодва малыя.

Давялося беднай Вольцы самой і араць, і сеяць, і касіць, і жаць... Пры калгасе трохі палягчэла, але ўсё адно было цяжка. Таму яна згадзілася ўзяць прымака. Волька ведала, што за чалавек гэты прымак, ды, як аказалася, мала ведала. Ён быў адменны лайдак, бязбожна піў і, напіўшыся, няшчадна біў і жонку, і пасынкаў. Людзі казалі, што праз гэтыя пабоі на Вольку часам находзіла зацьменне розуму.

Неяк летам яе п'яны прымак палез у рэчку купацца і ўтапіўся. Волька засталася ўдавой другі раз і ўжо да канца жыцця...

Аднаго разу, у піліпаўку, на яе напалі ваўкі. Добра, што было блізка да вёскі, і Вольцы ўдалося ўцячы ад воўчай зграі. Але жанчына так напалохалася, што зацьменне пачало паўтарацца часцей...

Старэйшы яе сын як пайшоў у армію, так і не вярнуўся ў вёску. Ён паступіў у ваеннае вучылішча, праз пэўны час стаў немалым камандзірам. Служыў недзе на далёкай граніцы. Малодшы сын жыў увесь час з маці. У вайну ён стаў партызанам і загінуў перад самым вызваленнем.

А праз некалькі гадоў — бабуля Волька ўжо не лічыла тых гадоў — прыйшло паведамленне, што пры выкананні баявога задання загінуў яе сын, маёр-пагранічнік. Гэтая вестка канчаткова дабіла старую Вольку. Яна часта хварэла, ляжала ў бальніцах, было, што і ў псіхіятрычнай. Але праз нейкі час адыходзіла, рабілася звычайнай вясковай бабуляй, з якой можна было і пагаварыць, мацнела здароўем, дапамагала па гаспадарцы. Жыла яна цяпер у сястры.

Бабуля Наста доўга вагалася — заходзіць ці не заходзіць да старой Волькі. А што, калі яна хворая? Яшчэ больш развярэдзіш яе сэрца. А калі здаровая? Пакрыўдзіцца, як даведаецца, што не запрасіла, усё адно, як пагрэбавала ёй.

Калі Наста зайшла ў хату, Волька сядзела на ложку і нешта гаварыла сама сабе. «Відаць, я прыйшла недарэчы»,— падумала Наста.

— А, гэта ты, Настачка! Праходзь, сядай. Мусіць, воўк у лесе здох, калі ты надумалася прыйсці да мяне. Я сама дык далей сваёй вуліцы нікуды не хаджу, людзей мала бачу.

«Не, здаецца, цяпер яна здаровая. А можа, да нядзелі і дацягне»,— падумала Наста і расказала, чаго прыйшла.

— Ой, мая даражэнькая, дзякуй, дзякуй. Толькі я забыла, дзе ты жывеш, мусіць, далёка, сама не дайду.

— Зойдзем па цябе, прывядзём,— пабяцала Наста.

Усе, хто быў патрэбны, былі запрошаны...

— Вы ў нядзелю нікуды не збіраецеся ісці ці ехаць? — запытала за вячэрай у сваіх бабуля Наста.— Хачу, каб пайшлі.

— А навошта табе гэта? — здзівіўся ўнук.

Бабуля Наста ледзь не сказала, для чаго ёй трэба «арандаваць» на дзень сваю хату, але стрымалася. Канспірацыя!

— Пасля скажу. Ды і самі ўбачыце,— адказала яна.

Жонка неўпрыкмет падміргнула гаспадару:

— Ты забыў. Нас жа запрашаў да сябе ў нядзелю ў госці твой напарнік. Да яго брат прыехаў здалёк.

— Сапраўды! Як гэта я мог забыць! — стукнуў пальцам сабе па лбе гаспадар.

— Вось і добра,— сказала бабуля Наста.

Такім чынам і гэтае пытанне было вырашана...

Клопат пра пачастунак бабуля Наста адклала на апошні дзень. Колькі трэба пяці старым жанчынам таго пітва ці закусі! З пітва ў бабулі Насты была вішнёвая настойка і маленькая бутэлечка каньяку. На ўсякі выпадак можна прыкупіць бутэльку віна.

Спачатку бабуля Наста вырашыла ўсё рабіць сама, але, падумаўшы, запрасіла сабе ў памочніцы Піцерку. Яна была з усіх запрошаных мацнейшая здароўем, пабачыла свет. Можа, спатрэбіцца якая дапамога, якая парада. Ды ўдзвюх і весялей...

Марыля з Ганнай зайшлі да Волькі, прымусілі яе апрануцца па-святочнаму, узялі пад рукі і падаліся вуліцай да Насты.

— Куды гэта яны павялі Вольку? — дзівіліся тыя, хто бачыў гэтае шэсце.— У бальніцу? Нешта не падобна. Не ў той бок...

Дзесьці апоўдні ўсе былі ў зборы. Заслалі стол чыстым белым абрусам, заставілі яго ўсім, што нагатавалі Наста з Аўгіння. Селі за стол.

— Я, як старэйшая, скажу два словы,— устала з месца Марыля.— Чаго табе пажадаць? Здароўя? Дзе яно ў нашы гады будзе тое здароўе?

— Так, так,— ківала галавой Волька.

— Доўгіх год жыцця? І так яно, дзякуй богу, было доўгае. Няхай маладыя жывуць, не было б толькі вайны... Ат, навошта тая гаворка, будзем піць і есці,— і яна наліла сабе паўчаркі каньяку.

Але хіба можна было маўчаць, хіба прыйшлі яны сюды, каб толькі піць і есці? Ды і сабраліся яны такой кампаніяй упершыню ў жыцці. А ў іхнім жыцці было што ўспомніць.

— А памятаеце, як я пратаргавалася, і вы мяне выручылі,— сказала Наста, чамусьці з гэтага пачаўшы ўспаміны.

— І ты яшчэ не забыла пра гэта?

— Добрае доўга помніцца.

Перад вайной Наста працавала загадчыцай сельскай крамы. Ранейшая загадчыца, маладая дзяўчына, надумалася паехаць вучыцца. Замяніць яе ніхто не хацеў. Маладыя рваліся ў горад, пажылыя жанчыны былі малапісьменныя, а мужчыны лічылі, што такая работа не для іх. Як у свой час Марыля адважылася сесці на трактар, так Наста адважылася пайсці загадчыцай (загадваць трэба было толькі тым, што прадавалася). Цётка Наста вельмі любіла дзяцей. Бывала, прыйдзе якое дзіцянё ў краму, глядзіць на паліцы і нічога не гаворыць. Цётка Наста дае яму жменю цукерак ці пячэння. Вядома, без грошай. А то зойдзе які мужчына, папросіць напавер віна ці гарэлкі. Цётка Наста дае. Хто вяртаў доўг, а хто і не. Была яна да ўсяго да гэтага занадта даверлівай. Накладныя ў сельпо падпісвала не правяраючы. Адным словам, праз нейкі год, пасля рэвізіі, выявілася, што яна пратаргавалася на салідную суму. Прыйшлося прадаць карову, парсюка, швейную машыну «Зінгер». Ды пагасіць нястачу ўсё роўна грошай не хапіла. Выручылі сяброўкі, якія сядзелі цяпер за сталом.

— А ведаеш, мой сынок, лайдак, табе дагэтуль не аддаў даваеннага доўгу,— сказала Ганна.

— Спагонім! — прыгразілі павесялелыя ад вішнёвай настойкі бабулі...

— А памятаеце, як я вамі кіравала? — запытала Марыля.

— Гэта калі была брыгадзіркай?

— Ды не, адразу пасля вызвалення... Ну, калі я запрэгла вас у плуг. Калі коней яшчэ не было... Гладкія былі кабылкі, не тое, што цяпер.

Гэта было так даўно, што ўспаміналася яно з усмешкай.

— Вось толькі Волькі не было ў запрэжцы. Яна тады хварэла.

— Ага, я хварэла,— ціха пацвердзіла Волька. Яна выглядала вельмі стомленай, нічога не піла і амаль нічога не ела.

«Хаця б зноў не вярнулася гэтае праклятае зацьменне?» — устрывожылася Наста.

— А памятаеце...

— А памятаеце...

— А памятаеце...

Успаміналася светлае і змрочнае, вясёлае і сумнае, спакойнае і трывожнае — усё тое, што яны перажылі...

Гэтае застолле было гісторыяй — і гісторыяй не адной толькі іхняй вёскі...

Праз гадзіны дзве пасля пачатку бяседы бабуля Наста стала заўважаць, што па вуліцы, каля яе акон, нешта часта ходзяць туды-сюды людзі.

— Чаго гэта яны расхадзіліся? — зацікавілася Наста.

— Ды сёння ж нядзеля,— адказалі ёй.— Хай шпацыруюць. Яны самі па сабе, а мы таксама самі па сабе...

На ганку пачуўся дробненькі тупат, і ў хату куляй уварвалася Алёнка, праўнучка.

— Ой, бабуля, што гэта ў цябе такое? — як здалося бабулі Насце, не зусім шчыра здзівілася Алёнка.

— Юбілей, праўнучка, юбілей... Калі ўжо прыйшла, сядай за стол, пакаштуй, ці добрых пірагоў мы напяклі.

— Не, не,— замахала рукамі Алёнка.— Я толькі хацела даведацца пра тваё здароўе. А ты сядзіш за сталом і нават п'еш,— засмяялася Алёнка.— Потым прыйду...

Ці прагаварыўся хто з бабуль, ці хітрая Алёнка выведала пра задумку бабулі Насты, толькі амаль усе ў вёсцы ведалі, што надумала яна рабіць, але не паказвалі выгляду, што ведаюць. Алёнку паслалі ў разведку: ці не пара ўжо заходзіць у хату да бабулі Насты.

Першымі прыйшлі старшыня калгаса з праўленцамі, з бухгалтаркай.

У калгасе ніколі не адзначалі нічыіх юбілеяў. Нават не праводзілі ўрачыста на пенсію. Пенсію проста прызначалі. Узаконены пенсіянер назаўтра ж разам з іншымі ішоў на работу, нібы ён і не пераступіў нейкай мяжы свайго жыцця. Дык навошта ж тыя ўрачыстыя праводзіны... Але сёння старшыні было проста сорамна. Так, ён рабіў вялікія промахі, больш гэтага не будзе...

Старшыня папрасіў прабачэння ў бабулі Насты, павіншаваў яе, а потым усім бабулям па чарзе асцярожненька пацісnуў маршчыністыя рукі, нібы ўсе бабулі былі юбілляркамі.

Тут убегла ў хату Алёнка з ахапкам кветак (відаць, яшчэ ўчора назбірала іх з сяброўкамі), падзяліла яго на пяць букетаў і ўрачыста ўручыла іх усім бабулям. Бабулі ўдзячна заўсміхаліся — ніколі ім не давалі кветак пры людзях, падбадзёрылася нават бабуля Волька. Было яшчэ больш падобна, што ўсе, хто сядзеў за сталом, былі юбілляркі.

Бухгалтарка нават разгубілася. У яе сумцы ляжаў канверт, дзе было восемдзесят рублёў, столькі ж, колькі было гадоў бабулі Насце. Адзначаць яе адну цяпер было неяк няёмка. Бухгалтарка запытальна зірнула на старшыню, той шапнуў ёй на вуха: «Потым аддасі».

Вярнуўся ў сваю хату ўнук з жонкай, прыйшла сястра са сваёй сям'ёй, завіталі суседзі. Кожны гаварыў некалькі слоў, вітаў поціскам рукі ці пацалункам у шчаку. А дырэктар школы сказаў невялікую прамову.

— Дык давайце ж павіншуем,— сказаў ён у заключэнне,— ветэранаў працы, ветэранаў вайны і... ветэранаў жыцця!

Прагучалі дружныя апладысменты.

Бабулі за сталом ледзь не плакалі. Так гэта было для іх нязвыкла, так нечакана.

Стол іх нагадваў прэзідыум, дзе сядзелі заслужаныя людзі вёскі.

Алёнка нічога не гаварыла. Яна глядзела на бабулю і думала: «Дзе гэта буду я адзначаць такі юбілей? Гэта будзе ўжо ў трэцім тысячагоддзі. У космасе? На Паўднёвым полюсе, дзе растопяць ільды і абжывуць зямлю? Ці, можа, тут, дома? А што тады будзе тут?..»

З суседніх хат прынеслі сталы, прыставілі іх з двух бакоў да стала, за якім сядзелі бабулі.

Народу ў хаце ўсё большала і большала.

 Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

Фота Аляксандра ЛАБАДЫ.

Куток гэты на паўднёвым беразе возера Нарач добра вядомы геолагам і археолагам. Бы гіганцкім нажом зрэзаў некалі скандынаўскі ляднік верхні слой глебы, агаліўшы карэнныя пароды. Адсюль і назва мясціны — «Студзінец». Тут захаваліся сляды знаходжання чалавека бронзавага веку.

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

МАЙ

Беларусь



ПОМНІКІ
ПРЫРОДЫ
БЕЛАРУСІ

# НАБАТНЫ




У лаканічнай манеры, не засяроджваючыся на дробязях, аператыўна рэагуе мастацтва плаката на ўсё, што адбываецца сёння ў свеце, што хвалюе людзей. Падзеі, якія на першы погляд могуць здацца неістотнымі, бо адбываюцца недзе далёка і нас канкрэтна не датычаць, дзякуючы плакату набываюць здольнасць паўставаць перад намі ва ўсёй сваёй шматзначнай выразнасці. Па сутнасці, галоўная мэта палітычнага плаката — абуджаць грамадзянскую свядомасць, нагадваць людзям пра тое, што ў сучасным свеце «чужога гора» быць не можа, як не можа быць на планеце, якая з'яўляецца нашым агульным домам, чужых праблем, чужых надзей і спадзяванняў...

Барацьба за мір, супраць гонкі ўзбраення — магістральная тэма сучаснага палітычнага плаката. Ёсць дасягненні на гэтым накірунку і ў беларускіх мастакоў. Звернемся, для прыкладу, да творчасці Уладзіміра Крукоўскага, аднаго з вядучых нашых майстроў плакатнага жанру. Прыгадаем некаторыя ягоныя творы.

Вось плакат «Кожны чацвёрты». У простай і лаканічнай форме апавядае мастак пра веліч трагедыі і подзвігу беларускага народа ў гады мінулай вайны. Адна з аранжава-чырвоных палосак муаравай стужкі на нашых вачах ператвараецца ў помнік — увасабленне доблесці, славы і пякучага болю, што вось ужо колькі дзесяцігоддзяў жыве ў сэрцы кожнага беларуса, кожнага савецкага чалавека.

Рэдкай пластычнай выразнасцю вызначаецца плакат «1941, 1942, 1943, 1944». Суровыя, векапомныя лічбы. Абпалены імі зялёны ліст дакладна паўтарае контуры фізічнай карты Беларускай ССР. Глядзіш і, здаецца, чуеш адрасаваны нам наўздагон набатны покліч ваеннага ліхалецця.

На многіх выставах як у нашай краіне, так і за мяжой столькі разоў адзначаўся, што стаў ужо своеасаблівай плакатнай «класікай» яшчэ адзін твор Уладзіміра Крукоўскага — плакат «Раззбраенне». Кампазіцыйнай знаходкай тут можна лічыць заўважанае ім і па-мастакоўску абагульненае падабенства канцэнтрычных ліній мішэні, па якой звычайна страляюць на палігонах, і эмблемы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Мішэнь, ператвараючыся ў рыззё, нехаця спаўзае з яска-блакітнага сцяга ААН. Гэты твор — яскравае ўвасабленне аптымізму, надзей, веры ў лепшы свет для нашчадкаў...

Пластычная трансфармацыя вывявы, чатыры малюнкі-кадры (па сутнасці, кінематаграфічны прыём) выкарыстаны мастаком пры






# Я ФАРБЫ

стварэнні плаката «Не! Так!». У выніку падрыхтаваныя да выстралу гарматныя ствалы ператвараюцца ў працягнутыя, гатовыя вось-вось судакрануцца рукі...

Тэма барацьбы за мір знітавана ў творчасці мастака з тэмай экалагічнай. Гонка ўзбраення — гэта атручаныя вада, зямля, паветра. Толькі ў мірным свеце магчыма гармонія «першай» і «другой» прыроды — натуральнага асяроддзя і урбанізаванага грамадства. Пра гэта плакаты «SOS», «Беражыце ваду», «Homo sapiens».

Творы Крукоўскага не чакаюць, пакуль да іх прыйдзе падрыхтаваны глядач. Яны прыцягваюць, бяруць да сябе ў палон кожнага, хто не палянуецца падняць на іх вочы, угледзецца. Нельга не пагадзіцца з выказанай аднойчы самім Уладзімірам Якаўлевічам думкай наконт парадокса, які заключаецца ў інтэлектуальнасці і адначасова — агульнадаступнасці такога віду мастацтва, як мастацтва плаката. Тут да месца будзе згадка пра тое, якія высокія патрабаванні прад'яўляе жыццё сучаснаму творцу. Нездарма ж сёння гавораць, характарызуючы прафесійны ўзровень любога майстра: «Ён дастаткова (ці недастаткова) разумны, каб рабіць простыя рэчы». Зрабіць проста (не спрошчана) і зразумела заўжды цяжка. Крукоўскаму гэта ўдаецца.

Віталь БОГУШ.














# ІГРАЙ ЖА, ДУДАЧКА, НА РАДАСЦЬ

Летнім адвячоркам, калі сутонне паціху пачынае агортваць калодзішчанскія сядзібы, а ў неба пракрадаецца маладзенькі месяц, дзед Веця выходзіць на ганак свайго дома. І тады слухаюць суседзі чароўную песню жалейкі ці дудачкі, што спявае гімн пражытаму працоўнаму дню.

А ў нядзелю ці на свята плывуць з двара Пратасевічаў гукі гармоніка, цымбалаў, скрыпкі, бубна, валынкі...

Хто ж гэты адмысловы музыка, якога ўнукі ды і ўсе астатнія сваякі завуць так ласкава — дзядуля Веця? Адкуць ідзе яго майстэрства і ўлюбёнасць у няхітрыя народныя найгрышы? Хто, нарэшце, ладзіць рэдкія на наш час інструменты — гуслі, валынкі, цымбалы, дуды, ражкі? А імі поўна хата дзеда-чараўніка...

...Ёсць такая вёсачка на Капыльшчыне — Роспы. Жыла ў ёй некалі вялікая і дружная сям'я Пратасевічаў. Бедна, гаротна жыла, як і большасць тутэйшых сялян. Але непрыгнечаныя душой, няскораныя сэрцам былі Пратасевічы. Мо таму і прыжыліся ў падслепаватай хаце песні, вясёлыя найгрышы, зухаватыя кадрылі. Чуліся тут і задушэўныя мелодыі, і задзірыстыя пераборы гармоніка, і заліхвацкія частушкі пад акампанемент балалайкі і бубна. Узначальваў сямейны аркестр гаспадар — Іван Пратасевіч, былы капельмайстар царскай арміі. А сыны і дочкі — іх ажно сямёра ў хаце было — дружна дапамагалі яму. Асабліва вылучаліся сыны Хведар, Тодар, Алесь і Сцяпан.

Пасля Кастрычніцкіх падзей семнаццатага года да сямейнага ансамбля далучыліся некаторыя аднавяскоўцы. Выступалі з канцэртамі ў першых сялянскіх клубах, на святы — дажынкі і купалле, а то і проста на вяселлях. Неўзабаве ў ансамблі з'явіўся яшчэ адзін музыка — маленькі Веця, сын Сцяпана. Іграў спачатку на бубне, а пасля асвойтаўся і са скрыпкай — матухна-прырода надзяліла падлетка выдатным слыхам. Веця, як і ўсе Пратасевічы, быў надзіва ўвішным, спраўным хлапчанём. Ці не таму так хутка авалодаў на той час ганаровай і надзвычай патрэбнай у Роспах прафесіяй — каваля. І ўсё было б добра, ды вайна пастукалася...

Роспы апынуліся ў партызанскай зоне. У хаце Пратасевічаў дзейнічала радыёстанцыя брыгады імя Чапаева. Кавальскае майстэрства Веці таксама ой як спатрэбілася партызанам. Хлопец выточваў, паяў, выклёпваў, рамантаваў зброю, амуніцыю, падкоўваў партызанскую конніцу. Не парываў сувязі і з музыкай: цешыў ёю людзей, калі ў тым была патрэба.

А пасля вайны зноў раздзьмуў свой кавальскі мех. Работы ў той гаротны пасляваенны час было, як кажуць, непачаты край. Памятны сорак шосты год і яшчэ адным: змайстраваў тады Веця першую ў сваім жыцці дудачку з жытнёвай саломкі...

З таго часу шмат вады выцекла. Вецю — Вячаславу Сцяпанавічу — на восьмы дзесятак пераваліла. Даўно выйшаў на пенсію каваль з Роспаў. Перабраўся з жонкай Аленай Мікалаеўнай бліжэй да дзяцей — пад Мінск, у Калодзішчы. А вось з любімай справай не развітваецца і па сённяшні дзень. Зайдзіце ў хату былога каваля і самі пераканаецеся. Наогул жа дом старога Пратасевіча нагадвае музей. У пакоях уздоўж сцен шнурочкам выстраіліся дуды з клёну, чароту, саломкі; жалейкі, ражкі. На зробленых самім жа майстрам стэлажах — гуслі, ліры, цымбалы, скрыпкі, віяланчэлі. А вось і самы дарагі экспанат для ўладальніка ўсёй гэтай калекцыі — маленькая самаробная скрыпачка, якую вырабіў некалі васьмігадовы Веця. Замест струн — ільняныя ніткачкі. І смычковыя жылкі з таго ж матэрыялу. Уласна, і астатнія інструменты — самаробныя. За выключэннем адной скрыпкі. Яе гісторыя не зусім звычайная. У далёкім 20-м родны Вецеў дзядзька Хведар, прадаўшы апошнюю сваю карову, выпісаў яе з Лейпцыга і падарыў любімаму пляменніку.

Ну а дудачкі і жалейкі старога майстра дзе толькі не ігралі. Слухалі іх чароўныя спевы ў Токіо і ў Лондане, у Рыме і ў Афінах, куды завезлі нашы задушэўныя мелодыі беларускія артысты.

Шмат, вельмі шмат сваіх інструментаў падарыў Вячаслаў Сцяпанавіч, зараз ужо старэйшы з роду Пратасевічаў, розным людзям: аматарам музыкі, прафесійным выканаўцам, музычным школам, калекцыянерам...

— Каб слухаць музыку, а тым болей іграць на інструменце, трэба мець душу,— любіць паўтараць сваім унукам гэты надзіва шчодры чалавек.— А каб душа была нястомнай, трэба, каб яна жыла ў суладдзі з матухнай-прыродай, з самім жыццём. А галоўнае — не давайце спакою душы сваёй...

Вячаслаў Сцяпанавіч, як і ўсё сваё працоўнае жыццё, па-ранейшаму за варштатам: чаруе над будучымі скрыпкамі, гуслямі, дудачкамі. Так было, ёсць і так будзе.



Георгій ЧЫГІР.
Фота аўтара.



# БАГАЦЦЕ, ДЗЕ ДНА НЯМА

Гладкая і чыстая, вымытая дажджом асфальтаваная стужка разгортвала нам прастору далей. Прыкладна за 30 кіламетраў на паўднёвы захад ад Жыткавіч ляжаў старажытны беларускі горад Тураў, былы цэнтр магутнага калісьці Тураўскага княства, якое, па сучасным адміністрацыйным дзяленні, займала тэрыторыю значна большую за Брэсцкую або Гомельскую вобласці; яму падпарадкоўваліся гарады Бярэсце, Пінск, Чартарыйск, Рагачоў, Слуцк, Клецк, Капыль... Цяпер Тураў уваходзіць у склад Жыткавіцкага раёна.

Згодна паданню, жыхары гэтага кутка Беларусі спакон веку вельмі шанавалі сваю зямлю-матухну і вышэй за ўсё ставілі працу на ёй. Ад зямлі ішлі ўся сіла духу, трываласць і моц княства.

Як даводзіць легенда, Тураўскі князь Яраслаў быў багаты і мудры. Час ад часу ён наладжваў паляванне на тура. Загоншчыкам у яго звычайна быў Ранцэвіч, спрытны і дужы ратар, блізкі да князя. Аднойчы князь спытаўся ў Ранцэвіча, чым яго за старанне ўзнагародзіць.

— Дай ты мне, княжа, такі дар, каб я ў ім дна знайсці не мог.

Той задумаўся і кажа:

— Каб я сабраў усё сваё багацце, то і тады дно яму знойдзецца.

— Не, князь, пойдзем, я пакажу табе бяздоннае багацце.

Яны выйшлі на двор. Узяў Ранцэвіч лавецкі меч і амаль увесь усунуў у зямлю.

— Вось тваё, княжа, багацце, у якім дна няма: яно ратару больш вартае, чым тыя чырвонцы.

Засмяяўся князь...

— Дам табе зямлі на дзесятае пакаленне.

Цяпер гэтыя землі ляжалі налева і направа... Нізіна. Чорныя, тлустыя, пакуль не занятыя расліннасцю палі і вільготныя пасля дажджу нівы, зялёныя, дружныя. Хвалюючыя сваёй чысцінёй, першароднасцю... Гэтак нова і ярка зямля ўспрымалася.

У палешукоў (а магчыма і шырэй — у сялян нашага краю) здаўна быў культ зямлі. «Маці зямля ўсё прымае, а найбольш усялякае нечысці, ды яшчэ і дзякуе за ета, а калі хочаш ведаць, як яна дзякуе, то навязі гною да й пасей жыта, дык і будзеш знаць».

Зямля лічылася свяшчэннаю, зневажэнне яе ўспрымалася як вялікі грэх. Яшчэ ў мінулым стагоддзі, ад'язджаючы ў чужы край, беларус браў з сабой жменьку роднай зямлі. Яна грэла, яна была часткаю ягонай душы. І таму не выпадкова для нашага селяніна самай страшнай клятвай, па сведчанню этнографаў, была клятва, якую ён даваў з зямлёю ў руцэ або ў роце...

Тураў ляжаў за Прыпяццю, на другім беразе, але моста туды не было. Мост якраз будаваўся, і мы былі сведкамі такой важнай падзеі ў жыцці тураўцаў. Перасеклі раку на пароме. Зноў палі, і неўпрыкмет яны пераходзілі ў сядзібы гараджан. Спакойныя зялёныя вуліцы, дзе пераважалі драўляныя дамы. З помнікаў старажытнасці, акрамя гарадзішча, умацаванага калісьці равамі і валамі, нічога не засталося. Зрэшты, археалагічныя раскопкі, праведзеныя ў розныя часы ў Тураве, далі надзвычай багаты матэрыял для даследчыкаў гісторыі і культуры гэтага найважнейшага культурна-рэлігійнага цэнтра Старажытнай Русі. Многае захоўваецца ў Тураўскім краязнаўчым музеі. У ліку экспанатаў, напрыклад, стаяў шкляны посуд, ляжалі касцяныя вырабы, бранзалеты, свінцовыя абразкі, шахматныя фігуры, пахавальныя саркафаг і многае іншае. Аднак адсюль нас цягнула далей, у сучаснасць.

Цікава, у якім пакаленні ад Ранцэвіча, княжацкага загоншчыка і ратара, гэта значыць — ратая, Міхаіл Аляксандравіч Якубоўскі, старшыня калгаса імя Жданава, і калгаснікі жданаўцы,— мо ці ў трыццатым... У мяне складвалася ўражанне, што яны не спяшаюцца мяняць сваё ўяўленне пра вартасць зямлі. Гаспадарка — моцная, з добра развітымі раслінаводствам і жывёлагадоўляй. Апроч ферм, дзе вырошчваюць гавяду на мяса і малако, тут дзейнічае свінакомплекс на 10 тысяч галоў, з якім найчасцей і звязаны клопаты старшыні пра камбікорм.

Цэнтр калгаса імя Жданава — вёска Верасніца. Яна ўсяго за сем кіламетраў ад Турава. Мы не заўважылі ні адной хаты, каб яна была недагледжанай або, тым больш, пустой, пакінутай. Абслугоўваюць вёску тры магазіны, сярэдняя школа, фельчарска-акушэрскі і ветэрынарны пункты, не гаворачы ўжо пра культурна-асветныя ўстановы — Дом культуры, бібліятэку, музычную школу... Пра гісторыю і іх паходжанне дзецям нагадвалі сама зямля, бацькі, настаўнікі і абеліскі, а найперш — святое помнікавае слова — Тураў!

Міхаіл Аляксандравіч — кемны, паважны, сялянскай закваскі чалавек, з сівізной на скронях і характэрнай хрыплаватасцю ў голасе, набытай можа яшчэ ў вайну. Дарэчы, ён быў камандзірам партызанскага атрада, прывык да вайсковае формы. І цяпер насіў гімнасцёрку, праўда, сучаснага, афіцэрскага крою, напэўна, ужо з пляча сына ці ўнука. Расказваў пра тое і пра гэта. Гаварыў пра набыткі, але за кожным з набыткаў, бадай, ляжала праблема. На старшынскай пасадзе ён ветэран. А калгас імя Жданава стаў прыбытковым і пачаў развівацца роўна, упэўнена яшчэ з 1955 года, памог таму лён. Дарэчы, з ільну ў тыя ж гады пачынаў сваё ўзыходжанне і калгас «Аснежыцкі» на Піншчыне... А ў калгасе імя Жданава лён і цяпер сеюць і збіраюць добры ўраджай.

— Каб спрыяць росту культурнага ўзроўню сяла,— прадаўжаў Якубоўскі,— мы адкрылі музычную школу. У ёй чатыры чалавекі

(з ліку выкладчыкаў) атрымліваюць даплату з калгаса ад сарака да 80 рублёў. Адзін мастак на калгасным забеспячэнні... Інспектары фінаддзела і іншыя рэвізоры, правяраючы нашу бухгалтэрыю, чапляліся, праўда, за мастацкую інтэлігенцыю, уведзеную ў штат калгаса, маўляў, незаконна грошы транжырым, тое ды сёе... Толькі сакратар райкома сказаў мне: «Трымайцеся!»

Гаворка выяўляла ў Якубоўскім кіраўніка з сучасным мысленнем, і ўжо лагічным здавалася тое, што ў гэтым калгасе дастаткова моладзі. А моладзь сёння — гэта лакмусавая паперчына, якой выяўляецца стабільнасць жыцця ў гаспадарцы. Дзе ўмеюць развіваць талент і як?

— З дзяцінства... От прыклад з заатэхнікам Паўлам Клімовічам. Працаваў хлопец на конях, падлеткам пачаў працаваць... Скончыў школу — паставілі яго загадчыкам фермы. Не памыліліся. Працалюбівы і кемны... Адслужыў армію, вярнуўся, і мы паслалі яго вучыцца ў зааветінстытут,— расказвае старшыня.

Працягвала развівацца і будаўніцтва. Найважным клопатам цяпер было будаўніцтва жылля, і тут — што калгас рабіў, а што самі калгаснікі, беручы ў гаспадарчай касе крэдыт. Больш як 170 сядзібных дамоў пабудавалі за апошнія гады... Крэдыт склаў 280 тысяч рублёў. І зноў жа за гэтую паслугу людзям чапляюцца фінінспектары...

— Чаму? А мы ведаем: калі людзі будуюцца, гэта ў інтарэсах калгаса.

І зноў жа такое дружнае будаўніцтва сядзіб і асобных дамоў сведчыла пра паўнату і стабільнасць жыцця. Калі хочаце, жданаўцы падмацуюць гэтую думку не толькі справамі, але і песнямі, жартамі, заліхвацкімі скокамі...

Калісьці на сяле ўвесь народ спяваў. Цяпер спяваюць фалькяорна - этнаграфічныя ансамблі. У калгасе імя Жданава сяляне яшчэ не развучыліся спяваць, але на ўсякі выпадак ужо стварылі дзве фальклорныя групы, з іх адна — у Верасніцы, а другая — у Любовічах. Акрамя таго, ёсць і трэці самадзейны калектыў — народны, танцавальны — «Верасок». Работай Любовіцкага сельскага Дома культуры кіруе, між іншым, дзяўчына-цыганка Людміла Андрэеўна Кузьменка, настойлівая, вясёлая і любімая ўсімі.

Пра папулярнасць самадзейных калектываў сярод калгаснікаў гаворыць яскрава той факт, што на іх канцэрты збіраецца больш народу, чым на канцэрты прафесійных артыстаў. Паказальна нераўнадушша, неспакой саміх удзельнікаў самадзейнасці, асабліва калі яны рыхтуюцца да конкурсных аглядаў. Міхаіл Аляксандравіч расказаў нам пра выпадак, калі перад святам 8 Сакавіка адна верасніцкая даярка, а была гэта Галіна Блоцкая, звярнулася са скаргай ажно да сакратара райкома партыі... Яна скардзілася на тое, што на перадсвяточны канцэрт з іх фальклорнай групы ўзялі толькі два нумары, а з любовіцкай — пяць!.. Дзе, у якім раёне нашага галасістага краю сакратарам райкома даводзілася яшчэ разбіраць падобныя скаргі?!

Самадзейная творчасць захапіла многіх калгаснікаў, і цяпер яны не цураюцца песні. Вось красамоўнае прызнанне даяркі, актывісткі калгаса Галіны Бялько:

— Іду гэта я, а песня прычапілася да мяне, іду і не заўважаю, што пяю.

Нашы светлыя ўражанні ад Тураўшчыны абагаціліся яшчэ больш у самім Тураве, дзе адчувалася повязь людзей з часам сённяшнім і мінулым...

У Тураве было вялікае свята: адзначалі дваццацігоддзе папулярнага і вядомага ажно ў Маскве тураўскага народнага ансамбля танца «Прыпяць» — своеасаблівай жамчужыны Палесся. З гэтае нагоды на беразе Прыпяці, ля пераправы, быў наладжаны канцэрт, у якім прынялі ўдзел 600 чалавек. Гледачоў ды слухачоў было — не злічыць. Паром паслужыў выдатнай сцэнічнай пляцоўкай.

— У нас рознагалосая і розная па ўзросту група самадзейных артыстаў,— тлумачыў нам мастацкі кіраўнік усяго гэтага відовішча, ён жа харэограф, Мікалай Кананавіч Котаў — энтузіяст сваёй справы.— Прымаем у самадзейнасць, пачынаючы з дзіцячага сада.

Сярэдняга росту, з правільнымі рысамі твару, жвавы, кемны, без пахвальбы, але з паляшуцкай годнасцю ў паставе, Мікалай Кананавіч меў справу з душой чалавека, яго здольнасцямі, працаваў, фарміруючы мастацкія калектывы, мог па праву лічыцца дойлідам або прарабам высокамастацкай самадзейнай творчасці, прарабам духу, як цяпер гавораць.

Пры адпаведнай увазе да развіцця культуры і самадзейнай творчасці ў калгасе імя Жданава Мікалай Кананавіч Котаў стварыў у Верасніцы танцавальны калектыў «Верасок», які таксама быў узнагароджаны ганаровым званнем і стаў спадарожнікам ансамбля «Прыпяць». Дабрадзейны ўплыў, непасрэдная кваліфікаваная дапамога Котава і яго паплечнікаў па ансамблю, такіх, як канцэртмайстар Міхаіл Аляксандравіч Новікаў, баяніст Іван Архіпавіч Шруб, зрабілі магчымым выявіцца багата якім талентам на Тураўшчыне. Ствараюцца новыя народныя калектывы, а ансамбль «Прыпяць» ад гэтага ніколі не мялее, не блякне, бо падае прыклад таго, як карыстацца адвечным, народным.

Мы гаманілі з Котавым. Удзел у нашай гаворцы прымаў тагачасны старшыня Тураўскага пасялковага Савета Мікалай Мікалаевіч Арцюшка, рослы і дужы мужчына, гарачы прыхільнік і апякун самадзейнай народнай творчасці.

Але ж у гутарцы ў хуткім часе загучалі і трывожныя ноты: гэта Арцюшка закрануў праблемы Турава. Аказваецца, што ў Тураве няма ніводнага прамысловага прадпрыемства і па гэтай адмысловай прычыне тут вельмі цяжка знайсці чалавеку пэўны працоўны занятак. А жыхары Турава, у тым ліку моладзь, па словах Арцюшкі і Котава, вельмі шануюць свой куток, даражаць ім і, пры малейшай магчымасці ўладкавацца на працу, застаюцца на месцы. Факт неардынарны; падобны мясцовы патрыятызм я назіраў яшчэ ў Моталі, і, прызнаюся, ён кранаў мяне і цешыў.

Тураў належыць цяпер да ліку другарадных гарадкоў. Аднак яго значэнне ў ранняй і сярэднестаражытнай гісторыі ўсходнеславянскіх народаў і гісторыі зямлі рускай было вельмі важным. Шкада, што пра гэта цяпер у Тураве нішто не гаворыць, апроч краязнаўчага музея са шматлікімі яго экспанатамі. Няма помнікаў, калі не лічыць амаль зруйнаванае гарадзішча ды саму назву Тураў — назву, якую нікому пакуль не прыйшло ў галаву памяняць. Ад вялікага храма даўно след прастыў. Былое парасло травой... Сёння нам, можа, яно і не патрэбна?.. Прынамсі, хто-ніхто думае так: аджыло, адышло і з памяці вон! У сучаснага ладу свае клопаты...

Але ж нам трэба ведаць жыццё свайго народа. А то за мяжою ў нас ёсць «дабрадзеі», якія пачынаюць расказваць, што ў старажытнасці, маўляў, славяне жылі па лясах і балотах дзікімі плямёнамі, проста па-звярынаму, і ніякай культуры не ведалі, ніякіх цывілізаваных зносін. Гэтым дзікунам памаглі госці з паўночнага краю — варагі, якія, пачынаючы з IX стагоддзя, наваднялі нашы землі, будавалі тут гарады, фарміравалі культуру, княжылі... Мараль іх: рускі народ быў няздольны да самастойнай культурнай і гістарычнай творчасці, да самавызначэння і ўтварэння сваёй дзяржавы, ён, маўляў, пайшоў ад нарманаў... От табе маеш!.. А скуль пайшло Тураўскае княства з яго высокай па тым часе культурай і шырокімі гандлёвымі сувязямі?

У Тураве жыў і працаваў славуты дзеяч старажытнарускай літаратуры Кірыла Тураўскі (1130—1182), творы якога вызначаліся паэтычнай узнёсласцю, значнасцю і веліччю вобразаў, мілагучнасцю і сімволікай. «Златоуст, паче всех воссиявший нам на Руси»,— так пра яго гаварылі ў рускіх землях.

Не лішне зазначыць, што, паводле сучаснага тэрытарыяльнага падзелу, Кірылу Тураўскага можна лічыць першым беларускім пісьменнікам, і гэтая акалічнасць разам з гонарам накладвае на нас таксама пэўны абавязак перад памяццю аб ім, віцязю высокага духу народа.

Ва ўсякім выпадку зусім не выпадкова, думаецца, старшыня пасялковага Савета народных дэпутатаў Мікалай Мікалаевіч Арцюшка паказаў нам макет помніка Тураўскаму, выкананы адным з мясцовых скульптараў, гарачым прыхільнікам славутага продка. У скульптурнай кампазіцыі цяжкі крыж Кірыла ўскладае на спіну тура, і гэтая дэталь патрабуе пэўнага лагічнага асэнсавання. Ва ўсім іншым помнік зграбны, варты разгляду і ўхвалення. Магчыма, ён цалкам адпавядае вобразу або, дакладней, ідэі жыцця і творчасці асветніка. Але, каб паставіць яго, Тураўскі Савет пакуль што не знайшоў узаемаразумення і падтрымкі ва ўстановах культуры і гаспадарчых органах. Патрэбны сродкі, але большай праблемай на сённяшні дзень, канечне, з'яўляецца не сродкі, а дэфіцыт увагі да помнікаў старажытнасці, наогул да такіх гарадоў, як Тураў. Што ж тычыцца задумы тураўцаў паставіць помнік свайму вялікаму земляку Кірылу Тураўскаму, то яна, на мой погляд, павінна сустрэць безагаворачную падтрымку творчай інтэлігенцыі рэспублікі, пісьменнікаў, непасрэдна Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Тураў — такі куток, дзе не грэх было б разгарнуць вытворчасць самабытных народных высокамастацкіх вырабаў, хоць бы па прыкладу Івянца, дый, пры спецыялізацыі гаспадарак па льну, наладзіць на месцы яго перапрацоўку... Ці мала што можна зрабіць? Слова за планавымі органамі. Папраўдзе, Тураў са сваім наваколлем заслугоўвае ашчаднасці як запаветная мясціна, ашчаднасці і да прыроды, і да шматвяковых народных традыцый, культуры... Магчыма, нехта возьме на сябе клопат — скласці праект далейшага развіцця Турава з улікам яго гістарычнага арэолу і сучаснага працоўнага занятку.

Памяць наша таго вымагае.

**Васіль ЯКАВЕНКА.**

**Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА.**






# У ПАТРАБАВАЛЬНАСЦІ — НАДЗЕЙНАСЦЬ ЖЫЦЦЯ

**АРТЫКУЛ ДРУГІ**

Нідзе, бадай, так не адчуваліся адначасова сіла і слабасць нашай «вясковай» прозы, як у вырашэнні складанейшай праблемы сучасных узаемаадносін горада і вёскі, якую, безумоўна, варта аднесці да адной з найвастрэйшых праблем сучаснасці. Былі на тое прычыны, што наша літаратура першай на поўны голас яшчэ з канца 50-х гадоў загаварыла пра незвычайную складанасць працэсаў, і перш за ўсё ў душы і псіхіцы чалавека, якія выклікала масавая міграцыя вясковых жыхароў у гарады. Падобныя тэмпы урбанізацыі, якія перажывае Беларусь у пасляваенныя часы, зведалі, бадай, нямногія куткі планеты.

Сучасны ж гараджанін, які, на вялікую першапачатковую радасць сацыёлагаў, з канца 60-х гадоў атрымаў колькасную перавагу над вясковым жыхаром, гэта ва ўмовах Беларусі пераважна былы селянін, у якім не так проста, не адразу ўжываюцца абодва гэтыя светы, а ў гараджан у першым пакаленні, як вядома, так і не знаходзяць свайго канчатковага «прымірэння». Гэта, можна сказаць, скразная тэма ўсяго сярэдняга пісьменніцкага пакалення, творчы багаж якога можна зразумець толькі праз прызму вясковага, поўнага пасляваенных нястач, дзяцінства і няпростага ўрастання ў гарадское жыццё пры выхадзе «ў людзі», набыцця чалавечага і творчага месца ў ім. Такі «маргінальны», з гарадскім і вясковым пачаткамі, чалавек у псіхалагічна ўскладнёнай прозе М. Стральцова, якая яшчэ чакае свайго засяроджанага даследавання, так многа ў ёй тонкіх думак і назіранняў пра душэўнае ўладкаванне гэтай у чымсьці, можа, і спрадвечнай спрэчкі жыцця. Праблема гэта, на думку пісьменніка, перш за ўсё ў адчуванні сваёй біяграфічнай, духоўнай і, калі хочаце, гістарычнай радаслоўнай, не забываць пра якую так важна сучаснаму чалавеку, адлучанаму ходам цывілізацыі ад многіх першародных, наіўных радасцей, замены якім, на жаль ці на шчасце, няма.

І вось, бадай, нідзе ў такой ступені не патрабуецца пераадолення прыземленасці бачання і выпрацоўкі новага філасофскага погляду, як у гэтай прабламе, што нечакана павярнулася такімі ўскладненнямі ў сучасным свеце — а іменна праблеме сучасных узаемаадносін горада і вёскі, прапарцыянальнага ўраўнавання рабочай сілы, прыпынення аднабаковага адтоку яе з сельскіх раёнаў, што прыводзіць нярэдка да рэальнай перспектывы абязлюдзення многіх вёсак, звядзення іх да ўзроўню неперспектыўных у бюджэце планавых органаў. І ўжо зусім відавочна, што грамадству не па сіле будзе вырашаць гэту праблему нават высокаспрыяльным фінансаваннем сельскагаспадарчай вытворчасці і іншымі эканамічнымі, а таксама культурнымі захадамі, пакуль не будзе здзейснены маральны пералом у поглядзе на вясковае жыццё, якому ў значнай меры магла б садзейнічаць (у пэўным сэнсе нават падрыхтаваць) мастацкая літаратура.

Заслугай беларускай вясковай прозы варта палічыць тое, што яна ўсе гэтыя цяжкія для вёскі пасляваенныя дзесяцігоддзі ў сваім галоўным пафасе, магчыма, не заўсёды ўсвядомлена, жыла адчуваннем асаблівай важнасці, жыццёвай паўнаты і радасці земляробчай працы, якой бы часам несалодкай і нізкааплатнай, асабліва ў бядотныя гады, яна ні была.

Праца на зямлі, якая ўтрымлівала ўсё грамадства на ўсёй яго іерархіі, як ужо згадвалася, здаўна ўсведамлялася ў народным светаразуменні як асноўны занятак, галоўная мерка жыцця. У прафесіях сэрвісных, як зараз прынята называць, чалавек можа пражыць жыццё ў дастатку і дабрабыце. Але гэты чалавек, лічыце, так і не зведае сапраўднага жыцця, не пройдзе праз яго мускулы працоўны азарт, агонь яго, а ў залежнасці ад цяжкасці — радасць і паўната яго.

Думаючы пра гэту загадку жыцця, міжволі згадваеш машыніста Грыгор'ева і прыстаўленага да яго ў навучанне качагарам студэнта-практыканта з апавядання М. Р. Гарына-Міхайлоўскага «На практыцы». Гэта адзін з самых выдатных твораў пра сілу працы ў сусветнай літаратуры. Работа качагара пякельна цяжкая, патрабуе такой выключнай цягавітасці і спрыту, што першыя дні студэнту ледзь хапае сіл пратрымацца да канца змены, каб назаўтра зноў працаваць і выстаяць у гэтым пекле. Якім героем яму здаецца цяпер машыніст Грыгор'еў, чалавек цяжкага лёсу, які ён спрытны, кемлівы. Праз яго, праз гэту знясільваючую працу, практыкант і палюбіў жыццё па-сапраўднаму. І Маруся, дачка-падлетак, што прыносіла бацьку абед, на ўсё жыццё пакінула ў душы студэнта непазбыўнае ўражанне. І ад'язджаючы з практыкі, ён вёз з сабою ў будучае жыццё, можа быць, самае каштоўнае, што ні дагэтуль, ні пасля не давялося яму ўжо больш зведаць. «Я спазнаў,— гаворыць ён,— што такое праца, і я вёз маштаб гэтай працы — мерку на ўсё наступнае жыццё». І калі праз шмат гадоў да яго, тады ўжо начальніка чыгуначнай лініі, аднойчы з'явіўся звольнены з работы Грыгор'еў, якой радасцю для яго было ўладкаваць да сябе на працу свайго былога «настаўніка», разам з дачкой, чарнавокай Марусяй, што мела ўжо сваю сям'ю.

Шмат таямніц у чалавечым жыцці, але найбольшая з іх — праца! Чым далей жывеш, тым болей пераконваешся ў шматзначнасці яе ўздзеяння на асобу чалавека. Праца не толькі наш карміцель, але і наш галоўны ацаляльнік, ахоўнік. Што залечвае нашы фізічныя і духоўныя раны, як не праца і час, дакладней, час, заняты працай. Працаю чалавек засцеражоны ад многіх спакус, з якімі яму не па сіле саўладаць. І нішто так разбуральна не дзейнічае на чалавечую асобу, як марнатраўства часу, і мы не заўсёды належным чынам адчуваем гэту небяспеку. Толькі ў працы чалавек па сапраўднаму і цікавы, і магутны, з яе пачынаецца наша самасцвярджэнне і самапавага, як і павага з боку іншых. Праца, нарэшце, вялікая крыніца радасці, якая нам не здраджвае да самага скону. Асалоду ад працы натхнёна ўслаўлялі паэты, пра яе мудра гаварылі многія мысліцелі. Бо радасць працы, радасць утомы пасля добра выкананай справы, абавязку ці можна з чым параўнаць!

Выхаванне з дзяцінства гатоўнасці да працы, гаспадарлівых адносін да ўсякай справы ў маладым пакаленні лічылася галоўным паказчыкам прыдатнасці яго да жыцця, ставілася народным светаадчуваннем як асноўны жыццёвы прынцып. А цяжкасць і жыццёвая суровасць выхоўвалі, як нішто іншае, гэту прыдатнасць. У беларускім фальклоры не выпадкова самы вялікі маладзец — удовін сын, які ўсё можа, і самая вялікая майстрыха — сірата-дзяўчына, якую не песціла жыццё.

Гэты матыў галоўны і ў нашым лепшым нацыянальным эпасе пра сялянства — «Палескай хронікі» Івана Мележа. Васіль Дзятлік, якога смерць бацькі прымусіла яшчэ падлеткам узяць у рукі сялянскую гаспадарку, на сваёй першай самастойнай касьбе падае ад знямогі, але да прызначанага часу не дазваляе сабе перадыху. Яму не ўпершыню — пераадольваць стому, адганяць спакусу пагуляць, паленавацца. З маленства прывучаны ён быў да таго, што жыццё — не вясёлае, бясклапотнае свята, а доўгія, руплівыя будні. З усіх мудрасцей жыцця спасціг ён адну — трэба трымацца, не даваць сабе палёгкі.

Віктар Казько ў рамане «Неруш» добра паказаў, што Мацвей Роўда, карэнны паляшук, які многае ўзяў ад зямлі бацькоў, аблашчаны ва ўсім спрыяльным і шмат у чым палегчаным сучасным жыццём, аднак, ужо не так моцны цярпеннем, а значыць, і той двухжыльнасцю, якія выхоўвала ў пакаленнях цяжкае сялянскае існаванне.

Зварот да народных першавытокаў, да першааснаў жыцця, якія вызначаюць, як мы ўсё больш пачынаем усведамляць, характар быцця ў цэлым, дазваляе глыбей асэнсаваць і праблематыку ваеннай прозы, што займае такое адказнае становішча ў сучасным літаратурным працэсе.

Гістарычны феномен Расіі, якая выстаяла ў кровапралітным супрацьборстве і выратавала свет ад нашэсцяў Чынгісхана і Напалеона, нарэшце, уратавала планету ад бяды ў асабліва згубнай і небяспечнай для лёсу свету другой сусветнай вайне! Тлумачэнне яго іменна ў той жыццёвай упартасці, што выхоўвалася цяжкім, непатрабавальным да жыццёвых выгод ладам сялянскага жыцця і лічылася важнейшым жыццёвым капіталам кожнага новага пакалення. Нарэшце, у тым, што гэта мужнае жыццеўспрыманне здаўна

было ўзведзена народнымі масамі ў норму жыццёвага падзвіжніцтва, да якога вымушалі славян выключнасць геаграфічнага становішча і гранічная суровасць іх гістарычнага лёсу!

Асабліва цяжкай для разгадкі была б беларуская «ваенная» літаратура, як літаратура пераважна пра партызанскае супраціўленне, без уліку гэтага жыццёвага падзвіжніцтва нашых народаў. Не сакрэт, што лютая па сваіх метадах, самая згубная з войнаў, развязаная фашызмам у цэнтры цывілізаванага свету, аказалася не па сілах заходнім арміям, падрыхтаваным, па аўтарытэтных ацэнках спецыялістаў, зусім не горш, чым германская. Як пераканальна паказаў у выдатным даследаванні «Сувязь часоў» Ф. Несцераў, усёзнішчальнаму, бясчалавечнаму націску сусветных нашэсцяў, што абрынуліся на народы Еўропы на працягу гэтага тысячагоддзя, супрацьстаяць змаглі народы асаблівай гістарычнай загартаванасці і жыццёвай устойлівасці. Славенскі пісьменнік Ц. Космач радкамі свайго рамана «Вясновы дзень» (1953), думаецца, вельмі пераканаўча сказаў пра гэтую сілу, што дапамагла яго народу ўстаяць (і знайсці ў сабе моцы для змагання!) у другой сусветнай вайне: «Вось наша скрыжаль. У ёй напісана, як адзін з самых малых народаў выканаў свой вялікі абавязак: узняўся, калі яго кінулі вобзем і тапталі нагамі, і пайшоў у бой. Ён змагаўся за чалавека і таму перамог. Падзякі ён не патрабуе і славы таксама, як не патрабуе іх той, хто выканаў свой абавязак. Свабодай і справядлівасцю яго таксама надзяляць не трэба, бо ён ужо здабыў іх сабе ў баі» (Космач Ц. Избранное. М., 1976, с. 344).

У гэтай сувязі, думаю, варта звярнуць увагу на філасофскую спеласць беларускай ваеннай прозы, якая з самага пачатку імкнулася звязваць вытокі масавага партызанскага супраціўлення з жыццёвым падзвіжніцтвам нашага народа. Першаадкрывальнікам глыбокіх жыццёвых вытокаў народнага гераізму, якія выявіліся на поўную моц ва ўмовах сацыяльных пераўтварэнняў у нашай краіне, быў пісьменнік рэдкага філасофскага бачання рэчаіснасці Кузьма Чорны, які, здавалася б, насуперак вядомым правілам, што патрабуюць абавязковай часавай аддаленасці ад падзей для іх мастацкага ўвасаблення, у самы разгар вайны стварае свае вядомыя раманы «Пошукі будучыні», «Млечны шлях», «Вялікі дзень». Дачасная смерць на зыходзе вайны перарвала работу празаіка над яшчэ адным «ваенным» творам — аповесцю «Скіп'ёўскі лес».

Пазней, у 60—70-я гады, калі з дасягненнем творчай спеласці пісьменнікамі ваеннага пакалення беларуская проза змагла сказаць найбольш пранікнёнае і праўдзівае слова пра падзеі мінулай вайны, традыцыі Чорнага былі тут найбольш плённымі. Адзін з апошніх, у пэўным сэнсе этапны для В. Быкава твор «Знак бяды», які ўразіў чытача пафасам народнага супраціўлення заваёўнікам, з'яўляецца працягам заглыбленых пошукаў нашай нацыянальнай прозы. Беларуская крытыка адразу ж адчула неразрыўную повязь часоў, асабліва глыбокую жыццёвую народную падаснову і сімволіку твора. «Галоўныя героі аповесці,— пісаў В. Каваленка пра «Знак бяды»,— выглядаюць ахвярамі вайны толькі знешне, у сапраўднасці ж яны — салдаты».

Творы аб партызанскім супраціўленні па сваіх мастацкіх мадэлях, як выявілася, шмат у чым эксперыментальныя, у чымсьці нават нечаканыя па характару свайго паглыбленага псіхалагічнага аналізу. Зрэшты, інакш і не магло быць, бо на партызанскую вайну склікае людзей ужо не воінская павіннасць, а цалкам свабода выбару, і склікае ўсё насельніцтва — старых, жанчын, дзяцей, для якіх найбольш нязвычная і ненавісная вайна з усімі магчымымі сродкамі яе вядзення. Гэта сутнасная навізна твораў К. Чорнага, Я. Брыля, А. Адамовіча, партызанскіх аповесцей В. Быкава па маладой неспакушанасці нашай літаратурнай традыцыі спачатку здавалася незвычайнай, тлумачылася цалкам своеасаблівасцю індывідуальных манер гэтых мастакоў.

Усвядоміць сапраўдную цану пошуку нашых пісьменнікаў зноў жа дапамог сусветны літаратурны кантэкст, зварот даследчыкаў да тыпалагічна блізкага вопыту ваеннай прозы паўднёвых славян, дзе партызанскі рух выявіўся ў асабліва экзістэнцыяльна аголеных формах. І няма патрэбы гаварыць, што без усведамлення партызанскай вайны ва ўсёй яе шматпакутнасці не атрымалі б сапраўднага адлюстравання невыносны цяжар, трагізм і толькі ў залежнасці ад гэтага веліч нашай перамогі.

Асобную гаворку трэба, відаць, весці пра распаўсюджаныя ў сучаснай ваеннай прозе «бяскатарсісныя» сюжэтныя мадэлі. Бясспрэчна, з іх дапамогай дасягаецца эфект суцэльнай агіды да ваеннай рэчаіснасці, аднак, на жаль, часта выпадае з-пад кантролю іх разбуральнае ўздзеянне на чытацкую свядомасць.

Калі ў асвятленні вясковай і ваеннай праблематыкі «ўдзел» сусветнага літаратурнага кантэксту, што ўсё болей і болей абвяшчае пра сябе сённяшнімі шырока наладжаны ўзаемаперакладамі, трэба прызнаць, надзвычай спрыяльны па ўздзеянні на нацыянальны літаратурны працэс, то ўплыў перакладу на дзіцячую і юнацкую літаратуру той ці іншай нацыянальнасці, на жаль, даволі дзіцца ацэньваць вельмі неадназначна.

Бадай, нідзе пераклад не зрабіў такога ўплыву і не перавярнуў унутраныя парадкі, як у дзіцячай літаратуры пераважнай большасці нацыянальных «школ» прыгожага пісьменства. Так ці інакш, уся без выключэння прыгодніцкая літаратура, пачынаючы ад Жуля Верна і Фенімора Купера і заключаючы асабліва папулярнымі яе формамі — навуковай фантастыкай, даўно ўжо перакладзены на нацыянальныя мовы, працягваючы тыражавацца ў шматлікіх перавыданнях. Гэта было б яшчэ паўбяды, што наша нацыянальная дзіцячая літаратура ўжо даўно не можа спрачацца з іншанацыянальнай, якая наступае ў яе арсенал праз пераклад. У поле зроку перакладчыка, як правіла, трапляюць найбольш займальныя творы так званай сусветнай дзіцячай класікі. Перакладчыцкі выбар цалкам аказаўся падпарадкаваны распаўсюджанаму погляду на быццам бы асаблівы прыгодніцкі характар літаратуры, разлічанай на юнацкае светаўспрыманне. На дзіцячую літаратуру амаль механічна было перанесена патрабаванне, якое вялікія педагогі дастасоўвалі толькі да вучэбнага працэсу. Маючы на ўвазе выключную цяжкасць працэсу навучання, элемент займальнасці можа вельмі паспрыяць яму. У адносінах жа да мастацкага слова, што дзякуючы яго вобразнай сутнасці займальнае па сваёй прыродзе, аналагічнае патрабаванне зусім не бясспрэчнае. Дамагаючыся займальнасці, мы тым самым неўсвядомлена пакідаем на долю літаратуры толькі прыгоды жыцця. Зрэшты такое чытанне здольна пераўтварыць жыццё маладога чалавека ў суцэльнае свята прыгодніцких, цудоўных падманаў. Культам прыгодніцтва, пры ігнараванні другіх важнейшых патрабаванняў да дзіцячай літаратуры, мы пазбаўляем розум і сэрца падлетка вялікага жыццёвага тамлення, адвучваем ад вялікага клопату пра жыццё, а ў выніку — пазбаўляем выхавання, загартоўкі яго на духоўную і маральную жыццядзейнасць. А да гэтага ж заўсёды быў вельмі чуйны народ, які добра ўсведамляў, што маладое пакаленне, адгароджанае ў сваю пару ад жыццёвага тамлення, здольнае даць адзін толькі пустацвет.

І калі ўжо гаварыць пра займальнасць у дачыненні да дзіцячай літаратуры з яе асаблівым педагагічным статусам, то размова ў ёй павінна весціся перш за ўсё пра займальнасць, цікавасць простага працоўнага жыцця, такога, як яно ёсць, пра найвышэйшую — саму па сабе — «драматургію працы» (М. Горкі), нарэшце, пра драматургію няпростага ўваходжання ў жыццё, у чым сэнс дзяцінства, маленства і юнацтва. А без выхавання ў працы і ў непасрэдным далучэнні да прыроды, без своечасовага прывучэння да працоўнай трываласці і да жыццёвых клопатаў выхавання, лічыце, не адбылося, без гэтага самая сучасная педагогіка бяссільная.

Аднак заўважана, што ўсе гэтыя каштоўнейшыя педагагічныя якасці літаратуры маюць моцную нацыянальную прывязку і значна зніжаюцца ў іншанацыянальным успрыманні, калі не зусім адсейваюцца пры перакладзе. А пры сучаснай устаноўцы на займальнасць да гэтых глыбока нацыянальных твораў дзіцячай літаратуры ў перакладчыкаў і рукі не даходзяць. Вось чаму, пры ўсім сучасным размаху перакладчыцкай справы, трэба заўсёды аддаваць перавагу нацыянальным творам у дзіцячай літаратуры.

Калі добра падумаць, дык увогуле далёка не ўсё, што называецца дзіцячай літаратурай, сапраўды адпавядае гэтаму вызначэнню. Існуе своеасаблівы водападзел, які нябачным чынам размяжоўвае дзіцячую літаратуру на «жывую» і «мёртвую». Прычым да стваральнікаў падробленых каштоўнасцей, якіх, па трапнаму выразу рускага педагога К. Д. Ушынскага, няцяжка пазнаць па «детской гримасе» на старэчым тварах, давядзецца залічыць многіх і сярод іх нават увянчаных лаўрамі класікаў дзіцячай літаратуры.

Сапраўдная дзіцячая літаратура, на наш погляд, ствараецца не абавязкова наўмысна для дзяцей, а ў большасці сваёй узнікае зусім з іншай нагоды. Прынамсі, нават у дзіцячых па прызнанні пісьменнікаў лепшыя іх кнігі ўзнікалі іменна так. Сапраўдная дзіцячая кніжка, па маім глыбокім перакананні, можа ўзнікнуць толькі з асабліва дарагіх успамінаў пісьменніка, абавязкова з нейкіх важных жыццёвых урокаў, пытанняў, што вырашаюцца перш за ўсё для сваіх дзяцей, унукаў і толькі тады для шырокага кола чытачоў. Тады выпакутаванае, вырашанае пісьменнікам перш за ўсё для сябе пытанне, прынамсі, будзе не марным, яно будзе ставіцца як прадыктаваная асабістай трывогай і роздумам педагагічная задача ў дзіцячай кніжцы. Такі твор заўсёды поўніцца сапраўднай радасцю педагагічнага адкрыцця і карэнным чынам будзе адрозніваецца ад таго, што ствараецца па прафесійнай пісьменніцкай інерцыі. Вось чаму заўважана, што самыя лепшыя кнігі для дзяцей і юнацтва тыя, што з аднолькавай цікавасцю чытаюць у маладым, а яшчэ больш у сталым узросце.

Беларускімі пісьменнікамі, дарэчы сказаць, створана нямала такіх сапраўды дзіцячых твораў. Магчыма, таму, што галоўным пафасам нашай, у аснове сваёй «сялянскай», літаратуры заўсёды заставаліся паняроднаму сур'ёзныя адносіны да быцця, сапраўдны клопат аб выхаванні ў маладога пакалення падрыхтаванасці да жыцця, да яго вялікіх клопатаў. Прыкладам таго, што сапраўдныя дзіцячыя кнігі ствараюцца зусім не па знарочыстай аўтарскай задуме, з'яўляецца для нас перш за ўсё паэтычная спадчына Якуба Коласа. Шчыра кажучы, не так кранаюць яго кніжкі «Рак-вусач», «Савось-распуснік», спецыяльна напісаныя для дзяцей. Але вось яго задушэўныя, часам зусім просценькія па стылі пейзажныя медытацыі «Родныя вобразы», «Усход сонца», «Адлёт жураваў», «Песня пра вясну», «На адзіноце», «У школку», якія ствараліся паэтам, магчыма, у цяжкія хвіліны для сардэчнага суцяшэння, зачароўваюць пакаленні беларусаў з самага маленства.

Нават у патрыярха нашай дзіцячай літаратуры Янкі Маўра, майстра асабліва займальных сюжэтаў, мы без цяжкасці адрознім гэту сапраўды педагагічную літаратуру — гэта перш за ўсё «Палескія рабінзоны», «ТВТ».

Люблю і цяпер перачытваць «Вайну ля Цітавай копанкі» Івана Навуменкі. Сама па сабе авантурная фабула аповесці не новая. Хто з нас у дзяцінстве не гуляў «у вайну» — вуліца з вуліцай, нават вёска з вёскай. У творы ўсю справу вырашае, магчыма, нават не асноўная падзейная лінія, а дадатковыя планы: вобразы дарослых, якія прывучаюць падлеткаў да сурова-патрабавальнага сялянскага стэрэатыпа паводзін, нарэшце, асобны сюжэтны план, звязаны з вобразам Пепы, убогага розумам, пакрыўджанага вуліцай пастушка, чыя чуйнасць і любоў да прыроды здольная ўразіць самае чэрствае сэрца. Аповесць так сугучна нашым пачуццям таму, што на яе матэрыяле пісьменнік вырашае вельмі важныя для сябе пытанні (хто з нас у свой час не мучыўся над імі!) — пра перамогу розуму, інтэлекту над бесшабашнай зухаватасцю, дзіцячым насіллем. Не выпадкова гэты матыў пяройдзе потым і ў «дарослую» прозу пісьменніка, стане адной з ідэйных дамінантаў яго ваеннай трылогіі.

З твораў дзіцячай літаратуры апошніх гадоў асобнага слова заслугоўвае зборнік Івана Грамовіча «Як вясну рабілі».

Такім чынам, шлях да якаснага скачка ў нацыянальнай літаратуры ляжыць праз новы агляд унутранай гаспадаркі іменна з вышыні скразнога надрацыянальнага бачання. Без спробы гэтага, бясспрэчна, цяжкага намагання над сабой нацыянальнай літаратуры не суджана будзе ўзняцца вышэй сярэдняга ўзроўню, нават пры тым велізарным прытоку маладых сіл, які назіраецца ў апошнія гады.

**Алесь ЯСКЕВІЧ.**



## ПРА АПЫТАННІ ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ Ў ЗША

# ЗРУЧНЫЯ МІФЫ ПА СХОДНАЙ ЦАНЕ

Апытанні грамадскай думкі — такі ж неад'емны атрыбут амерыканскага ладу жыцця, як «Кока-кола» ці жавальная гумка. Колькасць адных толькі камерцыйных фірм дасягае дзвюх тысяч. Калі да іх дадаць прамысловыя і гандлёвыя кампаніі, дзяржаўныя і навуковыя ўстановы, што рэгулярна праводзяць апытанні, то лічба гэта павялічыцца ў шмат разоў. На вывучэнне грамадскай думкі ў ЗША штогод расходуецца больш як 4 мільярды долараў. Вынікі гэтай дзейнасці сталі адной з галоўных тэм у структуры навін. Па звестках «Штогадовіка амерыканскай акадэміі палітычных і грамадскіх навук», ад 500 да 600 газет, часопісаў, тэле- і радыёкампаній краіны таксама рэгулярна праводзяць апытанні грамадскай думкі.

Гэтыя незлічоныя апытанні, акрамя прыватных, канкрэтных задач (палітычных і камерцыйных), закліканы вырашаць «звышзадачу» ідэалагічнага ўмацавання асноў улады пануючага класа— пераканаць масы ў тым, быццам думка кожнага асобнага амерыканца як частка грамадскай думкі нацыі ляжыць у аснове ўсіх рашэнняў адміністрацыі ЗША ў цэлым, мясцовых улад ці карпарацый у прыватнасці. Інакш кажучы, трэба зрабіць уражанне, што Амерыкай кіруе народ. На гэтым тэзісе грунтуюцца шматлікія разважанні аб перавагах «сапраўднай дэмакратыі» (натуральна,— амерыканскай) над «таталітарнымі рэжымамі».

Урадавы прапагандысцкі апарат, сродкі масавай інфармацыі настойліва спрабуюць выклікаць і замацаваць на ўзроўні стэрэатыпа асацыятыўную сувязь паняццяў «грамадская думка» і «ліберальная дэмакратыя». Дзеля гэтага не ўпускаецца магчымасць лішні раз нагадаць амерыканцам выказванні іх славутых продкаў. Напрыклад, часта цытуецца выказванне Аўраама Лінкольна: «Грамадская думка — гэта ўсё: з ёю поспех забяспечаны, без яе — немагчымы».

Дваццаць шостая папраўка да Канстытуцыі ЗША 1971 года дае выбарчае права грамадзяніну Амерыкі, які дасягнуў 18-гадовага ўзросту. Фармальна амерыканцы маюць магчымасць з некалькіх кандыдатаў на выбарныя пасады (у тым ліку абавязкова ад дзвюх буйнейшых палітычных партый — рэспубліканскай і дэмакратычнай) аддаць перавагу найбольш блізкаму сабе па духу. Як паказалі прэзідэнцкія выбары 1984 года, для амерыканцаў адным з галоўных аргументаў у вырашэнні праблемы, каму аддаць свой голас, з'яўляецца знешняе ўспрыманне кандыдата, яго вобраз — «імідж». Гэта паняцце ўключае мноства характарыстык: уменне гаварыць, абаяльнасць, мужны выгляд, спартыўную постаць, упэўнены позірк, пачуццё гумару. А каб прыдаць гэтаму «іміджу» індывідуальнасць, усе гэтыя якасці інтэгруюцца з дапамогай галоўнай ідэі вобраза — напрыклад, «малады інтэлектуал» (Дж. Кенэдзі), «фермер, просты хлопец, адзін з нас» (Дж. Картэр), «прамы, адкрыты, актыўны — каўбой» (Р. Рэйган). Калі мадэль «іміджа» распрацавана, для яе рэалізацыі прыцягваюцца ўсе даступныя сродкі і перш-наперш сродкі масавай інфармацыі, бо амерыканцы будуць галасаваць за таго кандыдата, чый вобраз ім падацца найбольш прывабна.

Лічыцца, што і простым амерыканцам даступны выбарныя пасады. Але дадзім выказацца наконт гэтага самім амерыканцам. Не хто іншы, як сакратар штата Нью-Йорк Гейл Шэфер пісала летась у газеце «Нью-Йорк таймс»: «Аб патэнцыяльных кандыдатах прэса, партыі і сама грамадскасць мяркуюць не па іх інтэлектуальных здольнасцях, талентах і палітычных поглядах, а па ўменню залучаць грошы ў фонд уласнай выбарчай кампаніі. Гэтыя фонды — як ваенныя арсеналы, што назапашваюцца для магутных рэкламных залпаў. Так сутнасць справы губляецца ў цёмнай гульні з выбарнымі доларамі».

Практыка рэалізацыі амерыканскай выбарчай сістэмы не можа не параджаць адмоўных да яе адносін шматлікіх амерыканцаў. Яна выхоўвае ў іх, асабліва ў моладзі, цынізм у адносінах да інстытутаў дзяржаўнай улады ЗША ўвогуле і да «дэмакратычнага характару» выбрання іх кіраўнікоў і членаў — у прыватнасці. Такі настрой канкрэтна выражаецца ў абсентэізме — адмове ад удзелу ў галасаванні. Не вераць у міф аб «самакіраванні народа» 48 працэнтаў дарослых амерыканцаў — амаль кожны другі. Менавіта столькі грамадзян ЗША ў лістападзе 1984 года адмовіліся выкарыстаць дадзенае ім Канстытуцыяй ЗША выбарчае права. Гэта самы нізкі паказчык за ўсю гісторыю Злучаных Штатаў.

У гады прэзідэнцкіх выбараў на першы план пры выяўленні грамадскай думкі ставяцца пытанні, звязаныя з ацэнкай шанцаў кандыдатаў быць выбранымі на гэту пасаду. Такіх апытанняў — безліч. І каб атрымаць аператыўныя звесткі, прымяняецца самая сучасная камп'ютэрная тэхніка.

Калі ж разабрацца па сутнасці, то выбары 1984 года выйграла не камп'ютэрная, а ваенная тэхніка. Буйнейшыя ваенныя карпарацыі падвоілі свае датацыі на выбарчыя кампаніі, як толькі Рональд Рэйган прыйшоў у Белы дом у 1980 годзе. Сярод іх — 20 флагманаў ваенна-прамысловага комплексу, якія перадалі 3,6 мільёна долараў на перавыбранне Рэйгана і тых членаў кангрэса, якія, паводле аналізу, праведзенага агенцтвам «Асашыэйтэд прэс», падтрымлівалі аб'яўленую Рэйганам больш чым двухтрыльёнадоларавую праграму нарошчвання ўзбраенняў.

Пра маральны клімат у Вашынгтоне можна меркаваць па шчыраму выказванню кангрэсмена, на якое спасылаецца вядомы вашынгтонскі лабіст Шлосберг у сваім артыкуле ў «Нью-Йорк таймс». Расказваючы, як яго калегі падыходзяць да размеркавання службовых абавязкаў, кангрэсмен заўважае: «Кожны хоча атрымаць месца ў падкамісіі па пытаннях абароны. А ведаеце, чаму? Грошы. Кантракты».

Ваенна-прамысловы комплекс, сапраўды, на расходы не скупіцца — ведае, што кожны куплены ім кангрэсмен будзе адстойваць яго інтарэсы і пры гэтым не толькі аперыраваць уласным імем, але і прыкрывацца думкай соцень тысяч амерыканцаў, якія ўручылі яму мандат кіраваць ад іх імя. Сенатар Джон Уорпер ад штата Ваёмінг, член камітэта па пытаннях ваеннай службы, атрымаў на сваё перавыбранне ад 20 вядучых ваенных фірм 80050 долараў, а сенатар Тэд Стывенс ад штата Аляска, старшыня падкамітэта па асігнаваннях на абарону,— 60,8 тысячы.

Між іншым, нікога ў Амерыцы гэта не здзіўляе. Бізнес ёсць бізнес. Як пісала ў часопісе «Ньюсуік» аглядальніца М. Грынфілд у сувязі з выкрыццём незаконных махінацый аднаго з былых саветнікаў Рэйгана М. Дывера, «кожны прадае сваё імя, сваю рэпутацыю, рэпутацыю сваіх сяброў і сваіх устаноў і ўсё тое, да чаго можа дацягнуцца яго рука».

Такім чынам, асноўны механізм нібыта працвітаючага народаўладдзя ў Амерыцы (або ўхваленая на ўсе лады выбарчая сістэма) нічога агульнага з уладай народа не мае. Але, магчыма, у амерыканцаў ёсць спосаб сілай грамадскай думкі ўздзейнічаць на заканадаўчыя органы, каб выбраныя ў іх састаў асобы праводзілі палітыку, якая адпавядае спадзяванням большасці грамадзян краіны? І на гэтае пытанне падзеі палітычнага жыцця Амерыкі даюць адмоўны адказ. Вось тыповы прыклад. Як піша газета «Нью-Йорк таймс», член палаты прадстаўнікоў кангрэса ЗША дэмакрат ад штата Кентукі Кэрал Хабард-малодшы ўжо на працягу 12 гадоў рассылае па 200 тысяч апытальнікаў сваім выбаршчыкам. Па яго словах, адказы на гэтыя апытальнікі (за 5 месяцаў 1986 года кангрэсмен атрымаў іх каля 34 тысяч) дапамагаюць яму «прымаць рашэнне пры галасаванні» па законапраектах. З гэтых адказаў відаць, між тым, што большасць яго выбаршчыкаў выступае супраць таго, каб краіна дапамагала нікарагуанскім «контрас». І што ж «прадстаўнік народа»? 25 чэрвеня 1986 года ён аддаў голас за 100-мільённую амерыканскую дапамогу «антыкамуністычным партызанам». (Так афіцыйная прапаганда ў ЗША называе забойцаў з банд наёмнікаў, што прадалі інтарэсы нікарагуанскага народа.)

Апытанні грамадскай думкі ў ЗША ў 1986 годзе паказваюць, што большасць амерыканцаў падтрымлівае мірныя ініцыятывы Савецкага Саюза аб паступовай ліквідацыі ядзернай зброі да 2000 года, выступае супраць росту расходаў федэральнага бюджэту на ваенныя мэты і супраць скарачэння асігнаванняў на сацыяльныя праграмы. Напрыклад, апытанне, праведзенае газетай «Вашынгтон пост» і тэлевізійнай карпарацыяй Эй-Бі-Сі, паказала, што 74 працэнты падтрымліваюць праграму ліквідацыі ядзернай зброі і толькі 22 працэнты выказаліся за павелічэнне ваенных расходаў. Амаль дзве трэці апытаных выступілі супраць згортвання сацыяльных праграм.

Якая ж рэакцыя Белага дома на думку ўласнага народа? Адміністрацыя Рэйгана робіць усё якраз наадварот: ваенныя расходы імкліва растуць, сацыяльныя праграмы не менш імкліва скарачаюцца, савецкія мірныя ініцыятывы ігнаруюцца.

Буржуазныя тэарэтыкі заўважаюць гэта, але, як верныя сыны свайго класа, валяць усё з хворай галавы на здаровую. Так, прафесар Т. Куалтэр сцвярджае, што і адміністрацыя, і кангрэс правільна робяць, што не ідуць на повадзе ў грамадскай думкі, бо амерыканскі жыхар «неінфармаваны, пасіўны і апатычны». У чымсьці з Куалтэрам трэба пагадзіцца. Скуль жа амерыканскаму жыхару быць інфармаваным? Пачнём з таго, што, па звестках Міністэрства адукацыі ЗША, ад 17 да 21 мільёна дарослых амерыканцаў — непісьменныя.

Аднак галоўная прычына не ў тым. Паколькі грамадская думка ў любой краіне, у тым ліку і ў ЗША, уяўляе сабой нейкую выніковую сукупнасць поглядаў і ацэнак асобных індывідаў, працэс яе фарміравання нельга разглядаць без уліку асноўных заканамернасцей і фактараў, што фарміруюць індывідуальныя перакананні асобы. Гэты працэс, у час якога людзі засвойваюць нормы, каштоўнасці, думкі і тыпы паводзін, што прыняты і практыкуюцца навакольнай сістэмай (гэта своеасаблівае «ідэалагічнае ўзнаўленне»), атрымаў назву «палітычная сацыялізацыя». Сутнасць яго фактычна заключаецца ў развучванні новымі членамі грамадства сваіх сацыяльных роляў і адпаведных ім стэрэатыпаў мыслення і паводзін. У ЗША палітычны механізм, што рэалізуе гэту сацыяльную функцыю, дэталёва прадуманы і адладжаны.

Камунікатыўныя сродкі ў сучасным буржуазным грамадстве ператварыліся ў сферу прыбытковага бізнесу з высокай канцэнтрацыяй укладзеных капіталаў у руках вядучых манаполій. Даследаванне, праведзенае ў канцы 1985 года інстытутам Гэлапа, паказала, што, «у той час як амерыканцы высока ставяць свабоду прэсы, большасць з іх сумняваецца ў сапраўднай свабодзе сродкаў масавай інфармацыі ў ЗША». Для гэтага ў іх ёсць усе падставы.

Дзве трэці з амаль 1700 штодзённых газет Злучаных Штатаў — уласнасць карпарацый. На долю гэтых манапалізаваных выданняў прыпадае 80 працэнтаў штодзённага тыражу ўсіх амерыканскіх газет.

Вядомы амерыканскі аўтар Майкл Парэнці ў выдадзенай нядаўна кнізе «Вынаходства рэальнасці. Палітыка сродкаў масавай інфармацыі» на канкрэтных прыкладах і фактах паказвае класавую ролю гэтых сродкаў у ЗША як аднаго з рашаючых элементаў капіталістычнага грамадства.

Атрымліваючы львіную долю даходаў ад платнай рэкламы, уладальнікі сродкаў масавай інфармацыі стараюцца залучыць чытачоў сенсацыйнымі і пацяшальнымі матэрыяламі. Калі і даецца аналіз падзей, то з пазіцый аховы пераваг амерыканскага ладу жыцця і паклёпу на сацыялізм, на краіны і народы, якія выбіраюць свой шлях развіцця і не падпарадкоўваюцца амерыканскаму дыктату. Напрыклад, не праходзіць і дня, каб у буйнейшых газетах ЗША не з'яўляліся матэрыялы, якія малююць амерыканскаму чытачу скажоную карціну жыцця ў СССР і іншых сацыялістычных краінах. Услед за Белым домам і Пентагонам сродкі масавай інфармацыі Злучаных Штатаў любую савецкую мірную ініцыятыву кваліфікуюць як «чарговую прапаганду» і разам з тым падаюць абструкцыяніцкія манеўры Пентагона як «сапраўды мірныя прапановы». Тэндэнцыйным было асвятленне сродкамі масавай інфармацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Як прызнаў часопіс «Ньюсуік», яно суправаджалася «прывядзеннем раздутых лічбаў пра чалавечыя ахвяры». Амерыканцам паведамілі, што, маўляў, савецкія АЭС у адрозненне ад амерыканскіх не прадугледжваюць надзейнай сістэмы аховы. «Гэта сцвярджэнне,— піша «Ньюсуік»,— аказалася фальшывым, але калі выявілася больш праўдзівая карціна — прыкладна праз тры тыдні,— у прэсе пра гэта проста не ўпамянулі».

Гэтак жа, у вышэйшай ступені тэндэнцыйна, асвятляюцца падзеі, якія адбываюцца ў саміх Злучаных Штатах,— расавыя хваляванні, рух пратэсту, забастоўкі працоўных. У прыватнасці, матэрыялы пра барацьбу рабочых за свае правы падаюцца так, каб стварыць у насельніцтва «негатыўны вобраз прафсаюзнага руху». Буржуазная прапагандысцкая машына на вопыце многіх дзесяцігоддзяў адпрацавала разнастайныя вытанчаныя прыёмы падачы інфармацыі, каб маніпуліраваць думкай мас, у тым ліку два асноўныя — выбіральнасць інфармацыі і яе абмежаванасць. Парэнці піша, што нават не абавязкова трэба хлусіць: амерыканскія сродкі масавай інфармацыі, мэтанакіравана адбіраючы факты, «дыктуюць нам, што думаць пра навіну, раней, чым у нас з'явіцца магчымасць самім абдумаць гэта».

У гэтым працэсе, што прыводзіць да зніжэння інтэлектуальнага ўзроўню сярэдняга амерыканца, галоўную ролю адыгрывае тэлебачанне. Такі вывад зрабіў у сваёй новай кнізе «Пацяшаючы да смерці» Нейл Поўстмен, тэарэтык у галіне сродкаў масавай камунікацыі. Амерыканцы вельмі залежаць ад тэлебачання як крыніцы самай разнастайнай інфармацыі — ад апошніх паведамленняў да звестак аб прэтэндэнтах на афіцыйныя пасты. Пры дапамозе візуальных сродкаў — карцінак на экране тэлевізара — складана перадаваць абстрактныя паняцці. А без іх не можа працаваць мозг — адны эмоцыі. «Таму,— перасцерагае Поўстмен,— з'явіцца насельніцтва, не здольнае апераваць складанымі паняццямі, у яго не будзе ні цярплівасці, ні здольнасцей. Людзі будуць адчуваць сябе ўпэўнена і спакойна толькі перад тым, што ўпакавана як забава. Здольнасць аналітычна мысліць і крытычна ацэньваць знікне. Гэта будзе насельніцтва, што пацяшае сябе да смерці».

Абнародаванне сродкамі масавай інфармацыі ЗША крытычных матэрыялаў пра амерыканскую рэчаіснасць дыктуецца імкненнем не толькі прыцягнуць увагу чытача, гледача, слухача, але і стварыць выгляд аб'ектыўнага падыходу. Крытычныя матэрыялы падаюцца так, што асновы капіталістычнай сістэмы не закранаюцца, а вінаватымі ў недахопах выстаўляюцца прыватныя асобы, установы і карпарацыі, заканадаўчыя акты і нават асобныя дзеянні цяперашняй адміністрацыі. Так ствараецца міф пра свабоду выказвання думкі, а карэнныя праблемы амерыканскага грамадства (беднасць, беспрацоўе, расізм, злачыннасць, наркаманія) не вырашаюцца і нават паглыбляюцца.

Калі пачынаеш разумець сапраўдную ролю апытанняў грамадскай думкі ў палітычным механізме амерыканскай сістэмы, міжволі прыходзіш да высновы: а ці не з'яўляюцца самі апытанні фактарам маніпуліравання самой грамадскай думкай? Тут выяўляецца тонкі псіхалагічны разлік: чалавек адчувае сваю значнасць, калі нехта цікавіцца яго думкай. Таму ўжо сам працэс шматмільённага інтэрв'юіравання пры апытаннях з'яўляецца элементам мэтанакіраванай апрацоўкі грамадскай думкі, які падтрымлівае міф аб знакамітай «амерыканскай дэмакратыі».

Акрамя таго, вынікі апытання можна і загадзя запраграміраваць, калі належным чынам сфармуляваць пытанне. Часопіс «Паблік опініэн куотэрлі» вясной 1986 года змясціў агляд праведзеных рознымі фірмамі ў 1983—1985 гадах апытанняў грамадскай думкі ў ЗША па праблемах проціракетнай абароны. Выявілася, што тэндэнцыйна сфармуляваныя пытанні заведама правакуюць пажаданыя адказы. Напрыклад, адно з пытанняў было пастаўлена так: «Падтрымліваеце Вы ці не планы па распрацоўцы абаронная зброі, якая будзе размешчана ў космасе для абароны ЗША шляхам знішчэння любых падлятаючых ракет?» Як і трэба было чакаць, 75 працэнтаў апытаных выказаліся ў падтрымку такой праграмы, 17 працэнтаў — супраць яе і 8 — адказалі: «не ведаю».

Аднак іншая пастаноўка пытання прыводзіць да іншых вынікаў. На пытанне «Будзеце Вы лічыць сябе ў большай бяспецы пры наяўнасці такой сістэмы або, наадварот, будзеце болей трывожыцца ў сувязі з размяшчэннем ядзернай зброі ў космасе?» 60 працэнтаў апытаных зусім пэўна заявілі, што ў выпадку мілітарызацыі космасу іх неспакой узрасце, і толькі 25 працэнтаў адказалі, што будуць адчуваць сябе ў большай бяспецы. Далей на пытанне «Увогуле і ў цэлым, ці выступаеце вы ў падтрымку выдаткавання мільярдаў долараў на стварэнне сістэмы абароны ЗША з космасу шляхам лазернай і прамянёвай зброі?» 56 працэнтаў апытаных заявілі «не», 39 працэнтаў падтрымалі праграму стварэння такой сістэмы, 5 працэнтаў не далі пэўнага адказу.

Як бачым, апытанні па адной, па сутнасці, праблеме могуць даць зусім процілеглыя вынікі. Амерыканскія даследчыкі, якія зацікавіліся гэтай з'явай і вывучалі яе, тлумачаць гэта такім чынам: значная частка амерыканцаў фармулюе сваю думку непасрэдна ў ходзе апытанняў, бо да гэтага моманту яны проста не задумваліся над той ці іншай праблемай, часта знаёмыя з ёй толькі па чутках. Таму, адказваючы на пытанне, яны зыходзяць з інфармацыі, якая ўтрымліваецца ў ім самім, шукаюць падказку ў самім пытанні. Зрабіўшы такі вывад, амерыканскія прапагандысты-практыкі ўнеслі ў арсенал сродкаў маніпуляцыі грамадскай думкай яшчэ два прыёмы.

Пра адзін з іх мы ўжо ўпаміналі — яго можна сфармуляваць так: «Апытваючы — фарміруй». Менавіта па такому «рэцэпту» амерыканцам прапануюць адказваць на пытанні тыпу: «Чаму б вы аддалі перавагу — загінуць у ядзернай вайне ці капітуляваць і жыць пад пятой камуністычнага дыктату?», тым самым пераконваючы іх, што іншага шляху быццам няма, наўмысна ўтойваючы, што Савецкі Саюз выступае за мірнае суіснаванне, паказваючы яго як асноўны цэнтр зла.

Другі прыём можна ўмоўна назваць «Апытваючы — прыдумвай праблемы». Такім чынам праводзяцца апытанні па адносінах амерыканцаў, напрыклад, да «праблемы іншадумцаў у СССР», «становішча савецкіх яўрэяў», «парушэння правоў чалавека ў сацыялістычных краінах», «савецкай ваеннай пагрозы» і г. д. Тут самі апытанні скарыстоўваюцца як сродак для сістэматычных антысавецкіх ін'екцый.

Кіраўнікі Амерыкі лічацца толькі з думкай, якая выгадна ім. А паколькі апытанні ў ЗША закранаюць усе бакі жыцця амерыканскага грамадства, кіруючыя колы, каб стварыць выгляд дэмакратыі, прыслухоўваюцца да грамадскай думкі па другарадных пытаннях.

А як жа самі амерыканцы ацэньваюць сістэму правядзення апытанняў у сваёй краіне? У нейкай ступені адказваюць на гэта пытанне вынікі двух даследаванняў, спецыяльна праведзеных у 1985 годзе «Арганізацыяй Роўпера». Яны выявілі «здаровы скептыцызм амерыканскага грамадства адносна апытанняў». Большасць амерыканцаў не прымае аўтаматычна на веру іх вынікі.

Ва ўмовах усё больш вострай ідэалагічнай барацьбы на фоне агульнага глабальнага проціборства двух сусветных сістэм, усведамленчы непапулярнасць сваёй знешняй палітыкі, вастрыню сацыяльных праблем, узрослую актыўнасць насельніцтва Амерыкі, кіруючыя колы ЗША вымушаны шукаць новыя, больш дасканалыя формы ідэалагічнага забеспячэння свайго палітычнага панавання. «Буржуазная ідэалогія,— адзначалася на XXVII з'ездзе КПСС,— ідэалогія абслугоўвання капіталу і прыбыткаў манаполій, авантурызму і сацыяльнага рэваншу, ідэалогія грамадства без будучыні. Яеустаноўкі відавочныя: любымі прыёмамі ўпрыгожыць яго прыродную антычалавечую несправядлівасць, навязаць свае стандарты навукі і культуры, усімі спосабамі ачарніць сацыялізм, сказіць сэнс такіх каштоўнасцей, як дэмакратыя, свабода, роўнасць, сацыяльны прагрэс».

Апытанні грамадскай думкі ў ЗША, нягледзячы на спробы апалагетаў амерыканскай дэмакратыі ўтаіць іх сапраўдную функцыю,— гэта адно са звенняў у магутным механізме прапагандысцкага забеспячэння буржуазнай ідэалогіі.

**Аляксандр ПАШКЕВІЧ.**

# КУРЫЛЬСКІЯ СУСТРЭЧЫ



У Сібіры жыць — здаровым быць. На Камчатцы пабыць — усю радню здзівіць. На Калыму злятаць — калатэчы паспытаць. На Курылы патрапіць — усе дзівосы ўбачыць.

То не жарт, а чыстая праўда, верце слову. Аўтар пад час падарожжа ў «палявых» умовах не адну лыжку солі з'еў.

На геаграфічную карту Курыльскіх астравоў можна глядзець гадзінамі,— не надакучыць! Ці не фантастычны малюнак, над якім так доўга шчыраваў нястомны мастак-летуценнік,— вачэй не адарваць! Блакітнага колеру не пашкадаваў, расшчодрыўся. У блакітных адценнях ад густога да празрыстага столькі паэтычнай узнёсласці,— так вада пазначана. І не дзівіцеся, бо на Курылах царства вады, камення і зеляніны. Курылы ў палоне акіяна Ціхага,— бязмежныя яго ўладанні. Сярод блакіту на той жа геаграфічнай карце бягуць танюткія пасачкі колеру і бурага, і чырвонага, і зялёнага, і карычневага.

На карце маленькія доўгія «казюркі» — суша. Астраўкі бягуць, як за рукі пабраўшыся. І кожны даўно «хрышчоны» і завецца загадкава: Кунашыр, Ітуруп, Уруп, Сімушыр, Ушышыр, Матуа...

Карта картай, а ў жыцці сваё. З прыродай нават самы таленавіты мастак спаборнічаць не бярэцца. А маленькія пасачкі толькі на карце, бо на справе не такія ўжо і маленечкія. Востраў Ітуруп цягнецца ў даўжыню аж да ста дваццаці кіламетраў, а ў шырыню раскінуўся на дваццаць з гакам.

Першае ўражанне ад Курыльскіх астравоў — з птушынае вышыні. Падлятаеш да месца, узіраешся прагна, а што тамака робіцца? Непаўторнае відовішча! Магутныя скалы бягуць да самага акіяна, і высокія, аж да вэлюму блакітнага. Ці не стромкія каменныя слупы гадзіну таму назад выбраліся з глыбіні марской? Ім так карціць на зямлю ўзірнуцца, з акіянам павітацца.

На Курылах пануе два колеры: колер акіяна — блакітны да звонкае гамы, а другі — зялёны. Раслінны свет Курылаў надзвычай багаты. Няма бадай што ніводнага куточка на нашай зямлі, дзе б так па-суседску ўжываліся мангольскі арэх з в'етнамскім кедрам, японскі бамбук з сібірскай сасной, а далікатная бяроза сябравала з таполяй.

Ад маляўнічасці і экзатычнасці галава кружыцца. З аднаго каменьчыка саскочыш і на другі азірнешся,— якія непадобныя яны. На акіян пазіраеш — вачам уцеха. Галаву задзярэш — горныя вяршыні ў воблаках чупрыны пахавалі. Па бамбукавых плантацыях крочыш — на лбе шышкі,— такі шчыльны зараснік. Да рачулкі дакранешся — рукі апячэш,— гарачая, тэрмальная. Крынічка бруіць — прахалодная вадзіца. П'еш — зубы ляскаюць, сківіцы зводзіць. І сонца тут шчодрае і ласкавае. Ці не таму, што на Курылах, за гарамі магутнымі, яго калыска. І там яно прачынаецца.

Патрапіўшы на Курылы, да людзей прыглядаешся. Скажыце, калі ласка, а землякоў нашых не ведаеце? Што вы кажаце? З Беларусі? Дайце абдыму вас...

Розныя былі сустрэчы. І смакаваў калдуны з чырвонай ікрой, слухаў «Капыльскую лірычную» на Шыкатане, спяваў «Касіў Ясь канюшыну» на фумарольным возеры на Ітурупе, гасцяваў у гродзенскай сямейнай пары ў Паўднёва-Курыльску і хадзіў на «сустрэчу» з мядзведзем. А за праважатага быў паляўнічы з Магілёва. Ад убачанага і перажытага нарадзіліся гэтыя нататкі.

## ДАМОК НА ГАРЫ

Горад Паўднёва-Курыльск абавязаны сваім паўнакроўным жыццём рыбакам, маракам, рамонтнікам, апантаным геолагам і... простым працаўнікам. Сярод іх і дыспетчар порта Максім Яновіч.

— Дзядзька мой на Курылах ваяваў супраць японцаў у сорак пятым. Эскадра, дзе ён служыў камандорам, выйшла з Камчацкага порта і ўзяла курс на Курылы... У сорак пятым палягло нашых нямала. І дзядзькава магіла тут, на Курылах... У шасцідзесятым годзе прызвалі мяне на вайсковую службу. У той час якраз я працаваў на Старобіншчыне, першы салігорскі калійны камбінат узводзіў. Векавая глухмень, палескі край, балоты. І раптам усё наваколле загудзела. Старыя з навакольных вёсак прыходзілі падзівіцца на шахцёрскія капры з агромністымі махавікамі. Харошая пара, што і казаць. У ваенкамаце я папрасіўся на Курылы, бо дзядзька там пахаваны. З Уладзівастока морам пайшлі на Курылы. Акіян пад бокам, райскія мясціны, шчодрае сонца. Не, паслухайце, што было далей. Раз пагранічнік, дык канечне ж і... Праўда, начытаўся колькі пра сутычкі з бандытамі, шпіёнамі, парушальнікамі спакою, якія так нахабна пруцца цёмнай ноччу, прыціскаючы зброю. Ну, пачакайце! Мне б толькі заступіць на пост — мыш не пройдзе!

У ахвоту марылася. Яно і праўда, не на балота еду, а на такую гарачую кропку. Тамака зямля савецкая з акіянам вітаецца — злыдню далей ходу няма. А тых, хто хоча да нас патаемнымі сцежкамі прабрацца, каб нашкодзіць, уга колькі!

Прайшоў каранцін, крыху асвойтаўся, да мясцін прыглядаюся. А куды мяне прызначылі?.. Толькі не смейцеся! Пасвіць і даглядаць... кароў! І даяр, і пастух у адной асобе... Свая салдацкая гаспадарка, тузін добрых коней, паўсотні вепрукоў і статак дойных каровак. А чаму і не. Сырадойчык шторання, мяса ў супец. На золку пугу ў руку, бушлат на плечы і пагнаў коней і каровак на пашу... У лістах дадому хваліўся, як добра і цікава мне служыцца — граніцу вартую. Коні, рахманыя, разумныя, у гарах без іх цяжка. Чакаецца які пераход, дык я коней загадзя рыхтую, выпасваю і да вады вяду. З кароўкамі не дужа клопатна, чаго ўжо там. Ранкам выганю, а травы тут удосталь, у рост чалавека выганяе — запускай сенакасілку. Трава сакаўная, і таму сырадойчык выдатны! А курыльскія кароўкі такія адчайныя і смелыя, што альпіністы. На круты схіл я ступіць баюся, а карова ўшчэміцца, спакойна нагульвае малачко, шчыпле траўку. Я кнігу ў рукі... добра ўсім нам, і кароўкам, і мне... Шмат кніг перачытаў, не верыце?

Але хутка мая таямніца раскрылася. І хоць Старобіншчына за чатырнаццаць тысяч вёрст, але бачыце.

Напісаў камандзір лістка на Старобіншчыну маім бацькам. На цэлы аркуш насмаліў! Падзяку і бацькам, і школе. Не паленаваўся і на адрас сельсавета настрачыў. Камандзіра хлебам не кармі, а дай падзяку напісаць, у шчырую ахвоту рабіў — тут свая педагагічная тактыка.

Палучаюць бацькі ліста, на вёсцы чытаюць. Ага, Максім лепшы даяр на Курылах! Дый не толькі там, але і па Сахаліне паставіў рэкорд! Надаіў ад кожнае каровы вунь колькі! На нараду жывёлаводаў салдата-даяра выклікалі. Абмен вопытам, калі хочаце. Харошая ж нарада нікому не пашкодзіць. І сам павучыўся.

Адслужыў, дадому паехаў. Мяне ў мясцовы калгас запрашаюць: ці то жартам, ці сур'ёзна — не разбярэш. А мне нешта не па сабе, бо зноў на Курылы пацягнула.

Максім запрашае мяне ў закутак, светлы і ўтульны. Кідаецца ў вочы добры, моцны варштат, а на шматлікіх палічках, як на выставе, багаты цяслярскі і сталярны рыштунак.

— Як накоціцца, дык хутчэй сюды. Гэблік нагастрыў і працую. Хваёвая стружачка ласкавым струменьчыкам пабяжыць — спяваю, мне і весялей. Бачыце, колькі загатовак? І на табурэты, і на куфар, і на лаўку. Усяму свой час, спяшацца няма куды.

Максім Яновіч перабірае хваёвыя дошчачкі і паварочваецца да мяне.



— Для мяне майстэрня, а дзецям — карабельная каюта. Калі каюта, дык і самая сапраўдная калыханка-гамак, якар, барометр. Мой старэйшы Івась збіраецца паступаць у мараходку. У каюце ночы праседжвае, вучыць. Падахвоціўся, уцягнуўся ў «марскую» рамантыку, цікавыя мадэлі судоў майструе. Так налаўчыўся, што мне зайздросна, але маўчу, услых ні слова,— заганарыцца! — Максім усміхаецца.— Па караблях бачу, як жа жыццё бяжыць, якія змены адбываюцца. Учора, яшчэ ўчора былі магутныя, моцныя, велічныя, а сёння ўжо не цягнуць,— састарэла — саступай дарогу! Як згадка. Ты, Максім, сваё адпрацаваў, хай цяперака сын твае справы давершыць. Але ці заўжды так? На жаль...



Мы крочым з Максімам у дыспетчарскую. Даволі прасторны, утульны пакой. Усю сцяну захапіла карта Сахалінскай вобласці, а вялікі глобус панам стаіць на стале. Перагаворны пункт, а побач палічкі з кнігамі. Гаспадару так пасуе прыгожы марскі кіцель з залатымі якарамі на рукавах.

Максім, злавіўшы мой позірк, усміхнуўся:

— Прыехаў у свае Жабінкі, дык уся вёска высыпала. Генералам стаў Максім Яновіч. Не, пярэчаць другія,— маршал! «Выліты маршал!» І ўжо на вы мяне называюць, аж смешна. Скінуў «якары», куртачку на плечы, касу ў рукі і на сенажаць. Свята, чыста свята!

...Праз акенца бачны прыгожы заліў, які агінае горад. А далей, у вэлюме серабрыстых воблакаў хмуры вулкан Цяця з кудлатай чупрынай пылу на самай пупавіне.

З акенца дыспетчарскай і горад Паўднёва-Курыльск ва ўсёй сваёй красе і ўтульнасці. Зеляніны мала, бо вятрыска тут гасцюе неспакойны, дрэўцы ў дзеркачыператварае. Тут не палеская зямля, дзе ўтыркнеш дубец — дрэва само да воблакаў пацягнецца. І хацінкі старэнькія, пасляваенныя, і сучасныя шматпавярховікі, і шчытавікі з вясёлкай колераў.

— Мінулым летам,— працягвае гаспадар,— да мяне бацька прыязджаў, каб на братавай магіле пасядзець. Кажа мне:

— Вады колькі — за жыццё не вычарпаеш, а марна сіла яе губіцца. Няўжо нельга яе запрэгчы? Карабель бегае, ды то іначашая справа. І не смейся, Максім, што стары здурнеў. Усюды быў, паў-Еўропы пратэпаў, у Берліне на рэйхстагу свой аўтограф пакінуў, цяпер вось на Курылы прыпёрся, хачу брату магілу наведаць, праху ягонаму пакланіцца...

Два тыдні гасцяваў, абышоў наваколле, у радонавых гарачых ваннах плёхаўся, знакамітых на ўсю краіну.

— Сеў у каменныя ночвы і так добра стала,— гаварыў бацька смеючыся.— Каб яшчэ печ сюды, чыгун з бульбай і маю старую з мяшалкай,— дык і паміраць не трэба.

Надумаўся брысці пешаком да вулкана Цяці. Падманлівае ўражанне. Здаецца, шапку да яго дакінеш,— так блізенька, а ісці дваццаць кіламетраў. Пайшоў бацька, паўбохана хлеба прыхапіўшы, адно прагаварыў:

— Я ж ад Курска на жываце сто вёрст пыхцеў. Старшына бохан хлеба ў сідар кіне, а зверху тушонак у бляшанках і пагнаў,— перамагай!

Вярнуўся толькі на трэці дзень, стомлены, але вясёлы. Не распранаючыся, адно толькі скарынку хлеба адскуб ад бохана,— прагаварыў здзіўлена:

— Ты скажы, што вытварае, га? Ну, браце! Выкідвае каленцы! Гара вялікая і адно каменне! А як жывая, дыхае!.. Чутно, як там, у яе вантробах, трасецца нешта. Дыхалку забівае, што не вытрываць!

...Паўднёва-Курыльск мы пакінулі раптоўна. Не давялося як след і развітацца з Максімам Яновічам. Наш карабель гукнуў пасажыраў туманным ранкам. Мы спехам пагрузіліся на маленечкі катэр і хутчэй туды, дзе другія суткі чакаў акіянскі лайнер «Вольга Андроўская».

Туман так шчыльна «насунуў» на вочы вэлюм, што ў дваццаці кроках анічога не бачна... А ў сонечны дзень прывабны дамок Максіма Яновіча відзён далёка. І прывеціць, і шчаслівай дарогі пажадае...

## «МОЙ ЛЕПШЫ ЛЕКАР»

— Не, грошы мяне не цікавяць! Галоўнае — здароўе! Так, так, здароўе! Няма яго, дык і грошы не трэба! Вунь жа мая суседка Матруна Бойкава грашамі мяшкі напхала, а ходзіць, як стручок гарохавы. Кажу ёй — жыві як чалавек, а не — грошы збірае! Дурніца!

На Курылах я пяты год, з Гродна прыехала. А як патрапіла? З гэтага і пачну... Сяброўка мая, Вераніка Зыгмантовіч, колькі гадоў радыкулітам мучылася. Хаця б толькі, нахапала ў дадатак тузін запаленняў розных, у яе — солі, яшчэ нейкая трасца. Дзеўка ў самым смаку, усяго трыццаць з чымсьцікам, а ўсміхаецца толькі па вялікіх святах — здароўя нямашака! Так і жыла б сабе, як крапіўка ля плота, дзень у нябыт праводзячы, дый выпадак шчасцейкам абярнуўся. Уручылі Вераніцы дармавую пуцёўку па лініі прафсаюза, бо яна ж ударніца-стаханаўка на тонкасуконным камбінаце. Уручылі і тыдзень угаворвалі: едзь, дурніца! То ж задарма табе! Каб у Ялту, дык не ўгаворвалі б. Пуцёўка не на поўдзень, каб на каменьчыках семкі лускаць, а на Курыльскія астравы! Згадзілася Вераніка, на развітальную вячэру сяброўк запрасіла, паплакала для прыліку і паехала. Праз поўны месяц вярнулася дадому і на святочную вячэру ўвесь перамотачны цэх запрасіла.

— Дзяўчаткі! Во якая стала! — захоплена прагаварыла Вераніка і ўскочыла на зэдлік, пакруцілася.

Мы і праўду самі бачым, пахарашэла кабета, памаладзела, як у мядку купалася. І загарэла як! Кава і малако з шакаладам.

— Столькі ўжо нагледзелася, дзяўчаткі,— працягвала гасцінная Вераніка,— і па акіяну ішла, і на Чортавым камені сядзела, і ў бары «Нептун» крабаў смакавала, і ікру з яйкам ела! На Курылы прыехалі,— вочы навыкат! Цікава! Патрапіла на радонавыя ванны. А яны ж дужа лекавыя і ўсе хваробы венікам вымятаюць. Наслухалася пра іх цудадзейнасць і, гары агнём,— хутчэй грэцца! Два тыдні тое і рабіла, што вылежвалася ў каменных ночвах, выгравалася ў лекавай вадзе. Пашанцавала векавусе! Гарачай граззю абмажуся і сяджу, лячуся. І што вы думаеце? Выгнала радыкуліт! Ні знаку. Як і не было!

Мая субяседніца перавяла дых, замаўчала, але праз хвілінку працягвала:

— Я ж і не ведала, што такая лекавая вада на Курылах. Зайздросна стала. Што я горшая за Зыгмантовіч? Пуцёўка мне не трэба. Паеду працаваць! Так і вырашыла. Дзеці дарослыя, школу закончылі, за мамін прыпол не





трымаюцца. Мой Васіль на пад'ём лёгкі, хутка згадзіўся. Сабраліся і ходу. Знаёмыя адно дзівіліся і пасмейваліся. Сівыя грыбы на рамантыку кінуліся. А чаму і не? Свету пабачым, людзей сустрэнем, а Гродна і будзе Гродна, нікуды ад нас не збяжыць. Як быў Нёман, так і пацячэ. А калі яшчэ на Курылы пасунешся? Ага, як кіёчак да сцягна прытуліш? Не, маўчыце!

Кабета шчыра засмяялася і невядома чаму жартоўна патузала за чуб свайго мужа — ён жа побач, як ганаровая варта.

— На Курылах я і лячуся. Папраўлялася. Спяваю, бо мне весела, а як жа... Працую бухгалтарам на рыбазаводзе і зарабляю добра. Кажу вам, што грошы мяне не цікавяць, самі ідуць. Кладу на кніжку і лячуся! Як выходны дзень на парог, дык свайго Васіля пад руку і пайшлі. Шэсць кіламетраў шпацыру па харошай дарозе сярод густога лесу. Толькі ад адных прагулак як памаладзелі. На шляху да лекавых радонавых ваннаў столькі дзіва — вочы млеюць! Чаго варта адна рака Мендзялееўка. Некалі па яе рэчышчы лава бегла ад вулкана імя Мендзялеева. З-за адной дзівоснай ракі можна ехаць, бо такога нідзе не ўбачыш. Кіньце позірк на мыс Стаўбавы — унікальная з'ява прыроды. Скокніце на Гарачае возера, зірніце на крынічныя вадаскіды. Абамлееце, калі ўбачыце скальныя пальцы, што тырчаць з вады. Мой жа ўскараскаўся на адзін, дык паўдня здымалі. Кажу ж вам, што свету пабачылі і вылечыліся, аж самім не верыцца! Сустракаю каго са сваіх, я дома ўжо два разы была, дык мяне не пазнаюць. Сцвярджаюць у адзін голас: памаладзела! Стромкая стала, як дзеўчына на выданні! Ніхто маіх пяцідзесяці не дае! Мой жа Васіль на мяне вельмі ж так падазрона пазірае. Мо баіцца, каб жа я, маладзенькая, стромкая, вясёлая і імпэтная, ад яго да каго маладзейшага не збегла. У Васіля майго рукі залатыя, ён механікам суднавым у порце працуе. А тэхніку ведае! Ламаны радыёпрыёмнік прынясуць, дык Васіль вечары са два паслепіцца над ім, і скрынка спявае! Як памаладзела я, Васіль мой падахвоціўся, ад мяне не адстае, гэтаксама маладзее! Зарадку штодня робім. Бегаем кругоў дзесяць па двары. Туманок толькі вочы прадзірае, а мы ўжо тэпаем сямейным сіндыкатам у паход за здароўем. Ні хвілінкі не пасяджу, бягом і бягом,— таму і здаровая, што сэрцайка стараецца. Што, не верыце? На мяне зірніце, лепшая агітоўка!

На выходныя дні далёка падарожнічаем, і за трыццаць, і сорак кіламетраў, канечне ж, пешаком. Адно толькі фумарольнае возера чаго варта! У адным кутку вада ледзь не ледзяная, там жа крыніцы падземныя бруяць, а на другім — кіпень з-пад зямлі рвецца, бурбалкі пускае. Нагу сунеш — апячэшся! Убок адбяжыш — ад ягад цёмна, самі ў рот просяцца. Жменю ўкіну — кроў гуляе! Каб жа вы ведалі, колькі на Курылах лекавых раслін! І трапляецца знакаміты жэньшэнь, адно не лянуйся і капай! А ягады! Мой Васіль толькі ягадамі і харчуецца! Змяніўся ў лепшы бок... Смаліць табакі кінуў, не бярэ і гарэлкі, бо здароўе беражэ. Ведама ж, да багацея і прыбывае. Не, анічуць не шкадую, што з Гродні зняласе і паехала...

Увесь імпэтны маналог пачуў ад невысокае жанчыны. Я ўзіраюся ў яе твар, шукаю «маладзецкія» прыкметы, а збоку яе муж Васіль — залатыя рукі, суднавы механік. Шчырая прыемная пара. Запрашаюць мяне на гасціны і частуюць ягадамі, і так ужо хваляць, як той кулік, сваё «лекавае балота» — Курылы.

— Не думайце, што мы жывём, як у цёмным лесе! Нічога не бачым і не чуем, адно мохам абраслі,— апярэджвае маё пытанне Валянціна Патапаўна, так завуць нашу знаёмую,— вольны час па хвілінах распланаваны. Рэпетыцыі хору па пятніцах — раз. Спяваем галасіста, што ў Паўднёвым Сахаліне чуваць! А я салістка! Не паглядайце так недаверліва. Як зацягну «люцікі», дык фіранкі гайдаюцца! Бачыце, і голас у мяне прарэзаўся! Вялікая рэч — лекавы край. Па панядзелках секцыя кветкаводаў збіраецца. Пачакайце, праз два-тры гады і ружы тутака пасадзім. А турысцкая секцыя? А кнігалюбы? Аматары бегу? А вечары «Зямля курыльская»? А вы кажаце, глыбінка! Праз тыдзень мы на дэкаду едзем, аж у Камсамольск-на-Амуры — там краявы фестываль песні.

А Васіль Сцяпанавіч, муж яе, слухае дый пасмейваецца — разышлася кабета, свежага слухача сустрэла, земляка, чаму не пагаварыць.

— Як будзеце ў Гродне і патрапіце на тонкасуконны, прывітанне перадайце. А калі сустрэнеце таго, хто з радыкулітам мучыцца і бухае ад кашлю, як у бочку, то скажыце, хай не вагаецца, а збіраецца на Курылы, на востраў Ітуруп. У першы ж выхадны павядзём на радонавыя крыніцы — паздаравее, верце мне! Выбраўся з хаты і ў дарогу — тут людзі шчырыя, прывецяць!

### ЦЯРПЛІВЫ НАРОД

Жывучы тут, і чакаць навучышся. Ведаеце, як па месяцу самалёта чакаюць, песню высвістваючы. А калі ж збяруцца ў госцікі сябры, а надвор'е такія выкрутасы выкіне, дык два тыдні пройдзе, а сябры не нагаворацца, не наспяваюцца. Цярпліва чакаюць і вестачку з дому, і карабля з далёкага рэйса, і сябра з далёкае вандроўкі.

Такі ж, надзіва спакойны і цярплівы наш зямляк з Магілёўшчыны, паляўнічы Вікенцій Катлубай.

З Вікенціем мы выбраліся да фумарольнага возера і за паўдня ўдосталь нахадзіліся, цяперака насалоджваемся, адпачываем. Наўкола незвычайная цішыня. У дваццаці кроках бяжыць сцежка, ці не адзіная ў наваколлі нітачка ад цывілізацыі — горада Паўднёва-Курыльска да «нечапаных» мясцін.

Вікенцій Катлубай мажны саракавасьмігадовы дзяцюк у штармоўцы, высокіх гумавых ботах і, вядома ж, са стрэльбай. Смяецца, прыгадваючы «байкі», якімі «кармілі» яго землякі, што вярнуліся з Курыл.

— Наслухаўся баек — узяў ды паехаў. Я ж працаваў у Магілёве шафёрам на «цяжкавагавым» бартавіку. І паляванне любіў, і на рыбалства ездзіў, але, што стану лясніччым на Курылах,— не спадзяваўся. Уцягнуўся і, трэба ж, кінуў машыну. Цяперака калі мяне пытаюцца, адказваю: «Няверы! Едзьце на Курылы і ўбачыце ўсе дзівосы!..»

...Перабіраю фотаздымкі, а іх сабралася нямала, за дзень усе не перагледзіш. На кожным куточак адметны і прыгожы, непаўторны. Спыніш позірк на твары цікавага чалавека, вясёлага альбо памяркоўнага, раздумлівага ці, наадварот, бесклапотнага.

На тое і жыццё нашае, з усімі непаўторнымі адценнямі радасці і смутку.

**Вячаслаў ДУБІНКА.**
**Фота аўтара.**

# «КРОТ» АПЕРАЦЫЯ

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Юрый ІВАНОЎ,
Іван МАЙДАНАЎ

## *Рубяжэвічы. Канец сакавіка 1921 года.*

Да Рубяжэвічаў Аперпут дабраўся без прыгод, таму і на сустрэчу з Арловым ішоў з добрым, спакойным настроем.

Падышоўшы да дома, дзе той жыў, рашуча расчыніў дзверы, зрабіў крок у сенцы, зачапіўшы пры гэтым нагой вядро, што стаяла ля самых дзвярэй.

— Каго там чэрці нясуць? — пачуўся голас з пакоя.

Аперпут знерухомеў, заціх. І ў той жа час дзверы з пакоя расчыніліся і перад ім вырасла постаць Арлова.

— Хто вы такі будзеце? — не пазнаўшы ў цемры Аперпута, спытаў ён.

— Гэта я, Спякторскі. Памятаеце?

Арлоў прыжмурыўся, каб больш уважліва разгледзець начнога госця.

— Пазналі? — занепакоена перапытаў Аперпут.— Мы з вамі сустракаліся каля месяца таму...

— А-а-а...— расчаравана працягнуў Арлоў і адступіў у пакой.— Вы... Ну, што ж, заходзьце...

Аперпут увайшоў у цьмянае памяшканне.

— Можаце нічога не тлумачыць, ведаю,— абыякава прамовіў Арлоў.— На той бок, у Саўдэпію, я перапраўлю вас заўтра раніцай, а цяпер кладзіцеся спаць, пан Спякторскі... Так, так, спаць. Усе дэталі абмяркуем перад вашым адыходам. І яшчэ! — падпаручнік нібыта спахапіўся.— Не ўздумайце сноўдацца без справы. Чэка не спіць. Днямі майго лепшага сябра «Барадача» ўзялі... Вы ж яго, здаецца, ведалі...



Ноч Аперпут правёў неспакойна. Ён доўга не мог заснуць, круціўся з боку на бок, уставаў, ціха крочыў па пакоі, зноў клаўся. Сон прыйшоў толькі пад раніцу. І таму, калі Арлоў расштурхаў яго, ён раздражнёна прабурчаў:

— Паспаць чалавеку не дадуць...

Арлоў здзекліва крутнуў галавой:

— Пара!

Пакуль Аперпут мыўся і снедаў, Арлоў выйшаў з хаты і даволі доўга не вяртаўся. Урэшце ён з'явіўся, трымаючы ў руцэ запячатаны канверт.

— Я падрыхтаваў для вас ліст, пан Спякторскі,— сказаў Арлоў.— Вы ўручыце яго маёй жонцы, яна жыве па той бок, у Расіі. На адным з хутароў побач з граніцай. У яе ж атрымаеце неабходныя вам адрасы.

— Ясна. Дзякуй...

— Бачу, вы паснедалі...

— Так, так. Шчыра ўдзячны!

— Тады наперад!

Вывеўшы Аперпута за аколіцу Рубяжэвічаў, Арлоў растлумачыў яму, як лепей ісці, яшчэ раз папярэдзіў аб мерах перасцярогі і абачлівасці, стрымана развітаўся і пакрочыў дадому.

Прайшоўшы даволі хутка каля кіламетра, Аперпут раптам збавіў крок — да яго слыху данёсся тупат конскіх капытоў, аднекуль з таго боку, куды ён якраз і крочыў. Праз нейкую хвіліну з-за павароткі паказаліся два коннікі ў вайсковым адзенні. Убачыўшы іх, Аперпут занерваваўся, спыніўся. Непрыкметна пакідаў у высокую траву грошы, пячатку, пасведчанне, рэвальвер, выдадзеныя яму ў Варшаве.

Коннікі пад'ехалі да Аперпута і спешыліся.

— Дзень добры! — павітаўся адзін з іх, а другі толькі моўчкі кіўнуў галавой.

— Добры дзень,— ціха адказаў Аперпут.

— Куды ідзём?

— Як куды? — са спакойным здзіўленнем перапытаў Аперпут.— Дадому... А вам якая да гэтага справа? Хто вы, прабачце?

Коннікі пераглянуліся.

— Напэўна ж і самі бачыце,— усміхнуўся адзін з іх.— Нарад рабоча-сялянскай міліцыі. Прад'явіце, калі ласка, дакументы.

— Прашу,— Аперпут падаў яму сваё пасведчанне.

Уважліва пазнаёміўшыся з дакументам, міліцыянер пацікавіўся:

— Што ж забрылі так далёка ад Гомеля, грамадзянін Спякторскі? Ажно на граніцу!

Аперпут, хоць і чакаў такога пытання, але ўсё роўна разгубіўся.

— Чаго маўчыце? — здзіўлена спытаў міліцыянер і тут жа звярнуўся да таварыша: — Земчанка! Абшукай на ўсялякі выпадак. Для яснасці!

Земчанка падышоў да Аперпута, уладна распарадзіўся:

— Падніміце рукі!

Хуценька прабег рукамі па адзежы. Аперпут адчуў на спіне лёгкі халадок, у яго перахапіла дыханне, да горла падкаціў непрыемны горкі камяк.

Земчанка выцягнуў з кішэні Аперпута адметны фінскі нож.

— Ого! — здзіўлена выкрыкнуў міліцыянер, падкінуўшы нож у руцэ.— Бач, што носіце ў кішэнях...

Аперпут панурыў галаву.

— Што вы на гэта скажаце, шаноўны? — пацікавіўся старшы нарада.

— Можа, маё тлумачэнне падасца вам легкадумным, але... Словам, я нашу нож на ўсялякі выпадак,— адказаў Аперпут.

— На які яшчэ ўсялякі?

— Ды ці мала што! Самі ведаеце, які цяпер час. Раптам дзе на бандыта натрапіш — ён табе нож пад рабро, а ты?.. Вось і нашу, каб больш спакойна сябе пачуваць.

— І ўсё ж мы вымушаны вас затрымаць.

— А ці варта? — звярнуўся да старшага Земчанка.— Ніякага ж крыміналу. Канфіскуем фінку дый адпусцім. Га?..

Старшы задумаўся на некаторы час, зірнуў спадылба на Земчанку, потым — прыдзірліва, ацэньваючы — на Аперпута і рашуча заключыў:

— Хай будзе так. Вы свабодны, грамадзянін Спякторскі. А нож аддайце.

Аперпут разгублена стаяў на дарозе, а міліцыянеры ўскочылі на коней і памчалі далей.

«Пранесла!..» — з палёгкай падумаў Эдуард Отавіч і перахрысціўся.

Потым ён хуценька расшукаў у траве выкінутыя толькі што рэчы, рассоваў іх па кішэнях і стрымгалоў кінуўся прэч ад месца небяспечнай сустрэчы.

## *Мінск. Канец сакавіка — пачатак красавіка 1921 года.*

Невялікі вёрткі «фордзік», глуха чмыхнуўшы, спыніўся ля абочыны тратуара. З машыны адзін за другім выскачылі некалькі чалавек і праз імгненне зніклі ў пад'ездзе шыкоўнага двухпавярховага асабняка.

Аперпут моўчкі правёў іх насцярожаным позіркам.

— Вось і па Мікалая Іванавіча прыехалі,— прахрыпеў за спіной у Аперпута немалады мужчынскі голас.— Хвацка хлопцы працуюць, нічога не скажаш.

Эдуард Отавіч азірнуўся. За ім стаяў чалавек у брудным, парваным фартуху з аблезлай, як абшчыпанай, мятлой у руках.

— Мікалай Іванавіч мне да кожнага свята чарку прыносіў. Душэўны быў чалавек,— больш сам сабе, чым незнаёмцу, растлумачыў ён.

Аперпут нічога не адказаў, толькі неяк дзіўна ўсміхнуўся і пакрочыў прэч.

Ён хутка знайшоў неабходны яму адрас, які атрымаў ад жонкі паручніка Арлова. Па гэтым адрасу пражываў нейкі Мезін з жонкай. Яго кватэра, паводле задумы контррэвалюцыянераў, павінна была зрабіцца перасылачным пунктам для пошты, якая паступала ў Расію ад Савінкава з Варшавы.

Агледзеўшы дом знадворку і прыкінуўшы магчымыя выхады з яго на выпадак нечаканай небяспекі, Аперпут пастукаў у дзверы.

— Хто? — глуха пацікавіліся там.

— Мне сказалі, што ў вас можна наняць зручны пакой,— нягучна прамовіў Аперпут словы пароля.

— Пачакайце, зараз адчыню.

Праз хвіліну Эдуард Отавіч увайшоў у кватэру.

Мезін да рэвалюцыі служыў у нейкай дробнай установе, якая займалася пытаннямі продажу нерухомай маёмасці. Жыў не ў раскошы, але і асаблівай нястачы не адчуваў. Сваім службовым становішчам быў задаволены. Кастрычніцкая рэвалюцыя крута перавярнула яго жыццё. Кантора перастала існаваць, а новая работа знайшлася не адразу. Асобныя ж яго знаёмыя, суседзі, якія лічыліся ледзь не жабракамі, раптам пайшлі ўгору, сталі на чале некаторых устаноў і нават органаў улады.

Стрываць гэтага Мезін не мог. У васемнаццатым ён упершыню пачуў пра Барыса Савінкава, які ўзняў паўстанне супраць Саветаў у Рыбінску,



Працяг. Пачатак у №№ 11, 12 за 1986 г. і 1—3 за 1987 г.

Мураме, Яраслаўлі. З таго часу гэтае імя стала для Мезіна легендай. А праз год-другі Мезін ужо апынуўся сярод яго людзей, з ахвотай пададаўшыся вярбоўцы савінкаўскага эмісара. Тады ж ён пагадзіўся і з прапановай стаць гаспадаром канспіратыўнай «паштовай скрынкі».

Аперпут змераў Мезіна асцярожным, недаверлівым позіркам, потым бесцырымонна прайшоў у пакой, агледзеў яго, зазірнуў на кухню і, не знайшоўшы нічога падазронага, адрэкамендаваўся гаспадару:

— Спякторскі Павел Іванавіч, ад Арлова...

— Так, так! Канечне, ад Арлова,— хуценька, заківаўшы галавой, прамармытаў Мезін.— Пачастуецеся?

— Чаго ж не? — з ахвотай пагадзіўся Аперпут.

— Тады хвілінperiodачку, я зараз што-небудзь прыдумаю. Жонка спіць, дык я ўжо сам... Хвілінку...— і Мезін, паціраючы рукі, заспяшаўся на кухню.

Аперпут сядзеў спакойна, думаў пра сваё.

Урэшце Мезін скончыў збіраць на стол, звярнуўся да госця:

— Калі ласка, за стол, шаноўны Павел Іванавіч. Ды прабачце за сціплы частунак. Не дужа цяпер разгонішся. Але вось усё ж, чым багатыя... Што бог паслаў.

— Дзякуй, я не з пераборлівых.

— Можа, крыху гарэлачкі? Для апетыту?

— Не, дзякуй. Стараюся не ўжываць. Стаміўся, ведаеце...

— Чаго ж так?

— Жыццё неспакойнае.

— Так, так... Канечне...

Аперпут еў, не спяшаючыся, а Мезін, які размясціўся на канапцы насупраць госця, усё сыпаў і сыпаў словамі, найбольш націскаючы на тое, што жыццё стала дарагім, прадуктаў не дастаць...

Аперпут спакойна слухаў гаваркога гаспадара і еў. Потым адсунуў убок парожнюю талерку, пацягнуўся за чайнікам. Мезін падскочыў з месца і ўзяў гэты клопат на сябе.

Аперпут невялікімі глыткамі выпіў чай, адкінуўся на спінку крэсла, дзелавіта канстатаваў:

— Дарэмна крыўдуеце на жыццё. Другія маркоўны чай за шчасце лічаць, а вы натуральным не задаволены.

Мезін не змог схаваць самазадаволенасці:

— Ды гэта ж са старых запасаў, пан Спякторскі. Цяпер такое шалёных грошай каштуе. Толькі дзе іх узяць?.. О, як патрэбны грошы!

— Грошы, кажаце? — усміхнуўся Аперпут.— Яны цяпер усім патрэбны. Так што давайце лепей пра што іншае. Пра справу нашу пагаворым.

— Давайце пра справу,— пакрыўджана пагадзіўся Мезін.

— Значыць, так,— тонам начальніка прамовіў Аперпут.— Ваша кватэра вызначана намі як канспіратыўная «паштовая скрынка». Праз яе будзе перадавацца адпаведная карэспандэнцыя з Расіі на Захад і назад. Вам, мяркую, няма неабходнасці тлумачыць, што гэта вельмі адказнае даручэнне.

Той праглынуў сліну і кіўнуў галавой.

— Цудоўна! — працягваў Аперпут.— Запомніце адну ісціну. Ваша кватэра ніколі, нідзе, ні ў якім выпадку не павінна быць дэшыфравана. У адваротным выпадку ваша астатняе жыццё пройдзе ў засценках чэка. Пароль для кур'ераў, якія будуць прыходзіць да вас, застаецца ранейшым. Мы будзем плаціць за карыстанне вашай кватэрай грошы. У асноўным, валютай... Пытанні ёсць?

— Якія могуць быць пытанні?

— Вось гэта па-мужчынску.

Пачуўшы пра валюту, Мезін прыкметна палагаднеў.

Аперпут прабыў у Мезіных яшчэ суткі, пасля чаго выехаў у Гомель.

### ТЭЛЕГРАМА

**«Тэрмінова. Сакрэтна. Масква. ВЧК.**

**З Гомеля.**

**Намі атрыманы звесткі аб існаванні ў Гомелі падпольнай контррэвалюцыйнай арганізацыі, якой кіруе Барыс Савінкаў. Меры па выяўленні арганізацыі прыняты.**

**Воленберг.»**

## *Гомель.*
## *Пачатак красавіка 1921 года.*

Сонца яшчэ толькі ўзышло над гарызонтам, а ў памяшканні чэка ўжо ішла напружаная работа. Тут і раней не дужа клапаціліся пра тое, каб поўнасцю вычарпаць адведзены на сон час, а сёння тым больш: чакалі прыбыцця з Масквы, па даручэнню Дзяржынскага, спецыяльнай аператыўнай групы ВЧК, у складзе якой былі Сасноўскі, Пузіцкі і Браўдэ. Воленберг сабраў у сваім кабінеце нараду. Старшыня губчэка абмаляваў маскоўскім таварышам аператыўнае становішча ў Гомелі, пасля чаго з ліку чэкістаў былі створаны дзве групы: аператыўная і следчая. Ім і належала раскрыць, выявіць усіх удзельнікаў контррэвалюцыйнай арганізацыі Савінкава. Чэкістаў чакала адказная, карпатлівая і небяспечная работа, завяршыць якую неабходна было як мага хутчэй.

У гэты ж дзень Воленберг падпісаў ордэр на вобыск кватэры і арышт падазронага ў дзейнасці падпольнай контррэвалюцыйнай арганізацыі Масаніна.

Набліжалася поўнач, калі чэкісты апынуліся каля прысадзістага дома непадалёк ад гарадской гімназіі, амаль у цэнтры горада.

Чэкісты, стараючыся не ўсчыняць шуму, падняліся на другі паверх, спыніліся ля кватэры нейкіх Зянкевічаў, дзе якраз і наймаў пакой Масанін.

Аляксееў, прачытаўшы маўклівую згоду ў позірках таварышаў, патрабавальна пастукаў ручкай пісталета ў дзверы. Некалькі імгненняў за дзвярамі і тут, на калідоры, трымалася глухая цішыня.

Урэшце з пакоя пачуўся малады мужчынскі голас:

— Хто там?

— Адчыняйце, чэка!

Дзверы, пранізліва рыпнуўшы, расчыніліся, і Аляксееў убачыў хударлявага хлопца гадоў дваццаці з ускудлачанымі густымі русымі валасамі. Аляксееў адразу пазнаў у ім былога аднакашніка па гімназіі Стэфана Зянкевіча. Ён нават усміхнуўся знаёмаму, а той толькі незаўважна кіўнуў галавой, паспешліва зашпільваючы сваю студэнцкую тужурку. Маці Стэфана, гэткая ж хударлявая, як і сын, пажылая жанчына, прытрымліваючы сухенькай рукой крысо халата і ўсёй істотай уціснуўшыся ў кут пакоя, спужана пазірала на чэкістаў.

— Пакажыце, калі ласка, дзе знаходзіцца пакой вашага кватаранта? — ветліва пацікавіўся Аляксееў у гаспадыні. Ён ведаў гэтую жанчыну як сумленнага, сціплага чалавека, удаву чырвонага байца, які загінуў у 1919 годзе, абараняючы пралетарскую рэвалюцыю.

— Праходзьце, ён дома,— адказаў за перапалоханую маці Стэфан і паказаў рукой на дзверы ў канцы калідора.

У гэты час дзверы расчыніліся і насустрач чэкістам выйшаў сам Масанін. Ён быў без фрэнча, у чыстай споднян кашулі, штанах і хатніх пантофлях.

— Нехта цікавіцца мной? Я не памыліўся? — спытаў ён голасам дарэмна патрывожанага чалавека.

— Не памыліліся,— Аляксееў наблізіўся да Масаніна ўшчыльную.

— Што-небудзь здарылася, таварышы? Мяне выклікаюць у ваенкамат? Чаму так позна? — здзіўлена прадэкламаваў Масанін.

— У ваенкамат вас не выклікаюць,— Аляксееў паказаў Масаніну свой мандат, а таксама ордэр на вобыск і арышт.

— Цікава! — выгукнуў Масанін.— Што ж, запрашаю ў пакой, таварышы. Здарылася нейкая памылка. Вы неўзабаве самі пераканаецеся ў гэтым,— захоўваючы знешні спакой, працягваў Масанін.

Чэкісты запрасілі з суседняй кватэры панятых і пачалі пільны вобыск, які працягваўся больш за паўтары гадзіны, але ніякага выніку не даў.

— Я ж казаў, што гэта памылка,— зноў упэўнена прамовіў Масанін.

У гэты час Марчанка, апусціўшыся на калена, пачаў выграбаць з галандскай грубкі качаргой попел.

Масанін увесь наструніўся, яму ў твар ударыла чырвань.

Пачуўся кароткі глухі ляск — у таз з грубкі вывалілася бляшаная скрынка.

Аляксееў не зводзіў вачэй з Масаніна. А той, адчуўшы чужы позірк, узяў сябе ў рукі, нават крыху расслабіўся. На яго твары не здрыгануўся ніводзін мускул.

Марчанка між тым падчапіў вечка скрынкі нажом, і яна адчынілася.

— Божухны! — здзіўлена прамовіў Церпігораў, які стаяў побач.— Грошы! Ды яшчэ не нашы, замежныя...

— Замежная валюта,— удакладніў Браўдэ, схіліўшыся над скрынкай.

Аляксееў пільна паглядзеў на Масаніна:

— Адкуль гэта ў вас?

— З гэткім жа пытаннем магу звярнуцца да вас і я...

— Не стройце дурня, Масанін!

— Калі ласка, адкажу сур'ёзна. Я ўпершыню бачу гэтую скрынку. Як і вы.

— Можа, ваша? — звярнуўся Аляксееў да гаспадыні.

Тая адчайна замахала рукамі:

— Што вы? Як вы можаце? Мы сумленныя людзі,— жанчына машынальна перахрысцілася.

Займалася на дзень. Разам з Масанінам Аляксееў запрасіў у чэка ў якасці сведкі і Зянкевіча. Больш таго, прадчуванне падказвала яму, што не толькі сведкам можа быць Зянкевіч...

## *Варшава.*
## *Пачатак красавіка 1921 года.*

Таксі — старэнькі «фіят» чорнага колеру, рыпнуўшы тармазамі, спынілася ля абочыны тратуара, насупраць магазіна «Жаночыя капелюшы». З машыны выйшла высокая, статная жанчына гадоў трыццаці, апранутая з добрым,



нават вытанчаным густам. Гэта была Любоў Дзікгоф-Дзеранталь, жонка савінкаўскага хаўрусніка і палюбоўніца самога Барыса Савінкава. Ганарыста падняўшы галаву, яна павольна пайшла ў магазін.

— Пані Дзеранталь! — пачуўся ў яе за спінай мужчынскі голас.

Жанчына азірнулася, яе твар асвяціўся прыязнай усмешкай:

— О-о! Вітаю вас, вітаю.

— Дзень добры!

Мужчына наблізіўся да яе. Гэта быў малады — гадоў трыццаці пяці — чалавек, сярэдняга росту, з выдатным атлетычным складам. Яго акуратная кароткая стрыжка, добра адпрасаваная кашуля, модны гальштук, наваксаваныя да бляску туфлі ў давяршэнне да прыемнай знешнасці надавалі яму выгляд камерсанта, які робіць вялікі поспех у сваіх справах. Мужчына не без захаплення глядзеў на пані Дзеранталь.

— Шчыра кажучы, не чакаў вас сёння сустрэць,— прамовіў ён.— Таму яшчэ больш уражаны сустрэчай. Вы ў магазін?

— Хачу набыць капялюшык на лета,— адказала Дзеранталь, якая — па ўсім было відаць — не супраць пагаманіць з прыемным мужчынам.

— Дазвольце вас суправаджаць.

— О, канечне, канечне!

Яны зайшлі ў магазін. Дзеранталь адразу ж прывычна падышла да стэлажа, дзе былі выкладзены самыя розныя жаночыя капялюшыкі, доўга перабірала іх, кансультавалася са спадарожнікам. Урэшце паказала прадаўцу на элегантны саламяны капялюш з шаўковай блакітнай стужкай:

— Бяру гэты.

— У вас выдатны густ, пані Дзеранталь. Дазвольце мне заплаціць за гэты сціплы падарунак для вас,— сказаў спадарожнік, дастаючы з кішэні партаманет.

— Вы ўжо і так зрабілі для мяне вельмі многа,— нерашуча запратэставала жанчына.

— Гэта дробязь. І не адмаўляйце мне, калі ласка. Я неўзабаве ад'язджаю ў Англію і хачу, каб у вас застаўся напамінак пра мяне.

— Вось як? А я і не ведала... Шкада, вы вельмі сімпатычны джэнтльмен, пан Уэнберг.— Дзеранталь міла ўсміхнулася яму.— У такім выпадку я прымаю ваш падарунак.

Дзеранталь і Уэнберг выйшлі на вуліцу.

— Як вы паставіцеся да прапановы выпіць па кубачку кавы? — пацікавіўся Уэнберг.— Я ведаю паблізу даволі прыстойную кавярню.

— Увогуле ў мяне мала часу, але... вам цяжка адмовіць.

Кавярня, якую прапанаваў Уэнберг, сапраўды была даволі ўтульная. Яна знаходзілася воддаль ад шумных вуліц цэнтральнай часткі Варшавы, і наведвальнікаў тут было нямнога. Не надакучала і спакойная, крыху меланхалічная музыка.

— Мне тут падабаецца,— адзначыла Дзеранталь.

— Расцэньваю вашы словы як камплімент для сябе, мілая Люба. Дазвольце мне вас так называць?

— Зрабіце ласку... А я, пан Уэнберг, хачу яшчэ раз падзякаваць вам за тую матэрыяльную падтрымку, якую вы мне аказалі. Я тады мела надзвычай вялікую патрэбу ў грашах... Вы мяне проста выручылі.

— Дзякаваць павінен я,— чыркаючы запальнічкай, адказаў Уэнберг.— Матэрыял, які вы мне перадалі, гэта сапраўдная газетная сенсацыя. Ён узрушыць свет, узбударажыць палітыкаў, раскатурхае соннага абывацеля. Так-так! Паверце мне, прафесійнаму журналісту. Я ведаю, што тут да чаго!

— Мне прыемна чуць вашу ацэнку,— асцярожна адказала Дзеранталь.— І я спадзяюся, вы памятаеце, што абяцалі надрукаваць яго толькі пасля таго, як Барыс Віктаравіч скруціць бальшавікам шыю. Калі гэты план трапіць на старонкі прэсы цяпер, то мы асуджаны...

— Я памятаю сваё абяцанне і выканаю яго,— запэўніў субяседніцу Уэнберг.— Дарэчы, калі Савінкаў мяркуе пачаць баявыя дзеянні супраць Саветаў? Пан Чэрчыль з нецярпеннем чакае гэтага шчаслівага дня.

Дзеранталь хітравата ўсміхнулася, папраўляла рукой пасму валасоў:

— Вы пытаецеся пра недазволенае, пан Уэнберг. Я гэтага проста не ведаю, і Савінкаў, натуральна, не пра ўсё мне гаворыць...— Дзеранталь запнулася, памаўчала.— Вы падобны на шпіёна, пан Уэнберг.

— Няўжо? — усклікнуў той і гучна, але не зусім натуральна рассмяяўся.

— Жартую, канечне. Вы, напэўна, не змаглі б выконваць такую работу.

— Чаму?

— Як вам сказаць?.. Вы вельмі прастадушны і, па-мойму, даверлівы.

— Ваша праўда, Люба,— пацвердзіў Уэнберг.— Я сам за сабой такое заўважаю...

## *Гомель. Пачатак красавіка 1921 года (праз дванаццаць гадзін пасля арышту Масаніна).*

Зянкевіч, якога прывялі ў кабінет Аляксеева, прама з парога ўсхвалявана загаварыў:

— Вы б мяне адпусцілі, таварыш Аляксееў. Маці дома адна, хвалюецца... Вы ж мяне добра ведаеце, таварыш Аляксееў.

Празмернае хваляванне хлопца яшчэ больш насцярожыла Аляксеева, зноў прымусіла падумаць, што ён зусім невыпадковы ў гэтай справе чалавек.

— Калі за вамі няма віны, няма чаго і баяцца. У чэка ж не варвары працуюць, а нармальныя людзі,— спакойна адказаў чэкіст і раптам, нечакана нават для самога сябе, дадаў: — А калі чэсна, то я вельмі хачу дапамагчы вам выправіць вашу памылку. Хоць бы часткова.

— Якую памылку? — спуджана перапытаў той.

— Вашу памылку. Масанін — вораг Савецкай улады, і вы гэта ведаеце. У вас зараз ёсць магчымасць чыстасардэчна расказаць пра ўсё, што вас звязвае з Масаніным, і гэтым самым палегчыць свой лёс,— адчуваючы, што трапіў у кропку, Аляксееў гаварыў строга і ўпэўнена.

— Я нічога не ведаю,— адводзячы погляд убок, няўпэўнена адказаў Зянкевіч.

— Я заўсёды лічыў вас сур'ёзным маладым чалавекам, а вы...— Аляксееў махнуў рукой.— Вы так нічога і не зразумелі. І мне шкада не вас, а вашу маму. Ды памяці пра вашага бацьку, які склаў галаву за Савецкую ўладу... Вось вы, Стэфан, маўчыце, нешта тоіце, а ці ведаеце вы, што гэта яны, белыя афіцэры, якім вы зараз дапамагаеце, узнялі вашага бацьку на штыкі?

Зянкевіч сядзеў скамянелы, не ведаючы, што адказаць. Потым падняў на Аляксеева вочы:

— Адкуль вы гэта ведаеце?

— Я ж чэкіст. Гэтым, спадзяюся, усё сказана.

Зянкевіч абмяк, увабраў галаву ў плечы, паглыбіўся ў сябе.

Аляксееў стомлена чакаў, што будзе далей. Урэшце Зянкевіч, сціснуўшы да белізны ў суставах пальцы ў кулак, прамовіў:

— Я ўсё скажу. Я не вінаваты. Толькі дапамажыце мне. У імя маёй маці.

Аляксееў супакоіў хлопца:

— Добра. Я ж вам ужо гэта абяцаў. Але пры адной умове: не лгаць! Гаварыць толькі праўду. Зразумела?

Зянкевіч і не думаў маніць. Праўда, кіраваў ім не столькі жаль да маці, колькі боязь адказнасці, страх за сваё ўласнае жыццё, над сэнсам якога ён, дарэчы, ніколі сур'ёзна не задумваўся. Мабыць, таму Масанін і змог прыцягнуць яго да работы ў арганізацыі.

— Скажыце, Зянкевіч, якую работу вы выконвалі ў арганізацыі?

— Я быў кур'ерам.

— На якой лініі вы працавалі?

— На лініі Гомель — Мінск,— Зянкевіч з сумам у вачах паглядзеў на Аляксеева.— А хіба гэта так важна? Я ж не адмаўляю свайго ўдзелу ў арганізацыі.

І Аляксееў з сумам, нават з жалем, пазіраў на свайго аднагодка, былога аднакашніка, з якім жыццё развяло яго на розныя бакі барыкады.



Толькі тут, па гэты бок барыкады, людзям свяцілі прамяні веры і надзеі, а там, па другі бок, быў тупік...

— Давайце зробім так,— працягваў Аляксееў.— Вось вам ручка і папера. Напішыце падрабязна пра ўсё, што вам вядома з дзейнасці арганізацыі. Дакладна ўказвайце прозвішчы, адрасы, дэталі. А пагаворым потым. Згодны?

— Добра...

Арыштаванага павялі, і Аляксееў паглыбіўся ў роздум. На душы было неспакойна: а што, калі Зянкевіч перадумае ці пачне хітраваць? Ён жа, па сутнасці, з'яўляецца пакуль адзінай зачэпкай у справе пад кодавай назвай «Крот». Аперпут не дае ніякіх канкрэтных падстаў для абвінавачання. «Барадача» забілі. Масанін катэгарычна адмаўляецца ад дачы паказанняў. Толькі вось ён, Стэфан Зянкевіч. Ён наўрад ці з'ўляецца ідэйным ворагам Савецкай улады. Хутчэй за ўсё, на шлях злачынства супраць рэвалюцыі стаў несвядома. Слова «змагар» у тыя гады многім з маладых людзей п'яніла галовы.

Аляксееў зірнуў на гадзіннік. Хоць час і быў позні, ён усё ж вырашыў зайсці да Воленберга і далажыць пра допыт Зянкевіча, параіцца наконт далейшых дзеянняў.

— Можна, Мікалай Львовіч? — спытаў Аляксееў, адчыніўшы дзверы кабінета старшыні губчэка.

Воленберг адарваўся ад папер, паглядзеў на свайго намесніка:

— Заходзь, Уладзімір Паўлавіч. Сядай!

— Я па справе.

— Трэба думаць, па справе. Усё роўна сядай,— Воленберг абняў Аляксеева за плечы, пасадзіў на крэсла.— Давай, выкладвай, што там у цябе.

Аляксееў расказаў падрабязнасці допыту.

— Гэта цікава. Значыць, нашы здагадкі пацвярджаюцца.— Ён прайшоўся па кабінеце, пасля ўладкаваўся на ражку стала.— Як толькі Зянкевіч усё напіша, бяры яго паказанні і — да мяне. А што Масанін?

— Пакуль нічога істотнага. Гаворыць толькі тое, пра што мы і без яго ведаем. Хітры!

— Зразумела... Сам ведаеш, нам яго паказанні таксама вельмі патрэбны.

Гаворка зацягнулася. У сітуацыі, што склалася, ад чэкістаў патрабаваліся дакладныя, прадуманыя, узгодненыя і энергічныя дзеянні.

Раніцой наступнага дня Аляксееў запрасіў на допыт Зянкевіча і, як толькі арыштаванага ўвялі, адразу ўбачыў, што той ноч не сплюшчваў вачэй.

— Напісалі?

— Так,— Зянкевіч падаў Аляксееву густа спісаныя лісткі паперы.

Чэкіст бегла зірнуў на паперы, але чытаць пакуль не стаў, адклаў на край стала:

— Вас зараз адвядуць у камеру. Вам трэба выспацца.

— Не да сну мне,— панура азваўся Зянкевіч.

— Я вас разумею. І тым не менш, жыццё не канчаецца. Вы ўжо зрабілі першы крок на шляху да ачышчэння. Набірайцеся сілы для наступных.

— А хіба мяне не расстраляюць?

— Хто вам гэта сказаў?

— Масанін. Чэка, маўляў, усіх да сценкі ставіць.

Аляксееў шчыра рассмяяўся:

— Ну і балбатун, ваш Масанін. Чэка не чыніць беззаконнасці, а змагаецца з ёй. Нашы дзеянні — гэта воля працоўнага народа. Што тычыцца вышэйшай меры пакарання — расстрэлу, то яе, кіруючыся законам, можа вынесці толькі рэвалюцыйны трыбунал.

— Значыць, мой шлях у трыбунал?

— Гэта вырашыць следства. Вашы чыстасардэчныя прызнанні і раскаянні будуць улічаны. А цяпер ідзіце і адпачывайце. Вам гэта проста неабходна.

Аляксееў ведаў, што яго ўжо чакае Воленберг.

(Працяг будзе.)

Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ

**Аддзел вядзе адвакат Аляксандр КРАЎЧАНКА.**

**Растлумачце, калі ласка, хто мае права на спадчыну, калі нябожчык не зрабіў завяшчання! І ў якіх выпадках грамадзянін можа быць пазбаўлены спадчыны!**

**Волкаў М.**

Атрыманне спадчыны можа быць паводле закона і паводле завяшчання. Паводле закона спадчына пераходзіць, калі няма завяшчання або завешчана толькі частка маёмасці ці спадчыннік не прыняў яе. Існуе 2 чаргі спадчыннікаў паводле закона.

Адпаведна артыкула 527 Грамадзянскага кодэкса БССР, да першага шэрага належаць, у роўных частках, дзеці, бацькі, муж або жонка памёршага, а таксама дзіця, якое нарадзілася пасля яго смерці.

У другую чаргу атрымліваюць спадчыну сёстры і браты памёршага, яго дзед і баба — з боку бацькі і з боку маці. Але гэтыя спадчыннікі могуць атрымаць спадчыну толькі пры адсутнасці спадчыннікаў першай чаргі або калі ўсе з першага шэрага пазбаўлены завяшчальнікам права на спадчыну.

Да ліку спадчыннікаў паводле закона адносяцца таксама і непрацаздольныя, якія былі на ўтрыманні памёршага не менш чым год да яго смерці. Яны маюць права на спадчыну нароўні са спадчыннікамі той чаргі, якая яе атрымлівае.

...У народны суд паступіла заява ад грамадзянкі Г. аб пазбаўленні права на спадчыну яе мужа. Ісціца прасіла суд пазбавіць адказчыка права на спадчыну пасля дачкі на той падставе, што ў перыяд яе непаўналецця бацька злосна ўхіляўся ад выплаты аліментаў.

На судовым пасяджэнні бацька называў сваю дачку ласкава і пяшчотна, паказваючы, што гора яго няўцешнае.

— Мы з дачушкай любілі адно аднаго, у нас былі вельмі добрыя ўзаемаадносіны,— расказваў ён на судзе.— Мяне менш за ўсё цікавіць спадчына, проста я хачу мець на памяць рэчы, якія належалі дачушцы.

У судзе ж было ўстаноўлена, што той звярнуўся да натарыуса з просьбай выдаць сведчанне аб праве на спадчыну праз тыдзень пасля пахавання дачкі. Калі дачцэ споўнілася чатыры гады, яе маці была вымушана спаганяць аліменты. Але гэта было нялёгкай справай: бацька пастаянна мяняў месцапражыванне і месца работы. Міліцыя знаходзіла «бегуна». І так чатырнаццаць гадоў. І за гэты час ніводнага пісьма з пытаннем, як жыве яго дачка, як вучыцца, як яе здароўе. Толькі аднойчы прыслаў ёй танную сукенку. І ўсё.

Ні на адно пытанне — ці хварэла дачка, як вучылася, чым захаплялася — не мог адказаць «забіты горам» бацька.

Суду былі дадзены два сшыткі — дзённік дзяўчыны. У ім яна цёпла адзывалася аб маці, пісала аб цяжкасцях, якія былі ў жыцці сям'і. І толькі ў адным месцы пра бацьку: «Сёння каля магазіна нейкі неахайны мужчына папрасіў у мяне 15 капеек. Мне на хвіліну здалося, быццам гэта мой бацька. Дала яму грошы, а сама села на лаву каля магазіна і чамусьці расплакалася — было шкада сябе ці бацьку — не ведаю. Але стала лягчэй. І пуста... у душы пуста, пуста...»

Рашэннем народнага суда адказчык быў пазбаўлены права на спадчыну пасля смерці сваёй дачкі.

**У Канстытуцыі СССР запісана, што абвінавачваны мае права на абарону. А як ён можа абараніць сябе, выкарыстаць гэтае сваё права, ён жа не юрыст!**

**Г. Германава.**

Закон не толькі дае абвінавачванаму права на абарону, але і забяспечвае гэта права. У крымінальным судаводстве права на абарону гарантуецца сукупнасцю працэсуальных правоў, прадастаўленых для абвяржэння абвінавачання ў зробленым злачынстве ці змякчэння адказнасці. І абавязкам суда, пракурора, следчага і асобы, што робіць дазнанне, забяспечыць абвінавачваваму магчымасць абараняцца зацверджанымі законам сродкамі і спосабамі ад прад'яўленага яму абвінавачвання і забяспечыць ахову яго асабістых і маёмасных правоў.

Абвінавачваны мае права: даведацца, у чым ён абвінавачваецца, і даваць тлумачэнні па прадстаўленаму яму абвінавачванню; прадстаўляць доказы; знаёміцца пасля заканчэння папярэдняга следства ці дазнання з усімі матэрыяламі справы; мець абарону; удзельнічаць у судовым разборы; заяўляць адводы; падаваць скаргі на дзеянні асобы, якая праводзіць дазнанне, следчага, пракурора і суда.

Закон абавязвае суд, пракурора, следчага і асобу, якая праводзіць дазнанне, прыняць усе прадугледжаныя законам меры для ўсебаковага, поўнага і аб'ектыўнага даследавання справы, выявіць як выкрывальныя, так і апраўдальныя, а таксама змякчаючыя абставіны, ці тыя, якія абцяжарваюць яго адказнасць. Прымушэнне даць паказанні сілай, пагрозамі і іншымі незаконнымі дзеяннямі з боку асобы, што праводзіць дазнанне, ці папярэднім следствам караецца пазбаўленнем волі.

Абараняцца — гэта права, а не абавязак абвінавачванага. Ён можа актыўна абараняцца, а можа для гэтага нічога не рабіць. Абвінавачваны не лічыцца вінаватым да той пары, пакуль яго віна не будзе даказана ва ўстаноўленым законам парадку і ўстаноўлена ўступіўшым у законную сілу прысудам. Гэты прынцып носіць назву «прэзумпцыі невінаватасці» і накіраваны ён на забеспячэнне законнасці крымінальнага судаводства, ахову правоў і законных інтарэсаў абвінавачванага, абарону невінаватых ад незаконнага і беспадстаўнага асуджэння.

Удзел абаронцы ў крымінальным судаводстве — адна з важнейшых форм здзяйснення канстытуцыйнага права на абарону. Правы абаронцы вялікія. Ён можа мець спатканні з абвінавачваным, прычым сам-насам без абмежавання працягласці спаткання, можа знаёміцца з усімі матэрыяламі справы, прадстаўляць доказы, заяўляць хадайніцтвы. Абаронца выказвае суду свае меркаванні па сутнасці абвінавачвання, па абставінах, якія змякчаюць адказнасць, па меры пакарання. Як правіла ў ролі абаронцы выступае прафесійны юрыст-адвакат. Яго задача прадухіліць асуджэнне невінаватага ці прадухіліць несправядлівае суровае пакаранне.

Вось адзін прыклад. Грамадзянін Прошын абвінавачваўся ў тым, што па прычыне рэўнасці забіў грамадзяніна Мікалаева, нанёсшы яму ўдар малатком па галаве. Па версіі абвінавачвання Прошын вярнуўся з камандзіроўкі, на вакзале яго сустрэла нявеста Ліпская. Ад яе Прошын даведаўся, што ў час яго адсутнасці Мікалаеў дамагаўся блізкасці з ёю. Як сцвярджала абвінавачванне, Прошын з вакзала паехаў на кватэру Мікалаева і забіў яго. Прошын поўнасцю прызнаваў сябе вінаватым. Аналізуючы матэрыялы справы, адвакат прыйшоў да вываду, што прызнанне Прошына неперакананўчае, што ў справе ёсць шэраг няпэўных довадаў. Адвакат устанавіў, што поезд у той дзень прыбыў не ў 22 гадзіны, як прадугледжана раскладам, а спазніўся на 2 гадзіны 8 мінут. Паколькі ў справе мелася катэгарычнае сцвярджэнне экспертызы аб наступленні смерці паміж 20 і 23 гадзінамі, а таксама некаторыя іншыя доказы забойства да 23 гадзін, адвакат заявіў хадайніцтва аб накіраванні справы на даследаванне. У выніку было ўстаноўлена, што Мікалаеў сапраўды дамагаўся блізкасці з Ліпскай і ў час барацьбы яна забіла яго ўдарам малатка. Жадаючы пазбавіць ад адказнасці каханую жанчыну, Прошын узяў віну на сябе. Так была ўстаноўлена ісціна і адведзены самаабгавор.

Строгае выкананне следствам і судом патрабаванняў закона практычна выключае вынясенне незаконных і неабгрунтаваных прысудаў. Разам з тым бываюць факты неглыбокага даследавання абставін справы, недастатковая глыбокай праверкі следствам і судом доказаў абвінавачванага, адсутнасці належнай адказнасці. Таму Міністэрства юстыцыі БССР, Вярхоўны Суд БССР, МУС рэспублікі прымаюць рашучыя і сур'ёзныя меры для ўхілення падобных парушэнняў.




# ДЗЯКУЙ ЗА КРЫТЫКУ!..

**Дырэктару навукова-даследчага інстытута па вывучэнню праблем і пытанняў бяспекі руху і безаварыйнай работы транспарту тав. КАСАТКІНУ І. С.**

Вось ужо тры дні мінула пасля таго сходу, на якім вы з усёй прынцыповасцю распатранілі наш аддзел, а я і сёння не магу дайсці да розуму.

Ваша справядлівая крытыка адразу прымусіла мяне задумацца. Над выпраўленнем становішча ў аддзеле я разважаў і думаў не толькі ў сценах нашай аўтарытэтнай установы, а і за яе межамі — па дарозе дамоў. Шукаў і не знаходзіў шляхоў, па якіх нам трэба ісці далей, гэта значыць — наперад. На хаду падбіраў артыкулы і параграфы, прымяркоўваючы іх да гультаёў, парушальнікаў дысцыпліны і безыніцыятыўных работнікаў з мэтай выкурыць іх. Вельмі ўсхвалявалі мяне і поўная неразбярыха ў штатным раскладзе, затрымка з набыццём новага абсталявання. У вушах звінелі вашы словы і ўказанні наконт стварэння творчай атмасферы, павышэння адказнасці... У выніку новыя ідэі і планы лезлі і напіралі на старыя нявырашаныя пытанні, якія нараджалі яшчэ больш складаныя праблемы. Нарэшце там (у маёй галаве) утварылася каша. Я ўжо дрэнна арыентаваўся ў навакольным гарадскім асяроддзі і ў 18 гадзін 22 мінуты на поўным ходу ўрэзаўся ў трамвай.

Адчуваю сябе добра. Але трамвай, атрымаўшы пашкоджанні ў выглядзе скразной прабоіны, пайшоў не па рэйках і нарабіў шмат бяды. Цяпер на розныя рамонтна-аднаўленчыя работы патрэбна значная сума грошай. Таму прашу аказаць мне матэрыяльную дапамогу. Каб не хваляваць вас, тут суму не ўказваю. Яе паведаміць мая жонка вусна.

Яшчэ раз дзякую за шчырую крытыку на сходзе. Працягваю думаць і разважаць над пытаннямі рэзкага паляпшэння работы, наводзення ў аддзеле парадку і дысцыпліны.

З павагай
загадчык аддзела тармазоў
і святлафораў НДІ БРБРТ
**БЫСЬКІН Л. В.**

✦

**Тав. КАСАТКІНУ І.**

Паводле маіх падлікаў, наш аддзел выйдзе ў передавыя дзесьці праз месяцаў восем — дзевяць. Але для гэтага мне трэба хутчэй прыступіць да выканання сваіх непасрэдных службовых абавязкаў. Не апошнюю ролю тут адыгрывае і рамонт трамвая. І мяне вельмі здзіўляе затрымка з аказаннем матэрыяльнай дапамогі. У сувязі з гэтым далікатна вас папярэджваю і на ўсякі выпадак даю некалькі сігналаў у вышэйстаячыя інстанцыі.

**БЫСЬКІН Л.**

**Былому дырэктару НДІ БРБРТ КАСАТКІНУ.**

Вашы прабачэнні і паведамленне, што вы ўжо не дырэктар НДІ, мне цяпер патрэбны так, як зайцу стоп-сігнал. Дурню зразумела: прычынай здарэння з'явілася ваша бяздумерная крытыка на сходзе ў адрас нашага аддзела, які плануе праз восем — дзесяць месяцаў выйсці ў перадавыя.

Прашу праінфармаваць і новага дырэктара, што Быськін Луферый Вавілавіч (гэта — я!) не дазволіць спусціць справу на тармазах. А яна ўскладнілася. Пры паўторнай экспертызе з удзелам мяне і трамвая сур'ёзна пашкоджана яшчэ адна транспартная адзінка. Бо я не мог без маральнай, а тым больш матэрыяльнай дапамогі добра арыентавацца ў экстрэмальных умовах. Гэтаму перашкаджалі таксама цяжкія думкі і разважанні пра становішча ў аддзеле, нявырашаныя праблемы, эканамічны эфект ад распрацовак і, нарэшце, лёс усяго інстытута...

З дапамогай дактароў і кампетэнтных органаў сёння яшчэ раз пацверджан вывад: вашы бяздумныя і безразважлівыя дзеянні на сходзе, а пасля — нежаданне прыйсці чалавеку на дапамогу зноў на шэсць гадзін паралізавалі рух усяго гарадскога транспарту. І цяпер ужо я не магу не даваць сігналы ў вышэйстаячыя інстанцыі з мэтай атрымання матэрыяльнай дапамогі і выратавання свайго аўтарытэту, а таксама прэстыжу ўсяго нашага (а не вашага) інстытута.

Што датычыць мяне, то па-ранейшаму гару жаданнем прыступіць да рэалізацыі крытычных заўваг, выказаных на сходзе. Спадзяюся, новае кіраўніцтва таксама выправіць памылкі, і тады наш аддзел выйдзе ў перадавы датэрмінова — праз месяцаў сем — восем. У сувязі з гэтым яшчэ раз шчыра дзякую за крытыку!

Загадчык аддзела тармазоў
і святлафораў НДІ БРБРТ
**БЫСЬКІН Луферый Вавілавіч.**

Васіль **НАЙДЗІН**.




# АБРАД

Усе з нецярлівасцю чакалі. Жаніх чакаў абяцаную цесцем машыну, нявеста чакала дзіця, а маладыя разам са сваякамі чакалі загадчыка загса таварыша Урываева.

Спазніўшыся на 73 хвіліны, Урываеў паспешліва агледзеў чарговую пару.

На жаніху сіні хлапчуковы касцюм сорак шостага памеру ляжаў прасторна, з запасам на будучае шчаслівае жыццё. На нявесце сукенка пяцьдзесят шостага памеру, наадварот, ледзь не лопалася. Ад шчасця?..

«Гэтыя больш года не працягнуць»,— прафесійна адзначыў Урываеў і выпаліў завучаны экспромт:

— Дарагія маладыя! Перш чым паставіць штамп на ваш шлюб і пажадаць доўгіх гадоў шчаслівага жыцця, у чым я абсалютна ўпэўнены, дазвольце прапанаваць вам новы сямейны абрад. Што я маю на ўвазе? Малады павінен насячы дроў, а маладая — спавіць дзіця. Напомню: з часоў каменнага веку гэтак правяралася спрытнасць і фізічная сіла не толькі мужчын, але і жаніхоў. Маладому прапануецца рассячы вось гэты цурбанчык. Каб пазбегнуць цяленсанга пашкоджання, нявесту папрашу стаць побач са свякроўю.

У жаніха падкасіліся ногі, калі ён убачыў вялізны асінавы цурбан, на лбе выступілі буйныя кроплі поту, і ён раптам стаў павольна асядаць уніз.

Нявеста магутнай рукой падхапіла маладога і, звярнуўшыся да свёкра, шапнула:

— Падтрымайце яго.

Затым яна схапіла сякеру і з такой сілай ударыла па цурбане, што сякера прабіла асфальт і па самы абух увайшла ў зямлю. Адарваўшы конскую падкову, прыбітую да дзвярэй на шчасце, нявеста лёгка сагнула яе.

— Дарэмна ты, дачка, табе ж хутка ў дэкрэт,— ціха сказала маці, у той час як свякроў радасна закрычала:

«Коня на скаку остановит, в горящую избу войдет!»

— Ідзі спавівай ляльку,— прабасіла маладая і кінула сагнутую падкову да ног маладога.

— Іду, Машачка, іду,— пакрыўся дзявочым румянцам жаніх.

Ляльку ён спавіваў не горш за мнагадзетную маці, густа пасыпаўшы, дзе трэба, талькам і паклаўшы, куды трэба, падгузак.

Мужчыны дружна запляскалі.

— Карміцель ты наш! — радасна праслязілася цешча.

— Сіла мужчыны ў яго слабасці,— дрыготкім голасам запярэчыў свёкар.

— Ну, мілы, пяройдзеш на маё прозвішча ці застанешся на дзявочым? — прымірэнча спытала маладая.

Жаніх раптам усхліпнуў і радасна праверашчаў:

— На тваё, дарагая, на тваё!

**Барыс РАБЕНЬКІ.**

● Калі жартуючы спраўляешся са сваімі абавязкамі, сёй-той угледжвае ў гэтым несур'ёзныя адносіны да працы.

**Юрый КУЧУРА.**

● Чужая дача — цёмны лес.

● Працаваў без агеньчыка — баяўся згарэць.

**Яўген ГНІЛЯКОЎ.**

● За развязнасць і сокала назвалі мокрай варонай.

● Цікава, калі ў пчол бывае мядовы месяц?

**Міхаіл ШУЛЬГА.**

Без слоў.



Мал. Алега ПАПОВА.



Мал. Яўгена ЦАРКОВА.

Мікола ВЯРШЫНІН

## УЛАСНЫ ПАДЫХОД

БАЙКА

Квартал імкліва праляцеў,
Узяў разбег і новы.
І на даклад паклікаў Леў
Мядзведзя тэрмінова.

Сабраўся хуценька Мядзведзь,
Падрыхтаваў паперы.
Пашкробся лапаю ледзь-ледзь,
Зайшоў нясмела ў дзверы.

У кабінеце Шэф, як пан.
Мядзведзь аж схамянуўся,
Ды... зачапіўся за дыван
І раптам спатыкнуўся.

Леў падазрона паглядзеў:
— А-яй, як непрыгожа!
Калі набраўся ты і дзе?
Стаяць ужо не можаш.

— Ды не, працую я ўсе дні,
Навошта мне прыгоды?
Нічога ў рот не браў ані,
Апроч вядзерца мёду.

А пра пітво — і не пытай!..
Ды распаўзлася чутка:
Мядзведзь — п'янюга і гультай,
І... звольніўся ён хутка.

Здараецца і так падчас,
Праз гэта — і нягоды,
Што не па справах цэняць нас,
А больш — па падыходу.




## АСАБІСТАЯ ДУМКА

Хведар Людчык слухаў свайго начальніка Уладзіміра Юркевіча. Той расказваў, як працуе іхняе будаўнічае ўпраўленне, як выконваюцца планы. Для Хведара гэтыя «байкі» былі ўсё адно што агонь пад каструляй з булёнам. Ён паволі закіпаў. А Уладзімір Юркевіч, між іншым, гаварыў:

— У бягучым годзе план мы перавыканаем. Наша ўпраўленне пабудавала ўжо і здало ў эксплуатацыю пяць пяціпавярховых будынкаў для раённага цэнтра.

Гэтага Хведар Людчык вытрымаць не змог:

— Ведаю я, як мы іх здалі! — грымнуў ён на начальніка.— Хто цягаў жалезабетонныя канструкцыі да сябе на дачу? Не ведаеш?! Хто прымушаў блокі сашчапляць абыяк, каб план не згараў? Зараз у пакоях вецер гуляе. А дождж заплывае як да сябе дадому. А як мы сцены абклейвалі? А як насцілалі паркет?! Вярблюда пераплюнулі. Той двухгорбы, а наш паркет — шматгорбы!

Хведара Людчыка несла: нарэшце ўсё начальніку скажу! Няхай не думае, што ўсе пужлівыя.

— А куды вадзілі прыёмную камісію пасля прыёму будынкаў? Не ведаеш? Усё ведаеш!

Хведар Людчык болей не мог бачыць свайго начальніка. Ён рашуча падышоў да тэлевізара. Шчоўкнуў выключальнік.

Начальнік знік і змоўк...

Пятрусь КАПЧЫК.

Без слоў.
Мал. Наталлі ДОРАШ.








### ЖАРТОЎНЫ ПАЙМЕННІК

**А**

— Анцівох з Апалінарам
Гандлявалі, чуў, таварам?
— Рыбай браканьерскай.
— Страх!
— Ну, за страх і далі штраф.

**Б**

— Барыс з Бярнардам у брыгадзе?
— Ага. І сталі добра ладзіць.
— І прыкусіў язык Бярнард?
— Здружыў брыгадны іх падрад.

**В**

— Васіліса Васілю
Выдае ўдзень па рублю.
— Мала?
— До. За той рубель
П'е кефір ён і кісель.

Браты БАРОЎКІ.



МАРА І СУЧАСНАСЦЬ

## МАДЭЛЬ БУДУЧЫНІ

Калі Сідараў атрымаў размеркаванне на фабрыку «Мікрапор», апошняя план выконвала. Па валу. Гэта значыць, абутак выпускалі і адразу ж некуды звальвалі. І хоць мясцовасць вакол фабрыкі была раўнінная, горы ўсялякага абутку высіліся ўсюды. І не кожны альпініст-першаразраднік рашыўся б гэтыя горы скарыць, настолькі яны скаралі сваімі памерамі.

Гандлёвыя арганізацыі гэты абутак браць даўно адмовіліся. Ды што там гандлёвыя, злосныя раскрадальнікі ад гэтых гор адмовіліся, у выніку чаго крывая крадзяжоў рэзка папаўзла ўніз.

А канвеер з кожным годам імчаў усё хутчэй і хутчэй, і горы абутку раслі ўсё вышэй і вышэй. Дырэктар фабрыкі шкадаваў, што абутак — гэта не кнігі, яго з нагрузкай не прадасі. Праўда, крыху выручала цыркавое вучылішча, якое набывала гэты абутак для клоунаў. Але ж іншыя фабрыкі, не менш гарыстыя, былі тут дастойнымі канкурэнтамі.

І вось на «Мікрапор» размеркавалі Сідарава, якога не дарэмна вучылі розуму столькі гадоў. Сідараў з ходу ўвайшоў з галавой у вытворчасць, сумясціў тэорыю з практыкай, абагульніў вопыт мінулага і стварыў мадэль для будучыні. Мадэль была дзівосная: лепшыя замежныя ўзоры перад ёй бы звялі і адразу б перасталі лічыцца лепшымі. Абутак быў цуд! Захочаш ісці ў ім па балоце — калі ласка, захочаш пайсці ў тэатр — зрабі ласку. У ім не сорамна было б прайсціся і акадэміку, і сённяшняму школьніку. Варта было нешта нейкае прышпіліць — і абувай яго ў любы мароз. А калі гэта нейкае адшпіліць — дык вось вам сандалеты для лета.

Здавалася б: бяры гэту мадэль, хапай яе і — неадкладна ў вытворчасць. Але гэта дылетант бы так хапаў, а на фабрыцы людзі паважныя, кожны начальнік не адну пару абутку стаптаў на сваёй пасадзе і ведае: толькі запусці мадэль і тут жа пачнецца... Дзе засцежкі ўзяць, каб летам адшпільваць, а зімой прышпільваць? Дзе людзей узяць, каб гэтыя засцежкі куды трэба, а не куды патрапіць прышылі? Сідараў, вядома, гарачыўся, даказваў, прапаноўваў рызыкнуць. Але яму адказалі з годнасцю: у вас мадэль для будучыні, а прагрэсіўку ўсім хочацца атрымаць сёння. А Сідараў усё роўна гарачыўся. І тады, каб ён астыў, яго адправілі на трыццаць дзён на халадзільнік — гародніну разгружаць.

І ўсё ж ідэі Сідарава перамаглі, і яго мадэль запусцілі ў вытворчасць, толькі ў крыху спрошчаным выглядзе: без засцежак, верх іншага колеру дый падэшва іншай формы.

І хоць у тэатр гэту мадэль ужо не абуеш, затое па балотах у ёй хадзіць ніколькі не сорамна!

Аркадзь КРУМЕР.

### ДУМКІ Ў ТРЫ РАДКІ

● Прынесці рукапіс у рэдакцыю — свята, вынесці — факт біяграфіі.

● У кожным аўтары два сааўтары: мара і сучаснасць.

● Сатыра — гэта гумар, які выпадкова папаў у цэль.

● Плады акселерацыі: хлопчык-сатырык, дзяўчынка-карыкатурыстка.

● Камяні — аргументы ў спрэчцы геолагаў.

● У яго таямніц творчасці, бадай, болей, чым творчасці.

● Ці новыя казкі ствараць ці старыя амалоджваць?

Міхаіл КУЗЬМІН.




### ВЯДОМАСЦЬ ПЛАГІЯТАРАЎ

● Шансы плагіятараў на вядомасць залежаць ад вядомасці тых, у каго запазычваюць.

### БЯЗДАРНАСЦЬ І ЯКАСЦЬ

● Бяздарнасці — па-за законам развіцця матэрыі: іх колькасць не пераходзіць у якасць.

### СТЫЛЬ ГАСПАДАРАННЯ

● Безгаспадарчасць не недахоп, а стыль гаспадарання.

### НЕ КОЖНЫ ГНЕ

● У кожнага ёсць свая лінія, але не кожны мае магчымасць гнуць яе.

Анатоль КУРБАЕЎ.

ЧЫТАЧ — ЧЫТАЧУ





ПОШТА «УЗАЕМАДАПАМОГІ»

# ЗНАЙДЗІЦЕ ЧАС

Пакуль сацыёлагі з дапамогай анкет высвятляюць, як часта мы ходзім у госці, на што трацім вольны час, ці здольныя моцна сябраваць і клапаціцца — не толькі на словах — аб захаванні, напрыклад, багаццяў прыроды,— мы ўжо ведаем агульны вывад анкетавання. У госці не ходзім — развучыліся або так і не навучыліся, марым — моўчкі, стан прыроды нас, вядома, турбуе, але выказваемся наконт гэтага — у большасці выпадкаў! — толькі ў сям'і. Адным словам — нічога суцяшальнага. А наколькі гэта сумленна — жыць і гнаць прэч свае сумненні, утойваць ад сяброў радасці і засмучэнні з ліку тых, хто не датычыць «роднай вытворчасці»? І наогул — як жыць, калі разумееш: сапраўдных сяброў няма, шчырасць і ўзаемавыручка, якія былі калісьці ў дзяцінстве, цяпер — такая раскоша, аб якой і марыць наіўна? Няма часу! І ва ўсіх навокал хранічна не стае часу. І пасміяюцца з цябе, дзівака, знаёмыя, калі вырашыш раптам у адзіночку шукаць новых сяброў, ці да дзіцяча-юнацкіх захапленняў вернешся.

Аднак, усё ж настае момант, калі чалавек да болю востра адчувае патрэбу перабудаваць сваё «жыццё ў вольны час», зрабіць яго больш яркім, асэнсаваным. Скінуць з сябе абыякавасць, ляноту, сум. Страсці ўвесь гэты слой пылу з душы, якая ўжо даўно недастаткова чуйна адгукаецца на сігналы аб спачуванні і дапамозе, прыглушае імпульсы трывогі і дапытлівасці.

А ў адзіночку, між іншым, нават маркі збіраць цяжка...

Менавіта аб усім гэтым думаецца, калі на тваім рабочым стале — пісьмы «Узаемадапамогі».

Рубрыка «Чытач — чытачу» з'явілася ў нашым часопісе амаль год назад. Аб неабходнасці яе з'яўлення, аб сіле яе «прыцяжэння» для вялікай колькасці людзей вось ужо некалькі месяцаў запар нам, журналістам, нагадвае пошта. Штэмпелі соцень гарадоў краіны на канвертах.

Перада мною пісьмы, аўтары якіх вырашылі «рашуча парваць» з алкаголем і «пачаць жыццё спачатку» ў якім-небудзь саўгасе ці калгасе.

А гэта папка з пісьмамі ад тых, хто вырашыў падзяліцца сваімі прапановамі наконт аховы помнікаў архітэктуры, паляпшэння «здароўя» лясоў, рэк, крыніц.

У бліжэйшых нумарах часопіса гэтыя аб'явы будуць апублікаваны. Дарэчы, падобныя карэспандэнцыі пачалі паступаць у рэдакцыю ўжо праз месяц існавання грамадскага аддзела. Крыху нечакана, але... заканамерна.

Дзесяткі і дзесяткі пісьмаў — ад будучых калекцыянераў. Чаму «будучых»? А таму, што людзі толькі-толькі пачынаюць збіраць значкі або паштоўкі, зборнікі вершаў або старыя часопісы. Яны «раптам» знайшлі на гэта час і лічаць, што гэта — вельмі добра. Напрыклад, тых, каго хвалюе творчасць Уладзіміра Высоцкага, хто захоўвае артыкулы і заметкі розных гадоў пра гэтага паэта і артыста, просіць адгукнуцца Святлана Іванова. Ёй 21 год, яе адрас: 195265, г. Ленінград, пр. Луначарскага, 106, кв. 344. Неабходна падкрэсліць: пісьмы філатэлістаў, кнігалюбаў, розных калекцыянераў «Узаемадапамога» публікуе ў парадку чаргі: так, такіх пісьмаў — дзесяткі, а ў кожным выпуску аддзела можна змясціць 10—12 аб'яў...

Многа, вельмі многа маладых і пажылых людзей расказваюць аб дэфіцыце зносін, дружбы. Імкнуцца знайсці аднадумцаў, добрых таварышаў. Вось толькі адна з падобных аб'яў:

**«Я захапляюся парашутным спортам. Люблю чытаць кнігі аб смелых і мужных людзях. У чалавеку цаню сціпласць, прастату, шчырасць і працавітасць. Хачу перапісвацца з равеснікамі, якія захоплены авіяцыяй.**

Таццяна Мароз, 16 гадоў. 247760, г. Мазыр, вул. 17 Верасня, 19-2».

Падобныя запрашэнні пасябраваць з дапамогай часопіса «Узаемадапамога» публікуе ў кожным сваім выпуску. Водгукі працягваюць паступаць некалькі месяцаў.

«Нават паштальён не вытрымаў, неяк спытаў: "Пра цябе ў газетах напісалі, так?" Дзякуй, дарагая рэдакцыя, за дапамогу!» — прыслаў нядаўна паштоўку з такімі словамі Сяргей Фёдаравіч Сцяпанаў з горада Старадуб Бранскай вобласці (яго аб'ява была ў № 5 часопіса за 1986 год).

Дарэчы, галоўны карэспандэнт грамадскага аддзела — чытач — карыстаецца і паслугамі пошты, і тэлефоннай сувяззю. А іншы раз проста купляе білет, прыязджае (здараецца — нават з іншай рэспублікі) у рэдакцыю і просіць тэрмінова дапамагчы яму. Напрыклад, апублікаваць без чаргі «пісьмо» або расшыфраваць код пад якой-небудзь аб'явай. Гэта значыць даць адрас чалавека, які змясціў пад рубрыкай «Чытач — чытачу» радкі даволі далікатнага характару.

Вядома, работнікі аддзела не маюць права парушаць закон чарговасці і тым больш не маюць права даваць адрасы мужчын, жанчын, юнакоў і дзяўчат, якія мараць сустрэць не проста сябра, а спадарожніка жыцця. Таму прыязджаць з мэтай аказацца спрытнейшым за іншых не трэба! Дарэмна гэта. А вось водгук — гэта калі ласка. Ён абавязкова будзе перасланы аўтару аб'явы, і аўтар адкажа вам. І сам паведаміць, дзе жыве.

Прыемна адзначыць: за год існавання «Узаемадапамогі» яшчэ не было выпадку, каб хтосьці пасля звароту ў аддзел пашкадаваў аб гэтым. І яшчэ не было выпадку, каб аўтары аб'яў атрымалі водгукі і не сталі на іх адказваць. Аднак, каб адказаць усім,— патрабуецца пэўны час. Да таго ж аўтары некаторых водгукаў блытаюць адрас «Узаемадапамогі», звяртаюцца ў іншыя рэдакцыі і — як вынік — іх канверты затрымліваюцца ў дарозе. Вось чаму, паважаныя Іван Байданаў з вёскі Ганчары Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці, Уладзімір Кім з пасёлка Атласава Мількаўскага раёна Камчацкай вобласці, дваццацітрохгадовы Сяргей (прозвішча чамусьці не назваў) з Архангельска, вы атрымалі адказы не так аператыўна, як хацелася б і вам, і нам.

Значная частка пісьмаў ад юнакоў, якія рыхтуюцца да звальнення ў запас з радоў Савецкай Арміі. Яны паведамляюць аб сваіх поспехах у баявой і палітычнай падрыхтоўцы, аб сваіх сябрах і аб сваіх планах... Напрыклад, тры сябры — Анатоль, Віталь і Юрый заканчваюць службу ў пагранічных войсках КДБ СССР і мараць паступіць

у педагагічны інстытут. Таму яны — як паведамляе па просьбе сяброў Юрый Маскальчук — хацелі б перапісвацца з тымі равеснікамі, якія ўжо рыхтуюцца атрымаць дыпломы педагогаў. У прыватнасці, з аўтарамі аб'явы «Давайце перапісвацца!» («Беларусь» № 9 за 1986 год). Пісьмо гэтых воінаў і падобнае — ад танкіста Мікалая Валчкова — рэдакцыя перадала адрасатам.

Пісьмы з месц пазбаўлення волі... Яны прыкметна адрозніваюцца ад усіх астатніх. Гэта — пісьмы-споведзі, пісьмы людзей, якія вострa ненавідзяць мінулае, сябе ў гэтым мінулым. І — няцяжка заўважыць — горача мараць «пачаць жыццё сумленна, стаць патрэбным, карысным грамадству». Набыць добрых сяброў, стварыць сям'ю, гадаваць дзяцей, працаваць так, каб не сорамна было глядзець у вочы людзям.

Безумоўна, ніякага «чырвонага святла» перад такой поштай у грамадскім аддзеле няма. Яны публікуюцца або перасылаюцца аўтарам аб'яў як і ўсе астатнія. І адказы на іх ідуць — як і на ўсе астатнія. Вось чаму, Мікалай Новік, Анатоль Грыгор'еў (Комі АССР) і Юрый Грабоўскі з Віцебскай вобласці, вы дарэмна непакоіцеся пра лёс сваіх канвертаў.

А вось Сяргею Маславу з Мазырскага раёна, Аліне Фёдаравай з Масквы, мінчанцы Людміле Дзюбе і Мікалаю Яцкевічу (ён жыве ў Гродзенскай вобласці) мы вымушаны паведаміць: вашы пісьмы прачытаны і здадзены ў архіў. Справа ў тым, што дэталі да радыёпрыёмнікаў, фатаграфіі артыстаў з іх аўтографамі, экземпляры розных выданняў і г. д. аддзел «Узаемадапамогі» не высылае. Аб гэтым мы ўжо неаднойчы напаміналі.

Цяпер апошняе, аб чым неабходна сказаць у гэтым аглядзе. Людзі ад кагосьці са знаёмых даведваюцца аб існаванні «Узаемадапамогі», аб сённяшняй тэматыцы «Беларусі», спрабуюць купіць у кіёску часопіс, але...

— Чаму ў кіёсках няма «Беларусі»? Пытаешся пра часопіс — кажуць, яшчэ не паступаў. Праз 2—3 дні зноў цікавішся — «ужо прададзен». Непарадак.

Прыкладна такія сярдзітыя тэлефонныя званкі і пісьмы ў рэдакцыю ўжо сталі прывычнымі. Але ж яны — не па адрасу.

Па-першае, няма, напэўна, ніводнага выдання, супрацоўнікі якога імкнуліся б да змяншэння тыражу. Па-другое, лепшы спосаб пазбавіць сябе ад дарэмных абходаў кіёскаў «Саюздруку» — гэта... Правільна, падпіска. Тым больш, што яна ідзе круглы год.

**Валерый ЛАПІН.**

**Фота Дзмітрыя ВІЛЬКІНА.**




Пад рэдакцыяй міжнароднага гросмайстра **Віктара КУПРЭЙЧЫКА**

# «...І ЗНОЎ ПАЧЫНАЕЦЦА БОЙ»

**У тыя зімовыя дні 1979 года ўсё ў горадзе-героі Мінску сведчыла аб тым, што сюды завітаў Усесаюзны шахматны фестываль. Прадстаўнічым быў састаў яго ўдзельнікаў. Прыехалі сусветна вядомыя гросмайстры — экс-чэмпіён свету Міхаіл Таль, чэмпіён СССР 1978 года Віталь Цашкоўскі, адзін з ветэранаў — Яфім Гелер, вядомыя шахматысты сярэдняга пакалення — Юрый Балашоў, Віктар Купрэйчык, Алег Раманішын, Аляксандр Бяляўскі, Рафаэль Ваганян, маладыя — Сяргей Далматаў, Артур Юсупаў і зусім яшчэ юны бакінец Гарык Каспараў.**

**Напярэдадні чэмпіянату-79, на прэс-канферэнцыі, Міхаіл Таль адзначыў: «Любы поспех Гарыка Каспарава ўжо не будзе лічыцца сенсацыяй, бо сёння ён, нягледзячы на свой юны ўзрост, баец са стажам і можа паднесці сюрпрыз кожнаму гросмайстру...»**

**Каспараў, у сваю чаргу, сказаў так: «Для мяне асабіста Мінск шчаслівы горад, можна нават сказаць — родны. У 1978 годзе я атрымаў тут перамогу на шахматным мемарыяле Аляксея Сакольскага, упершыню выканаў нарматыў майстра спорту. Чэмпіянат краіны заўсёды вельмі складанае выпрабаванне для кожнага шахматыста, а тым больш для мяне — пачаткоўца. Але я ўпэўнены, што Мінск застанецца для мяне шчаслівым горадам...»**

**У сваіх прагнозах не памыліліся абодва — і Міхаіл Таль, і Гарык Каспараў.**

**У першым туры дзесяцікласнік з Баку перамог Тамаза Геаргадзе, у другім — Яўгена Свешнікава, а ў трэцім школьнік экзаменаваў студэнта Артура Юсупава.**





**Пазіцыя, якую вы бачыце на дыяграме, атрымалася ў партыі Каспараў — Юсупаў.**

**Ход барацьбы каменціруе сам Каспараў.**

16. Ch6!gh 17. f3. На 17. e6? мог быць такі працяг: 17. ...fe 18. Ф : g4+Kph8. 19. Ф : e6 Ф : e6 з раўнавагай.

17. ...h5 18. Лad1 Фf5 19. fg Ф : e5. Даволі цяжкая пазіцыя ўзнікала для чорных пасля 19. ...Ф : g4 20. Лd7, а пры ферзях белыя мелі моцную атаку.

20. Лde1! Нічога не давала 20. Л : f7? Kph8, а выйгрыш пешкі (20. C : f7+ Kph8 21. C : h5) увогуле выпускаў ініцыятыву.

20. ...Фc5+. Пасля — 20... Фg5 21. Лf5 Фh4 22. Лe4 Kph8 23. g5 — чорны ферзь трапляў у пастку.

21. Kph1 Лad8.

Прайграецца фігура, але чорныя ўжо бездапаможныя. Напрыклад: 21. ...Лae8 22. Лf5 Фd6 23. gh+Kph8. 24. Л : f7 Л : f7... і гэтак далей.

22. Лf5 Ф d6 23. Лd5 Фg6.

24. Л : e7 Л : d5 25. C : d5 hg 26. Фe4.

Далейшае не патрабуе каментарыяў.

26. ...Ф : e4 27. C : e4 Лd8 28. Л : c7... І праз некалькі хадоў Юсупаў спыніў шахматны гадзіннік і павіншаваў свайго саперніка з перамогай.

Багіня шахмат Каіса з прыхільнасцю ставілася не толькі да самага юнага ўдзельніка чэмпіянату краіны, але і да самага старэйшага — Яфіма Гелера (тады яму было 54 гады).

Падаём фрагмент з партыі В. Цашкоўскі — Я. Гелер.

— Глядзіце, які можа атрымацца прыгожы мат,— пляскаў у ладкі ў прэс-бюро вядомы шахматны каментатар, міжнародны гросмайстар Эдуард Гуфельд, і паказаў вось гэты працяг за белых: 47. Фf8 48. Kph4 і 49. Cg5×!

Гульня, аднак, пайшла другім шляхам — Гелер спакойна абышоў усе замініраваныя Цашкоўскім палі.

46. ...Фd8 47. Фc6 Фh8 48. Ф : b5 Фh1 49. Фd7. На 49. Ф : c4 — вечны шах: 49. ...Фg1+50. Kpf3 Фd1+51. Kpg2 (51. Фe2 Фh1+) 51. ...Фg4+.

49. ...Фg1+50. Kpf3 Фh1+51. Kpg3 Фg1+52. Kpf3 Фh1 53. Kpe2. У цэйтноце белыя адмовіліся ад нічыёй і нечакана трапілі ў катастрофу.

53. ...Ф : e4 54. Фe6+Kpg7 55. b5 Фd3+56. Kpf3 Kg5+. Белыя прайгралі.

Для Я. Гелера чэмпіянат СССР у Мінску стаў «зорным». На старце маскоўскі гросмайстар зрабіў сем нічыіх запар, потым, пасля «акліматызацыі», набраў 7 ачкоў з 8 (!) і заваяваў званне чэмпіёна!

А што Гарык Каспараў?

Для школьніка з Баку Мінск зноўтакі (другі раз запар!) стаў шчаслівым — трэцяе месца і бронзавы медаль чэмпіянату краіны.

Няблага для дэбютанта!

...Пройдзе некалькі гадоў, і прызёр чэмпіянату-79 Гары Каспараў стане чэмпіёнам свету!

Пройдзе некалькі гадоў, і ў сакавіку 1987 года Мінск зноў гасцінна запросіць у свой новы Палац шахмат і шашак удзельнікаў чэмпіянату СССР.

Як бачым, фраза «...І зноў пачынаецца бой» становіцца для аматараў шахмат і шашак Мінска амаль што «хатняй загатоўкай».

# КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Партрэт жывапісца І. Крамскога. 8. Часціна мовы. 9. Найменшая частачка рэчыва. 12. Адзінка вымярэння сілы току. 13. Гаручая вадкасць. 14. Твор кінамастацтва. 17. Дзеючы вулкан у Японіі. 19. Друкаваная форма з рысункамі. 21. Курортны горад на беразе Чорнага мора. 23. Каштоўны камень. 24. Раздзел механікі. 26. Раённы цэнтр у Гродзенскай вобласці. 28. Мінерал. 29. Народная гульня з мячом. 32. Цвёрды коўкі метал. 33. Буйны музычны твор. 36. Горная сістэма на тэрыторыі СССР, МНР і Кітая. 39. Рускі паэт. 40. Дзеючы вулкан у Зондскім праліве. 41. Опера В. Залатарова.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Опера Гуно. 2. Лісцевае дрэва. 3. Узбекскі савецкі кампазітар, народны артыст СССР. 4. Рыба сямейства карпавых. 6. Планета. 7. Драпежны звярок з каштоўным футрам. 8. Гідратэхнічнае збудаванне. 10. Літара грэчаскага алфавіта. 11. Эканамічная структура грамадства. 15. Сталіца АССР. 16. Опера А. Арэнскага. 18. Хімічны элемент. 19. Геаметрычнае цела. 20. Вучэнне аб маралі. 22. Беларускі савецкі кампазітар. 25. Музычны твор. 26. Бясколерны газ. 27. Дробная марская рыба. 30. Назва прадстаўнічых устаноў у некаторых краінах. 31. Бразільскі пісьменнік, камуніст. 34. Атмасферная вільгаць. 35. Дзяржава ў Азіі. 37. Кароткі прыпынак у гучанні мовы. 38. Невялікая эстрадная п'еса.

**Склаў Мікалай КУРЫЛЬЧЫК.**

**АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 3.**

**Па гарызанталі:** 5. Кавалец. 6. Харужая. 8. Бандарына. 11. Потас. 14. Асіюк. 15. Ржэцкая. 16. Ка́ліва. 17. «Нагбом». 20. Андарак. 22. Сліва. 23. Шчара. 26. Каменская. 27. Габелен. 28. Паўлава.
**Па вертыкалі:** 1. Карагод. 2. Верас. 3. Ганна. 4. Данілюк. 7. Ватацы. 9. Чаркасава. 10. «Асіповічы». 12. Кжывань. 13. Каравай. 18. Галіна. 19. Слуцкая. 21. Крыкава. 24. Казей. 25. Пасад.

КАЛЯНДАР



САДОЎНІКА

# ВЯСНА Ў БЕЛАЙ КВЕЦЕНІ

На гасціннай беларускай зямлі добра прыжыўся яшчэ адзін госць з паўднёвых краін — абрыкос. Гэта далікатная расліна пры належным доглядзе штогод радуе шчодрым ураджаем сакавітых і духмяных пладоў руплівых гаспадароў не толькі паўднёвых, але і паўночных раёнаў рэспублікі.

Размнажаецца абрыкос насеннем і вегетатыўна. Беларускія абрыкосавыя сады ў асноўным насеннага паходжання, для пасадкі якіх выкарыстоўвалася мясцовае насенне, нарыхтаванае са спелых пладоў марозаўстойлівых дрэў з высокімі смакавымі якасцямі.

Высяваць насенне можна восенню і вясной. Пры веснавой сяўбе яно абавязкова павінна прайсці стратыфікацыю.

І ўсё ж большасць гатункаў абрыкоса пры размнажэнні насеннем не забяспечваюць перадачы нашчадкам каштоўных якасцей гатунку. Таму размнажаюць іх вегетатыўна — прышчэпкай (ранняй вясной) і акуліроўкай (з 15 ліпеня па 15 жніўня). Лепшыя прышчэпы для абрыкоса — саджанцы мясцовых культурных гатункаў абрыкоса і жардэлі.



Гэта квітнеючае абрыкосавае дрэва вы, магчыма, бачылі на чыгуначнай станцыі Брэст.

Можна выкарыстоўваць таксама саджанцы слівы і алычы. Тэхніка прышчэпкі не адрозніваецца ад прышчэпак іншых пладовых раслін.

Надзвычай важна правільна выбраць месца для абрыкоса. Дрэва гэта аддае перавагу ўзвышаным участкам, якія добра праветрываюцца, але захаваны ад халодных паўночных вятроў. Разам з тым на паўднёвых схілах абрыкос пакутуе ад сонечных апёкаў, раней, чым трэба, пачынае вегетацыю, губляе марозаўстойлівасць. Лепш расце на глебах з добрай аэрацыяй і ўстойлівым водным рэжымам. Працяглы застой паверхневых вод прыводзіць да гібелі дрэў.

І яшчэ некалькі сакрэтаў агратэхнікі абрыкоса (вядома, з уласнага вопыту):

**Лепшым часам для пасадкі абрыкоса з'яўляецца вясна.**

**Калі хочаце мець добры ўраджай, пасадзіце ў садзе тры гатункі абрыкоса — для надзейнага перакрыжаванага апылення.**

**У нашых умовах лепш фарміраваць нізкаштамбавыя (40—50 см) і сярэднештамбавыя (60—70 см) дрэвы абрыкосаў, пасля пасадкі падразаць усе галінкі з улікам сілы росту.**

**Глебу ў пладаносных абрыкосавых садах лепш утрымліваць пад чорным папарам.**

**Абрыкос чуйна рэагуе на комплекснае ўнясенне арганічных і мінеральных угнаенняў.**

**Мікалай ДЗІЛЕНДЗІК,**
**кандыдат сельскагаспадарчых навук.**
Фота аўтара.

# МАСТОК У НОВАЕ ЖЫЦЦЁ

Кожная зіма ў жыцці дрэў — чарговае, часам нялёгкае, выпрабаванне. Нярэдка пасля працяглых маразоў і рэзкіх ваганняў начных і дзённых тэмператур адбываецца пашкоджанне кары (у першую чаргу ў грушы, костачкавых парод, цеплалюбівых гатункаў яблыні). Вясной на вядучых галінах і штамбах маладых дрэў пашкоджаныя ўчасткі кары набываюць чырванаватае адценне. Улетку кара высыхае і лушчыцца, з трэшчынак выцякае сок. Дрэва пачынае хварэць і праз некаторы час гіне.

Не чакаючы з'яўлення ранак на ствалах дрэў, неабходна яшчэ вясной, пастукваючы драўляным малаточкам па штамбах, выявіць пашкоджаныя месцы і прыбіць невялікімі цвічкамі адапрэлую кару. Калі раны на штамбах і ў развілках шкілетных галінак усё ж з'явіліся, іх аскрабаюць ад мёртвай кары, замазваюць садовым варам і абвязваюць мешкавінай. У выпадку, калі рана вялікая і ахоплівае больш як адну чвэрць акружнасці штамба, неабходна зрабіць прышчэпку «мастком». У якасці прышчэпу выкарыстоўваюцца моцныя адно- або двухгадовыя чаранкі.

Прышчэпку лепш рабіць у пачатку мая, пасля пачатку руху сокаў. На ніжняй і верхняй частцы чаранкоў робяць гладкія косыя зрэзы, размешчаныя ў адной плоскасці. Канцы чаранкоў устаўляюць пупышкамі ўгору ў разрэзы на кары вышэй і ніжэй раны (мал. 1). На вялікіх ранах часам робяць некалькі «масткоў» на адлегласці 8—10 см адзін ад аднаго. Прыкаранёвыя парасткі або «ваўчкі» звычайна вынішчаюць, бо яны перашкаджаюць росту «масткоў», але яшчэ лепш было б прышчапіць іх верхавінкі ў штамб вышэй раны. Можна таксама пасадзіць побач з хворым дрэвам дзічку і прышчапіць яе макушку вышэй раны. Такі спосаб дае асаблівы эфект пры выратаванні каштоўных і далікатных гатункаў пладовых раслін.




**Мал. 1.** Прышчэпка пашкоджаных дрэў «мастком»: 1 — прышчэпленае дрэва; 2 — верхні і ніжні разрэзы кары; 3 — падрыхтаваны для прышчэпкі чаранок.

**Мал. 2.** Перапрышчэпка дрэў за кару (А), «урасшчэп» (Б): 1 — прышчэпа; 2 — прышчэпак; 3 — абвязка; 4 — завершаная прышчэпка, абмазаная садовым варам.

Вясновую прышчэпку можна выкарыстоўваць таксама для лячэння кары, пагрызенай мышамі і зайцамі, для акультурвання дзічак і перапрышчэпкі аднаго гатунку другім.

Вядома, найбольш простым спосабам з'яўляецца прышчэпка за кару. На зрэзе прышчэпы робяць падоўжны разрэз кары (мал. 2-А). Ніжні зрэз чаранка павінен быць косым, у 3-4 разы даўжэйшым за дыяметр. Верхні зрэз чаранка робяць над пупышкай і таксама злёгку скошаным. Затым устаўляюць чаранок пад адзін або два бакі кары.

Тоўстыя прышчэпы звычайна прышчапляюць «урасшчэп». У расшчэплены тарэц прышчэпы з аднаго або абодвух бакоў устаўляюць чаранкі, зрэзаныя на клін. Пры гэтым варта сачыць, каб кара прышчэпы і прышчэпка супалі.

Месцы прышчэпак старанна абвязваюць шпагатам або поліэтыленавай плёнкай, парэзанай на стужкі, затым замазваюць садовым варам (мал. 2-А, 4). Замест садовага вару для прышчэпак і лячэння ран можна выкарыстоўваць нігролавую замазку, прыгатаваць якую зусім няцяжка: 4 шклянкі прасеянага драўлянага попелу перамяшаць з 1 літрам адпрацаванага нігролу. Пасля таго, як прышчэпкі прыжывуцца, шпагат трэба пераматаць, каб ён не ўразаўся ў тканіну дрэва.

Каб прышчэпка прайшла паспяхова, чаранкі для яе неабходна нарыхтоўваць восенню або ранняй вясной да набухання пупышак і захоўваць у вільготным стане пры тэмпературы 0 — +5° С. Звычайна чаранкі захоўваюць у пяску або вільготным пілавінні ў падвальным памяшканні. Не пашкодзіць загарнуць іх у поліэтыленавую плёнку, каб засцерагчы ад мышэй. Зверху чаранкі накрываюць снегам, слоем у 30—40 см, а затым прысыпаюць пілавіннем, торфам або мохам, каб снег не растаў раней часу.

**Навум МЕЛЬНІК,**
**кандыдат сельскагаспадарчых навук.**






■ І мы — аратыя.
■ Да суседа ў госці.

Фота Віктара ЖЫЛІНА.



# ПІНСКІ ТРЫКАТАЖ— СУЧАСНЫ, ЗРУЧНЫ, ЭЛЕГАНТНЫ

*У мадэлях пінскіх трыкатажнікаў часта выкарыстоўваюцца аб'ёмныя формы, свабодныя рукавы, расшыраная лінія плячэй.*

*Сучаснай модзе адпавядаюць і высокааб'ёмная пража з эфектам натуральных валокнаў, з дабаўленнем казінага пуху, і разнастайнасць фактуры, і выкарыстанне арыгінальнай фурнітуры.*

*Лепшыя вырабы з маркай Пінскага ВА адрасаваны дзецям.*

**БЕЛАРУСКАЕ АГЕНЦТВА ПА ГАНДЛЁВАЙ РЭКЛАМЕ**
**(По заказу Беларускага рэспубліканскага Дома мадэлей).**